# СЬВЯТАЯ ПРАЎДА
# ДЫ ІНШЫЯ КАЗКІ

ДЫПТЫХ: ЛЕВЫ БОК

*“Краса ёсьць праўдай, праўда ёсьць красою –*
*Усё, што знаў ты і што мусіш знаць”*

ПЕРАКЛАДЫ

# Пэрсі Бішы Шэлі

## ФІЛЯЗОФІЯ КАХАНЬНЯ

У раку зьліліся ручаіны,
Акіян абняў дзясяткі рэк,
І вятры зь нябеснае краіны
Жарсьцю зьнітаваныя навек.
Пар шчасьлівых на зямлі нямала,
Бо нябёсаў воляю сьвятой
Ўсіх любоў на сьвеце паяднала,
Ды ня нас з табой.

І зірні – цалуюць неба горы,
Хвалі абняліся й пагатоў,
Ружам ганарлівым – спрэс дакоры
Ад калісь адрынутых братоў.
Сонца шле зямлі свае дарункі,
Месяц лашчыць мора ў ціхім сьне...
Толькі што з таго – бо пацалункі
Дарыш ты ня мне.

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

# Джон Кітс

## ОДА МЭЛЯНХОЛІІ

Не выціскай атруты з аканіту,
Да Леты не ідзі ў аблудным сьне,
Хай Празэрпіна прывідам зь нябыту
Твайго ілба ніколі не кране;
І зь ягад ціса не рабі ружанцу,
Псыхеі не дазволь прыняць аблічча
Начнога матылька, не запрашай
Саву дзяліць з табой журботу танцу,
Бо ценяў млява цень тады пакліча,
Каб затапіць бяссоньнем твой адчай.

Але калі сьлязьмі набракнуць хмары
І мэлянхолія зальле палі,
Каб напаіць сасьмяглыя абшары
І даць спатолю стомленай зямлі,
Тады сумуй зь вясёлкаю на моры,
З раскошаю прыўкраснае півоні
І з ружаю, самотніцай начэй,
Калі ж твая ўладарка не ў гуморы,
Вазьмі яе пяшчотныя далоні
І пі нагбом тугу зь яе вачэй.

Жыве яна з Красой, чый век кароткі,
І з Радасьцю, што хутка адцьвіла,
І з Асалодай, чый нэктар салодкі
Атрутай робіць майская пчала.
Так, у сьвятарнай залі храма ўцехаў
Сьпяваюць Мэлянхоліі харалы,
І толькі той узыдзе на амбон,
Хто зьведаў шчасьце, стомлены і сталы,
Бо ён адчуе горыч яе сьмеху
І трапіць назаўжды ў яе палон.

# ОДА ГРЭЦКАЙ ВАЗЕ

Спакоем гадаваная адвеку,
Цнатлівая нявеста цішыні,
Лясны гісторык, лепш за чалавека
Раскажаш казку пра былыя дні.
Якіх легенд хаваеш ты спляценьні?
Пра лёс багоў? Сьмяротных лёс пракляты?
Аркадзкіх гор даўно мінулы час?
Што гэта за пужлівыя дзяўчаты,
Шалёныя змаганьні, целы, цені?
Што за кімвалы, флейты, юр, экстаз?

Чуваць салодкіх гукаў пералівы,
Ды тыя, што ня чутны, – саладзей.
Таму гучыце, ціхія матывы,
Для радаснай душы – не для вушэй.
Прыўкрасны хлопчык, назаўжды пяшчота,
І вечна зелянець галінам дрэў,
Ня спраўдзіцца юначае жаданьне;
Аднак ня варта вечнасьці маркота –
Ты не спазнаеш шчасьця і ня зьвяне
Краса каханай, як ня змоўкне сьпеў.

Шчасьлівыя, шчасьлівыя галіны!
Адвечны ўбор – няхай ідуць гады;
І ты, сьпявак Тэмпэйскае даліны,
Бо песьня твая новая заўжды;
Шчасьлівае, шчасьлівае каханьне!
Шчасьлівы дух, нягодамі ня скуты,
І кроў кіпіць – бяз болю і клапот;
А жарсьць людзкая, быццам сьнег, растане
І зьнікне, пакідаючы пакуты,
Гарачы лоб і перасохлы рот.

Хто тыя, што выходзяць у дарогу?
Свае дары на чый нясуць алтар?
Ахвяраю якому будзе богу
Цялушка ў кветках, раскажы, сьвятар!
І што за горад ля ракі ці мора
Альбо ў гарах муры гасьцінных вежаў
Пакінуў люд сьвятарным ранкам тым?
Ніхто ня прыйдзе, гораду на гора,
Каб падзяліцца навіною сьвежай
І расказаць, чаму стаіць пустым.

Атычны вобраз! Пояс мармуровы
Цябе абвіў – са стомленых мужчын,
Дзяўчат, галінаў: набажэнствы, ловы!
Твая хвалюе форма без прычын,
Нібыта вечнасьць, пастараль спакою!
Калі мы сыдзем, то сярод нашчадкаў
Ты застанесься, ім у горы зьзяць,
Ты ім раскажаш, сябра і загадка:
Краса ёсьць праўдай, праўда ёсьць красою –
Усё, што знаў ты і што мусіш знаць.

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

# Артур Конан-Дойл

## ЛЯ ПАЎНОЧНАГА МОРА

Тут мора выйшла на пясок –
І ўся ў салёных пырсках ты.
Тут хвалі коцяцца здалёк
І лашчацца, нібы каты.
Здалося, тут сышліся ўтрох
Старое неба, што ўгары,
Старое мора, што ля ног,
Каханьне – сябра іх стары.

І сонца працінае гладзь
Туману, што з-за мора плыў,
Каб, як альхімік, перагнаць
У золата сьвінец імглы.
Глядзі! Нібыта адкрыцьцё:
Стаў золатам бясплотны дым –
Так нават шэрае жыцьцё
Каханьне робіць залатым.

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

# Эрнэст Доўсан

## ВІЛЯНЭЛА ЗАХОДУ СОНЦА

Хадзем, дзіця! Спачні –
Дзень скончаны дазваньня,
Вунь захад у агні!

Заснулі ў цішыні
Гульня і шчыраваньне.
Хадзем, дзіця! Спачні.

Нібыта птах, засьні
Ў сваім гнязьдзе да раньня:
Вунь захад у агні!

Квет не схаваў ані
Дрымоты на зьмярканьні.
Хадзем, дзіця! Спачні.

І поўня ў вышыні.
Час надышоў вяртаньня:
Вунь захад у агні!

І нёс з далечыні
Цябе, й шукаў адхланьня.
Хадзем, дзіця! Спачні –
Вунь захад у агні!

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

# Фрэнсіс Брэт Янг

* * *

*Hic Jacet Arthurus Rex Quondam Rexque Futurus**

Артур сышоў... Трыстан у Карэоле
Заснуў, мінуўшы свой апошні крэс,
І сьпіць Ізольда побач, і ніколі
Ня выплыве з глыбіняў Лаянэс.

Паў Лансэлот... І іржавець бяз плёну
Калісь зламаным дзідам ля магіл
У безыменных землях Авалону:
Гарэт, Гавэйн і Галахад – тло, пыл.

Дзе флюгеры і вежы Камэлота?
Дзе Тынтагель і дзе зьнікае сьлед
Каханкаў, паннаў, даўніх іх журботаў?
Ня ўведаць – Мэрлін свой схаваў сакрэт.

І Гвінэвэра... Не, ня кліч былое,
Ня зблякла каб краса, якую час
Даў імені – яно і боль, і мроя,
Што салавей у песьнях зьліў ня раз.

Лепш не капай, каб праўда не паўстала,
Што ў Асталаце – бруд і цяжкі дух,
Што рыцар быў ня лепшы за зухвала,
Лілейная Элейн была са шлюх.

---

* Тут спачывае Артур, кароль былы і кароль будучы (лац.)

Бо ткалі казкі, быццам габэлены,
Паэты так, як з рэчываў сваіх
Прадзе павук кудзелю. Вабяць зьмены
Раней пустых легенд. Ды што нам зь іх?

У час, як гінуў Рым, бы дуб падгнілы,
Які стагодзьдзі цягнуць да зямлі,
Здалеў прабіцца цуд з апошняй сілы
Атожылкам зялёным у гальлі.

Ён – дух Брытаніі – прарос у тым народзе,
Што нашых берагоў і плоць, і кроў:
Калі і жыць – то толькі на свабодзе.
Калі бяда ідзе з усіх бакоў,

Яны ўстаюць і ў сэрца чорнай буры,
Мячы падняўшы, скачуць напрасткі...
Іх барбары адолелі ў віхуры
І ўславілі герояў на вякі,

Зрабіўшы іх легендай: самы сьмелы
Артур, Амброзій – кім ён быў тады? –
І вояў шыхт нібыта ацалелы,
І слава іх перажыве гады.

Іх так няшмат... Хавае час суровы,
Як захапіла сьмерць іх у палон,
Як несьлі ў ноч яны сьцягі Хрыстовы,
Як вёў іх Гвэна вогненны дракон.

Ды знаем мы: калі чужая сіла
Іх зьмяла й саксы мкнулі стрымгалоў,
Ноч сонца над Брытаніяй згасіла,
І ў цемры чуўся шэпт: Артур сышоў.

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

# Эдвард Тэйлар

## КАЛІ АДЗІН ПАМЁР ЗА ЎСІХ, ДЫК УСЕ ПАМЕРЛІ

**Мэдытацыя над 2 Кар. 5:14**

Сьвяты мой Госпад і Яго Любоў!
Ты за мяне памёр – і я ў Табе?
Дастала сьмерць сваю стралу ізноў,
Ня трапіла – і я жывы ў журбе?
Для стрэлаў сьмерць нагледзела мішэнь –
І ты адзін сышоў у ноч і цень?

Ты за мяне памёр; сьмяротным сном
Засну і я, бо так прызначыў Ты?
І я ўжо чую – сьмерць ідзе ў мой дом,
Каб надышоў адплаты час сьвяты.
Калі адзін памёр за ўсіх, то ўсе
Памруць у ім – сьмерць волю прынясе.

Бясконцасьці чырвоная страла
Цябе паваліць – трапна цэліць лук.
Ты – галава іх, сьмерць цябе зьняла,
І сьмерць яны з Тваіх прымаюць рук.
Бо сьмерць твая – і іх адвеку сьмерць,
Каб грэшную адрынуць кругаверць.

Душа пяе – бо сьмерць ужо ў труне,
І над гнільлём – каменьне ды курган.
І сьвятасьць – пераможца ў той вайне,
І сьмерць сканала ад сьмяротных ран.
Яна – відзеж на шчасных берагах,
І больш не абуджае ў сэрцах страх.

Калёны вежы расьпісаў мастак,
Ды вобраз сьмерці ён сказіў маной:
Вачніц правалы і гнілы касьцяк,
Пясочны час сьцякае пад рукой,
Рыдлёўка побач – знак яе дароў,
Яе ўладаньняў – трунаў, цьвінтароў.

Бяз джала сьмерць пакінула жывых.
Хоць нехрысьць жаху сьмерці не здалеў,
Ды цень яна для чыстых і сьвятых,
Абмыты твар – яна ў ім, быццам сьпеў,
Што агарне й, злавіўшы псальмы ніць,
Адправіць душы Госпада хваліць.

Дазволь убачыць сьмерць, грахі, праклён,
Што супакой на могілках знайшлі.
Дазволь заганаў, што мае здавён,
Пазбыцца і ўваскрэснуць адылі.
І волі я ўзьнясу хвалу Тваёй –
Ты зрынуў сьмерць, і я стаю над ёй.

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

# Жан Жэнэ

## СЬМЯРОТНІК

**(Урывак з паэмы)**

*У памяць Марыса Пілоржа,*
*дваццацігадовага забойцы*

...Сюды ўвайдзі, о сонца, ноч маіх Гішпаній,
І вочы, што памруць, ратуй ад цішыні,
Дай мне сваю руку і дзьверы расчыні,
Зьбяжым адсюль удвух – я мару пра блуканьні.

А потым прыйдзе дзень, прачнуцца лугавіны,
Зазьзяюць зранку травы, кветкі, камяні
Расой, што хутка вып'юць сонца прамяні,
Званіца загучыць – і толькі я загіну.

Прыйдзі, о ранішняе неба, да замкнёных,
Хаця б на гэту ноч мой утаймуй адчай,
Пакутуй, як ніхто, катуй і забівай,
Але прыйдзі! Краніся шчок, ад сьлёз салёных!

Нам ёсьць пра што казаць – пра нашае каханьне,
Нам ёсьць што закурыць у карцэрных мурах.
Скажы, чаму суды ідуць па галавах
Прыгожых – перад імі блякне дзень дазваньня.

Каханы, увайдзі ў мяне, разьбі кайданы!
Спусьціся ў пекла і свае схавай сьляды,
Больш гнуткі, чым пастух, ляці цішком сюды,
Нібыта мёртвы ліст, палётам апантаны.

Наскрозь мінай муры і балянсуй, зацяты,
Па скраі бездані; хавай сьвятло ў глыбі,
Благаньнем і нажом расчысьці шлях, забі,
Але прыйдзі! Хаця б за пяць хвілін да страты...

*Пераклала з французскай Ганна Янкута*

# Ян Якаб Слаўэрхоф

## КАНЕЦ

Калісь я чорнай жыў тугой,
Яна — як сьлед ад ран,
І думкай дыхаў я такой:
Вярнуць здалее мне спакой
Далёкі акіян.

І вось — ад берагу адплыў,
Наўкол — марскі прастор адно,
Алены болей не відно,
І цень Да Кунья зьнік даўно,
Ды цягне зноў, нібы прыліў,

Зямля, прытулак цёмны мой.
Я ўведаў, што спакой — падман:
Ня суша і не акіян,
А дошкі сьлед, што зьеў туман
Ці змыў прыбой.

*Пераклала зь нідэрляндзкай Ганна Якута*

# Эрнст Ван Алтэна

## НІЗІННЫ КРАЙ

Калі свавольна мора накатвае на дзюны,
Між стромаў белай пенай гуляюцца буруны,
Калі грызе базальт суровы акіян,
Калі ўзьбярэжжа з дамбай ахутвае туман,
Калі з адлівам пляж пусьцее, быццам зьмер,
Калі заходні вецер узвые, быццам зьвер,
Мой б’ецца край, нізінны край.

Калі ўмывае дождж завулкі, плошчы, крамы,
І вежы, і дамы, і да нябёсаў храмы –
Ёсьць горы нават тут, у краі між нізін, –
Калі, як па раскладзе, дакладны бег гадзін,
Калі, нібыта гномы, мы ўсе пад гнётам хмар,
Калі з усходу вецер шчэ больш зраўняў абшар,
Чакае край, нізінны край.

Калі вісіць імжа над самаю вадой,
Калі вісіць імжа – пакора і спакой,
Калі вісіць імжа, нібы са сланцу ўбор,
Калі вісіць імжа, нібыта з гліны ўбор,
Калі паўночны вецер зямлю расчвартаваў,
Калі паўночны вецер дыханьне наша скраў,
Мой крэкча край, нізінны край.

Калі зазьзяе Шэльда гарачаю парой,
І кожная флямандка дастане летні строй,
Калі пачне павук сплятаць у сетку ніць,
І летняя смуга над лугам задрыжыць,
Калі паўднёвы вецер рагоча ў каласах,
Калі паўднёвы вецер гуляе па лясах,
Сьмяецца край, нізінны край.

*Пераклала зь нідэрляндзкай Ганна Якута*

# Ар’ен Дэйнкер

## ВЕРШ ДЛЯ ВЯРБЛЮДА

Заўтра – дзень маленькіх рэчаў,
Дзень шпілек і жоўтай фарбы.
І будзе табе шчасьце.

Заўтра – дзень самых маленькіх рэчаў,
Дзень кропелек і каната.
І будзе табе сяброўства.

Заўтра – дзень блуканьня
Ўздоўж плода ценю.
Не чапай яго!

Заўтра – дзень песенек,
Якія пяюцца таемна.
Ты іх прасьпяваеш зь ювэлірам.

Заўтра – дзень маленькіх хлопчыкаў
І іх абстрактнай валтузьні на вуліцах.
Натапыр вушы!

Яны крычаць: «Віват найлепшаму кірмашу ў сьвеце!»
Яны крычаць: «Якія вечныя стромы вернасьці!»
Яны крычаць: «Калі ты такі нікчэмны, бадзяйся адзін!»

*Пераклала зь нідэрляндзкай Ганна Якута*

# Гіём Апалінэр

## МАЛЕНЬКАЕ АЎТО

31 жніўня 1914 году
Я выехаў з Давіля позна ўвечар
На маленькім аўто Рувэра

Разам з кіроўцам нас было трое

Мы разьвіталіся з цэлай эпохай
Злосныя волаты ўставалі над Эўропай
Арлы чакаючы сонца пакідалі гнёзды
Ненажэрныя рыбіны выплывалі зь віроў
Народы сыходзіліся каб спазнаць адно аднаго дарэшты
Трупы трымцелі ад страху ў змрочных прытулках

Сабакі брахалі ў той бок дзе праходзілі межы
Я адʼяжджаў узяўшы з сабой усе войскі якія змагаліся
Я адчуваў у сабе як яны зьвіваліся заняўшы мясцовасьць
Зь лясамі і шчасьлівымі бэльгійскімі вёскамі
Франкаршан Лё Руж і Пухон
Край з-за якога заўсёды прыходзіць навала
Ува мне артэрыі чыгункі дзе тыя што ехалі паміраць
Яшчэ раз віталі сакавітае жыцьцё
Глыбокія акіяны дзе варушыліся пачвары
У старых караблях патанулых
Неймаверная вышыня на якой бʼецца чалавек
Вышэй чым сягае арол
Чалавек там бʼецца з чалавекам
І раптоўна падае долу нібыта зьнічка

Я адчуваў у сабе, як новыя рухавыя істоты
Будуюць і ўладкоўваць новы сусьвет
Нечувана багаты й празьмернага росту гандляр
Раскладаў незвычайны тавар на вітрыне
І высачэзныя пастухі вялі
Агромністыя нямыя статкі, што паскубвалі словы
І брахалі на іх усе прыдарожныя сабакі

Я ніколі не забуду гэтага начнога падарожжа калі ніхто не сказаў ані слова

О
туж
лівы
адʼезд
калі паміралі
нашыя 3 фары

о
ноч
кволая
перад
вайной

о
вёс
кі дзе

о р
на к а
с пр
в а
а ц
л
і

КАВАЛІ ЯКІХ ПАКЛІКАЛІ

МІЖ ДВАНАЦЦАЦЬЦЮ І ГАДЗІНАЙ НОЧЫ

у
б о к
Л І З Ь Ё
б л а к і т
н а г
а

альбо

в
э р с
а л ю з а
л а т о
г а

І тройчы мы спыняліся каб замяніць прабітую шыну

І калі пасьля абеду
Праз Фантэнблё
Мы прыехалі ў Парыж
Акурат у той момант калі расклейвалі загад аб мабілізацыі
Мы зразумелі мой сябар і я
Што маленькае аўто прывезла нас у
Новую эпоху
І няхай мы ўдвох ужо дарослыя людзі
Мы аднак толькі што нарадзіліся

# ЁСЬЦЬ

Ёсьць карабель які забраў з сабой маю каханую
Ёсьць у небе шэсьць аэрастатаў-сардэлек а ўначы яны быццам вусені што
нараджаюць зоркі
Ёсьць варожая падлодка якая хоча паквапіцца на маё каханьне
Ёсьць мноства маленькіх елачак вакол мяне сьсечаных аскепкамі снарадаў
Ёсьць пехацінец які асьлеп ад задушлівых газаў
Ёсьць усё тое што мы перамалолі ў траншэях Ніцшэ Гётэ і Кёльна
Ёсьць нясьцерпнае чаканьне ліста які затрымаўся
Ёсьць у мяне ў кішэні колькі здымкаў каханай
Ёсьць палонныя якія праходзяць з трывогай на тварах
Ёсьць батарэя чые службоўцы мітусяцца ля гарматаў
Ёсьць паштар які вяртаецца подбегам па дарозе Адзінокага дрэва
Ёсьць гавораць адзінокі шпіён што сочыць за ўсім ён нябачны
як гарызонт у які ён апрануўся і зь якім нахабна супаў
Ёсьць прыўзьнятыя бы лілеі грудзі маёй каханай
Ёсьць капітан што чакае па рацыі зьвестак з Атлянтыкі
Ёсьць салдаты якія апоўначы пілуюць дошкі для трунаў
Ёсьць жанчыны ў Мэхіка якія лямантам шалёным выпрошваюць маіс перад
скрываўленым Хрыстом
Ёсьць Гальфстрым такі цёплы і міласьцівы
Ёсьць кілямэтраў за пяць адсюль могілкі поўныя крыжоў
Ёсьць крыжы паўсюль і тут і там
Ёсьць ягадкі на гэтых кактусах альжырскіх
Ёсьць гнуткія рукі майго каханьня
Ёсьць чарніліца якую я зрабіў з 15-сантымэтровай ракеты і якую мне не
дазваляюць забраць
Ёсьць маё сядло пакінутае пад дажджом
Ёсьць рэкі якія не зьмяняюць кірунку плыні
Ёсьць каханьне што лагодна зачароўвае мяне
Ёсьць хутчэй быў палонны фрыц які цягнуў на сьпіне кулямёт
Ёсьць людзі на сьвеце якія ніколі не былі на вайне
Ёсьць індусы якія зьдзіўлена паглядаюць на заходнія краявіды
Яны сумна думаюць пра блізкіх пытаюць сябе ці давядзецца ім
яшчэ спаткацца
Бо цягам гэтай вайны цудоўна разьвілася мастацтва нябачнасьці

# АПОШНІ РАЗЬДЗЕЛ

Увесь народ рушыў на галоўную плошчу
Прыйшлі белыя людзі мурыны жоўтыя і колькі чырвоных
Прыйшлі рабочыя з заводаў высокія коміны якіх больш не дымілі
бо быў страйк
Прыйшлі муляры ў адзежы перапэцканай тынкам
Прыйшлі памочнікі мясьнікоў з залітымі крывёй рукамі
Прыйшлі вучні пекараў бледныя ад мукі што іх абсыпала
І прадаўцы з розных крамаў
Прыйшлі суворыя жанчыны зь дзецьмі адных яны трымалі на руках а іншыя
чапляліся за іхныя спадніцы
Прыйшлі няшчасныя жанчыны што дзёрзка нафарбаваліся
і мігавалі па-дзівацку
Прыйшлі скалечаныя сьляпыя бязногія аднарукія кульгавыя
Прыйшлі таксама сьвятары і некалькі вытанчана апранутых мужчын
І па-за плошчаю горад падаваўся мёртвым і нават ня ўздрыгваў

# ЦЕНЬ

Вось вы зноў побач са мной
Успаміны пра таварышаў памерлых на вайне
Аліва часу
Успаміны якія складаюць адно
Як сотня кавалачкаў скуры складае плашч
Як гэтыя тысячы ранаў складаюць газэтны артыкул
Цёмнае і недатыкальнае аблічча што набыло
Зьменлівую форму майго ценю
Індзеец насьцярожаны цэлую вечнасьць
Цень вы поўзаеце побач са мной
Вы больш мяне ня чуеце
Вы больш не разумееце чароўных вершаў што я пяю

Але я вас чую і бачу таксама
Лёсы
Цень шматаблічны барані вас сонца
Вас які любіць мяне досыць моцна каб не пакідаць
І які танчыць на сонцы не падымаючы пылу
Цень атрамант сонца
Почырк майго небасхілу
Збройня поўная жалю
Прыніжаецца Бог

## ВОСЕНЬ

Праходзіць скрозь туман вясковец клышаногі
За ім марудзіць вол праз восеньскі туман
Што хутар агарнуў пахілы ад зьнямогі

Вясковец ідучы сьпявае пра падман
Баляду пра мілосьць пярсьцёнак і сакрэты
Як сэрца хтось разьбіў а пад канец закляцьце

Эх восень восень ты ізноў забіла лета
Праходзяць скрозь туман дзьве шэрыя пастаці

*Пераклаў з французскай Уладзь Лянкевіч*

# Генрых Бёль

## МАЎЧАНЬНЕ, САБРАНАЕ ДОКТАРАМ МУРКЕ

Штораніцы, увайшоўшы ў будынак радыёстудыі, Мурке выконваў экзыстэнцыйнае практыкаваньне: ён заскокваў у адну з кабінаў ліфта «патэрностэр», але не выходзіў на трэцім паверсе, дзе месьціўся ягоны аддзел, а падымаўся вышэй, паўз чацьверты, пяты, шосты паверхі, і штораз – калі падлога ліфта падымалася над узроўнем шостага паверху ды са скрыгатам уваходзіла ў пустую прастору, дзе змазаныя алеем ланцугі і пакрытыя тлушчам перакладзіны, якія толькі што рухаліся ўгару, пачыналі рухацца ўніз, – ім авалодваў страх, і Мурке баязьліва ўзіраўся ў гэтае адзінае неатынкаванае месца ва ўсім будынку радыёстудыі. Ён уздыхаў з палёгкай толькі тады, калі кабіна займала патрэбнае становішча і павольна нырала ўніз, паўз шосты, пяты, чацьверты паверх. Ён ведаў, што яго страх быў беспадстаўны: натуральна, нічога б ня здарылася, ды і не магло здарыцца, і нават калі нешта здарылася б, у найгоршым выпадку ён быў бы ўверсе, калі б ліфт спыніўся, і правёў бы там адну, самае большае дзьве гадзіны. Ён заўсёды меў з сабою кніжку ды цыгарэты; але з таго часу, як існаваў гэты будынак, то бок цягам трох гадоў, ліфт яшчэ ніколі не падводзіў. Бывалі дні, у якія за ім хтонебудзь назіраў, дні, у якія Мурке быў вымушаны адмовіцца ад сваіх чатырох з паловаю сэкундаў страху, і ў такія дні ён быў раздражнёным ды незадаволеным, як чалавек, які не пасьпеў пасьнедаць. Гэты страх быў яму патрэбны, як іншым патрэбная кава, аўсянка ці фруктовы сок.

Калі ж ён потым выскокваў зь ліфта на трэцім паверсе, дзе месьціўся аддзел культуры, то быў вясёлым і радасным, як чалавек, што любіць і разумее сваю працу. Ён адчыняў дзьверы ў свой кабінэт, павольна ішоў да крэсла, сядаў і запальваў цыгарэту: ён заўсёды прыходзіў першы. Гэта быў малады, інтэлігентны і ветлівы чалавек, і нават некаторую пагардлівасьць, якая часам выяўлялася ў ім, Мурке прабачалі, бо ведалі, што ён вывучаў псыхалёгію і пасьпяхова абараніў дысэртацыю.

Але вось ужо цягам двух дзён Мурке адмаўляўся ад сваёй ранішняй порцыі страху: ён мусіў прыходзіць на радыё а восьмай гадзіне, адразу ж бегчы ў студыю і пачынаць працу, бо дырэктар даручыў яму адрэдагаваць у адпаведнасьці з інструкцыямі прафэсара Бур-Малотке два даклады пра

сутнасьць мастацтва. Да вялікага Бур-Малотке, які падчас рэлігійнага захапленьня 1945 году прыняў каталіцтва, нечакана ўначы прыйшлі, як ён сказаў, «рэлігійныя роздумы»: ён «раптам адчуў сябе вінаватым у рэлігійнай перапоўненасьці радыёэфіру» і прыняў рашэньне выкрасьліць «Бога», якога ён часта ўзгадваў у сваіх прамовах пра сутнасьць мастацтва, і замяніць яго на фармулёўку, якая больш адпавядала вызнаваным ім да 1945 году поглядам. Бур-Малотке прапанаваў дырэктару замяніць слова «Бог» выразам «тая найвышэйшая існасьць, якую мы шануем», але не захацеў запісваць свае прамовы наноў, а папрасіў выразаць «Бога» зь ягоных дакладаў і ўклеіць на гэтае месца «тую найвышэйшую існасьць, якую мы шануем». Бур-Малотке сябраваў з дырэктарам, але нават ня гэтае сяброўства было прычынай таго, што дырэктар пайшоў яму насустрач: проста Бур-Малотке быў ня з тых, каму можна пярэчыць. Ён напісаў шмат кніг эсэістычнага зьместу, уваходзіў у склад рэдакцый трох часопісаў і дзьвюх газэт, быў галоўным кансультантам буйнога выдавецтва. Ён сказаў, што гатовы ў сераду зайсьці на пятнаццаць хвілінаў у радыёстудыю і запісаць «тую найвышэйшую існасьць, якую мы шануем» у той колькасці, у якой «Бог» сустракаецца ў яго прамовах. Астатняе ён пакідаў тэхнічнай кампэтэнтнасьці працаўнікоў студыі.

Дырэктару цяжка было знайсьці таго, ад каго ён мог бы патрабаваць выкананьня такой працы. Што праўда, ён адразу падумаў пра Мурке, але раптоўнасьць, зь якой дырэктар згадаў пра яго, насьцярожвала – дырэктар быў здаровым чалавекам і любіў жыцьцё. Ён разважаў над усім хвілінаў зь пяць, думаў пра Швэндлінга, пра Гумкоке, пра спадарыню Брольдын, але ўвесь час вяртаўся да Мурке. Той дырэктару не падабаўся, хоць ён адразу ж прыняў Мурке на працу, як толькі яму гэта прапанавалі: як дырэктар заапарку, які насамрэч любіць зайчыкаў і казуляў, але клапоціцца таксама і пра драпежнікаў, бо і яны мусяць быць у заапарку, – дырэктар любіў якраз зайцоў ды казуляў, а Мурке быў для яго інтэлектуальнай бэстыяй. Урэшце перамагла дырэктарская любоў да жыцьця, і ён даручыў Мурке рэзаць прамовы Бур-Малотке. Абедзьве прамовы былі ў праграме перадач у чацьвер і пятніцу, а згрызоты сумленьня прыйшлі да Бур-Малотке ў ноч зь нядзелі на панядзелак – пярэчыць прафэсару было тое самае, што забіць сябе, а дырэктар занадта любіў жыцьцё, каб думаць пра самагубства.

Так Мурке пасьля абеду ў панядзелак і з раніцы ў аўторак тройчы праслухаў абедзьве паўгадзінныя прамовы пра сутнасьць мастацтва, выразаў адтуль «Бога», а ў кароткіх перапынках, калі яны з тэхнікам моўчкі выпальвалі па цыгарэце, разважаў пра дырэктарскія жыцьцёвыя сілы і пра тую нізкую

існасьць, якую шануе Бур-Малотке. Ніколі да гэтага ён не прачытаў ані радка, напісанага Бур-Малотке, ніколі да гэтага ня чуў ніводнага выступа. У ноч з панядзелка на аўторак Мурке сасьніў лесьвіцу, высокую і стромкую, як Эйфэлева вежа. Ён падымаўся па ёй угару, але хутка заўважыў, што прыступкі змазаныя мылам, а ўнізе стаяў дырэктар і крычаў: «Ну-ка, Мурке, ну-ка... Пакажыце, на што вы здольныя!» У ноч з аўторка на сераду быў таксама падобны сон: Мурке, нічога не падазраючы, падышоў на кірмашы да горкі для катаньня, заплаціў трыццаць пфэнігаў чалавеку, які падаўся яму знаёмым, і калі ён падняўся на горку, то раптам убачыў, што яна мае даўжыню прынамсі дзесяць кілямэтраў. Ён ведаў, што дарогі назад няма, і разумеў, што тым, каму ён заплаціў трыццаць пфэнігаў, быў сам дырэктар. У тыя дзьве раніцы яму больш не была патрэбная звычайная ранішняя порцыя страху ў пустой прасторы ліфтавай шахты.

Сёньня была серада, і ўначы яму ня сьнілася нічога пра мыла, горкі ці дырэктара. Мурке з усьмешкай увайшоў у будынак радыёстанцыі, зайшоў у «патэрностэр», падняўся на сёмы паверх – чатыры з паловай сэкунды страху, скрыгат ланцугоў, неатынкаванае месца – затым спусьціўся на пяты паверх і накіраваўся ў студыю, дзе дамовіўся сустрэцца з Бур-Малотке. Была бязь дзьвюх хвілінаў дзясятая гадзіна, калі ён сеў у зялёнае крэсла, павітаўся з тэхнікам і запаліў цыгарэту. Потым дастаў з нагруднай кішэні аркушык паперы і зірнуў на гадзіньнік: пра пунктуальнасьць Бур-Малотке хадзілі легенды. Калі сэкундная стрэлка прабегла шасьцідзясяты адцінак, калі хвілінная стрэлка пасунулася на дванаццаць, а гадзінная – на дзесяць, дзьверы адчыніліся і ўвайшоў Бур-Малотке.

Мурке ўзьняўся зь ветлівай усьмешкай, падыйшоў да прафэсара і прадставіўся. Бур-Малотке пацісьнуў яму руку, усьміхнуўся і сказаў:

– Ну, тады пачнем!

Мурке ўзяў са стала аркушык, запаліў цыгарэту і зьвярнуўся да Бур-Малотке, чытаючы з аркуша:

– У абедзьвюх прамовах «Бог» сустракаецца роўна дваццаць сем разоў – і я прашу Вас сказаць дваццаць сем разоў тое, што мы зможам пасьля ўклеіць у стужку. Мы былі б Вам удзячныя, калі б Вы сказалі гэта трыццаць пяць разоў, бо пры ўклейваньні нам могуць спатрэбіцца пэўныя рэзэрвы.

– Я згодны, – усьміхнуўся Бур-Малотке і сеў.

– Але ёсьць пэўная цяжкасьць, – працягваў Мурке, – слова «Бог» сустракаецца ў Вашых прамовах у розных склонах. Гэта належыць адлюстраваць і ў выразе «тая найвышэйшая існасьць, якую мы шануем». Мы маем агулам, –

ён ветліва пасьміхнуўся, – дзесяць назоўных склонаў – «тая найвышэйшая існасьць, якую мы шануем», пяць вінавальных склонаў – «тую найвышэйшую існасьць, якую мы шануем», затым сем родных склонаў і пяць давальных, агулам дванаццаць – «той найвышэйшай існасьці, якую мы шануем», і застаецца адзін клічны склон, там, дзе Вы кажаце: «О Божа!» Дазволю сабе прапанаваць Вам сказаць тут: «О ты, найвышэйшая існасьць, якую мы шануем!»

Бур-Малотке відавочна не падумаў пра такія складанасьці, ён нават спатнеў – склоны зусім яго ня радавалі.

– Усяго разам дваццаць сем сказаных нанова выразаў, – працягваў Мурке, – зоймуць адну хвіліну і дваццаць сэкунд эфіру, у той час як дваццаць сем разоў прамаўленьня слова «Бог» займалі толькі дваццаць сэкунд. Мы мусім такім чынам згодна з вашымі зьменамі выразаць з кожнай прамовы па паўхвіліны.

Бур-Малотке яшчэ болей успатнеў; ён ужо праклінаў сябе самога за гэтыя начныя роздумы і запытаў:

– Вы ўжо выразалі?

– Так, – адказаў Мурке, выцягнуў з кішэні бляшаны пачак з-пад цыгарэтаў, адчыніў яго і паказаў Бур-Малотке: там ляжалі кароткія цёмныя кавалкі стужкі. Мурке ціха сказаў:

– «Бог», вымаўлены Вамі дваццаць сем разоў. Аддаць іх вам?

– Не, дзякуй, – раздражнёна адказаў Бур-Малотке. – Я паразмаўляю з дырэктарам пра гэтыя паўхвіліны. Якія перадачы ідуць пасьля маіх выступаў?

– Заўтра за Вашай праграмай будзе чарговае выданьне «Агляду культурнага жыцьця», якую рэдагуе доктар Грэм.

– Халера, з Грэмам не дамовіцца!

– А пасьлязаўтра, – працягваў Мурке, – выданьне «Танчаць усе».

– Гуглімэ, – прастагнаў Бур-Малотке. – Яшчэ ніколі аддзел забаўляльных праграмаў не саступаў аддзелу культуры нават дзесяці сэкунд.

– Так, яшчэ ніколі, – Мурке надаў свайму маладому твару выраз бездакорнай сьціпласьці, – прынамсі цягам таго часу, які я тут працую.

– Добра, – Бур-Малотке паглядзеў на гадзіньнік, – мы зробім усё за дзесяць хвілінаў, і я паразмаўляю з дырэктарам наконт хвіліны эфіру. Давайце пачынаць. Ці не маглі б Вы даць мне свае нататкі?

– Ахвотна. Усе лічбы я маю ў галаве.

Калі Мурке ўвайшоў у невялікую зашклёную кабіну, тэхнік адклаў газэту ўбок і пасьміхнуўся. Яны з Мурке не перакінуліся ніводным словам не па справе цягам тых шасьці гадзінаў у панядзелак і аўторак, калі яны слухалі вы-

ступы Бур-Малотке і рэзалі іх. Яны толькі пазіралі зрэдзьчас адзін на аднаго ды частавалі адзін аднаго цыгарэтай у кароткіх перапынках. І цяпер, калі Мурке пабачыў усьмешку тэхніка, ён падумаў, што калі сяброўства ўвогуле існуе на сьвеце, то гэты чалавек – ягоны сябар. Ён паклаў пачак з выразкамі з выступаў Бур-Малотке на стол і ціха прамовіў:

– Паехалі.

Ён уключыў гук у студыі ды сказаў у мікрафон:

– Думаю, можна абысьціся бяз спробнага запісу, спадару прафэсар. Лепш за ўсё адразу ж да справы: калі ласка, пачніце з назоўнага склону.

Бур-Малотке кіўнуў, Мурке адлучыўся, націснуў кнопку, запаліўшы тым самым зялёнае сьвятло ў студыі, і яны пачулі ўзьнёслы ды добра пастаўлены голас Бур-Малотке: «Тая найвышэйшая існасьць, якую мы шануем; тая найвышэйшая існасьць...» Вусны Бур-Малотке рухаліся каля мікрафона так, нібыта хацелі той пацалаваць, пот сьцякаў прафэсару на твар, а Мурке спакойна назіраў праз шкляную сьцяну, як пакутаваў Бур-Малотке. Затым ён раптоўна выключыў гук, спыніў запіс, і назіраў праз шкло за прафэсарам, як за вялікай прыгожай рыбінай. Ён уключыў гук і спакойна прамовіў: «Мне вельмі шкада, але наша стужка мела дэфэкт, і я вымушаны папрасіць Вас ізноў пачаць з назоўнага склону».

Бур-Малотке вылаяўся, але гэта была нямая лаянка, якую чуў толькі ён сам, бо Мурке выключыў гук і ўключыў яго толькі тады, калі Бур-Малотке зноў пачаў казаць: «Тая найвышэйшая існасьць...» Мурке быў занадта малады, занадта добра адукаваны, каб любіць слова «нянавісьць». Але цяпер, за шкляной сьцяной, калі Бур-Малотке прамаўляў ужо родныя склоны, ён зразумеў, што такое нянавісьць: ён ненавідзеў гэтага вялікага, мажнага і прыгожага чалавека, чые кнігі ў колькасьці двух мільёнаў трохсот пяцідзесяці тысячаў асобнікаў ляжалі ў бібліятэках, кнігарнях і кніжных шафах, і Мурке ані сэкунды ня думаў пра тое, каб пазбавіцца ад гэтага пачуцьця. Пасьля таго як Бур-Малотке вымавіў два родныя склоны, Мурке зноў уключыў гук і спакойна сказаў:

– Прабачце, што я перабіваю: назоўныя склоны былі выдатнымі, гэтаксама як і першы родны, але, калі ласка, пачынаючы з другога роднага склону – яшчэ раз, трохі мягчэй, спакайней, я Вам пастаўлю запіс.

І нягледзячы на пратэставыя рухі прафэсара ён даў знак тэхніку ўключыць запіс для праслухоўваньня. Яны бачылі, як Бур-Малотке сьцяўся, стаў яшчэ больш патнець, затым заціснуў сабе вушы і сядзеў так, пакуль запіс ня скончыўся. Ён нешта казаў, лаяўся, але Мурке з тэхнікам гэтага ня чулі, бо

зноў выключылі гук. Мурке халодна чакаў, пакуль з вуснаў прафэсара ня стала бачна, што той ізноў пачаў казаць пра найвышэйшую існасьць. Тады ён уключыў мікрафон і запіс, а Бур-Малотке пачаў давальны склон: «Той найвышэйшай існасьці...» Ён дагаварыў да канца, скамячыў аркушык паперы, падхапіўся ўвесь у поце і хацеў ужо выйсьці, але мяккі ветлівы голас Мурке спыніў яго:

– Спадару прафэсар, вы забыліся пра клічны склон.

Бур-Малотке кінуў на яго поўны нянавісьці погляд і сказаў у мікрафон: «О ты, найвышэйшая існасьць, якую мы шануем!» Калі ж ён хацеў выйсьці, то голас Мурке зноў спыніў яго:

– Прабачце, спадару прафэсар, але сказ, вымаўлены такім тонам, абсалютна не падыходзіць.

– Калі ласка, не перагінайце палку, – прашаптаў тэхнік.

Бур-Малотке спыніўся перад дзьвярыма сьпінай да шкляной сьцяны, як быццам прышпілены да месца голасам Мурке. Ён адчуваў сябе як ніколі раней: ён быў бездапаможны. І гэты такі малады, ветлівы, такі бязьмерна інтэлігентны голас катаваў яго, як ніхто і нішто дагэтуль. Мурке працягваў:

– Я, вядома, магу ўклеіць яго ў Ваш выступ у такім выглядзе, але дазволю сабе зьвярнуць Вашую ўвагу на тое, спадару прафэсар, што гэта будзе рабіць ня вельмі добрае ўражаньне.

Бур-Малотке разьвярнуўся, падышоў да мікрафона і прамовіў ціха і ўзьнёсла: «О ты, найвышэйшая існасьць, якую мы шануем!» Ня гледзячы на Мурке, ён выйшаў са студыі. Была акурат чвэрць на адзінаццатую, і ён сутыкнуўся ў дзьвярах з прыгожай маладой жанчынай, якая трымала ў руках ноты. Жанчына была рудавалосай і мела квітнеючы выгляд, яна энэргічна падышла да мікрафона, пакруціла яго, пасунула стол так, каб можна было вольна стаяць перад мікрафонам.

У зашклёнай кабіне Мурке нядоўга паразмаўляў з Гуглімэ, рэдактарам аддзелу забаўляльных праграм. Той запытаўся, паказваючы на бляшаны пачак:

– Вам гэта яшчэ патрэбна?

Мурке адказаў, што так. За шклом маладая рудавалосая жанчына сьпявала:

– Вазьмі мае вусны, як яны ёсьць,
а яны прыгожыя.

Гуглімэ ўключыў гук і спакойна сказаў:

– Ды памаўчы ты пакуль, я яшчэ не гатовы.

Жанчына ўсьміхнулася, надзьмула вусны і адказала:

– Ах ты, вычварэнец!

– Я падыду аб адзінаццатай, мы ўсё разрэжам і ўклеім у прамовы, – зьвярнуўся Мурке да тэхніка.

– Нам трэба будзе яшчэ раз гэта праслухаць? – запытаўся той.

– Не, – адказаў Мурке, – нават за мільён даляраў я ня стану гэта паўторна слухаць!

Тэхнік кіўнуў і падрыхтаваўся да запісу рудавалосай сьпявачкі, а Мурке пайшоў.

Ён узяў у вусны цыгарэту, пакінуў яе незапаленай і скіраваўся да іншага ліфту на паўднёвым баку будынка, які вёў да сталоўкі. Дываны, калідоры, мэбля і карціны – усё яго раздражняла. Гэта былі прыгожыя дываны, прыгожыя калідоры, прыгожая мэбля ды з густам падабраныя карціны, але раптам у яго ўзьнікла жаданьне ўбачыць дзесьці на сьцяне кічавую выяву сэрца Ісуса, што даслала яму маці. Ён спыніўся, агледзеўся, прыслухаўся, выцягнуў малюнак з кішэні і прымацаваў яго паміж шпалерамі і вушаком ля дзьвярэй памочніка рэжысэра з аддзелу радыёспэктакляў. Малюнак быў яркі, крыклівы, і пад выявай сэрца Хрыстова можна было прачытаць: «Я малілася за цябе ў царкве Сьвятога Якуба».

Мурке спусьціўся на ліфце ўніз. Гэтая частка будынку была ўжо абсталяваная попельніцамі Шроршнаўца, якія занялі першае месца на конкурсе попельніцаў. Яны віселі побач з кожнай падсьвечанай чырвонай лічбай, якая азначала нумар паверху: чырвоная чацьверка, попельніца Шроршнаўца, чырвоная тройка, попельніца Шроршнаўца, чырвоная двойка, попельніца Шроршнаўца. Гэта былі прыгожыя медныя попельніцы ў форме ракавіны, падстаўка якой уяўляла зь сябе нейкую арыгінальную марскую расьліну, вузлаватыя водарасьці – і кожная каштавала дзьвесьце пяцьдзясят восем марак семдзясят сем пфэнігаў. Яны былі настолькі прыгожыя, што Мурке яшчэ ані разу не наважыўся апаганіць якую-небудзь зь іх попелам ці чымсьці яшчэ больш неэстэтычным накшталт недапалку. Напэўна, астатнія курцы адчувалі нешта падобнае – пустыя цыгарэтныя пачкі, недапалкі і попел ляжалі заўсёды на падлозе пад прыгожымі попельніцамі: ніхто не знаходзіў у сабе сьмеласьці выкарыстаць попельніцы па прызначэньні; яны былі медныя, зіхатлівыя і заўсёды пустыя.

Мурке бачыў, як да яго набліжаецца ўжо пятая попельніца каля бліскучай чырвонай адзінкі, паветра пацяплела, адчуваўся пах ежы. Ён выйшаў зь ліфта і стомлена прайшоў у сталоўку. Тры пазаштатныя працаўнікі сядзелі

ў куце за сталом, застаўленым падстаўкамі для яек, талеркамі з хлебам ды імбрыкамі з кавай.

Гэтыя трое разам зрабілі сэрыю выданьняў «Лёгкія – унутраны орган чалавека», разам забралі ганарар, пасьнедалі і цяпер разам пілі шнапс ды разважалі пра падаткі. Мурке добра ведаў аднаго зь іх, Вэндрыха; але Вэндрых якраз крычаў: «Мастацтва! Мастацтва! Мастацтва!» Мурке спужана сьцяўся, як жабка, на якой выпрабавалі дзейнасьць электрычнага току. Мурке занадта часта чуў гэтае слова цягам апошніх двух дзён з вуснаў прафэсара Бур-Малотке; у абодвух выступах яно сустракалася роўна сто трыццаць чатыры разы, а Мурке праслухаў выступы тройчы – такім чынам, ён пачуў слова «мастацтва» чатырыста два разы, занадта часта, каб мець жаданьне пра яго размаўляць. Ён праціснуўся каля стойкі да нішы ў іншай частцы сталоўкі і з палёгкай уздыхнуў, пабачыўшы, што яна вольная. Мурке апусьціўся ў мяккае жоўтае крэсла, запаліў цыгарэту, а калі падышла афіцыянтка Вула, замовіў яблычнага соку і быў рады, што Вула адразу ж зьнікла. Ён заплюшчыў вочы, але насуперак сваёй волі прыслухоўваўся да размовы пазаштатных працаўнікоў у куце. Штораз, калі нехта зь іх выкрыкваў «мастацтва», Мурке ўздрыгваў. «Гэта падобна да таго, як быць высьцеганым плецьмі», – падумаў ён.

Вула, якая прынесла яму яблычны сок, выглядала занепакоена. Яна была высокай ды моцнай, але ня поўнай, яе твар быў здаровым і радасным, і наліваючы яблычны сок з графіну ў стакан, яна параіла Мурке ўзяць адпачынак і кінуць паліць.

Раней яна называла сябе Вільфрыда-Ула, але потым для прастаты скараціла сваё імя да Вулы. Яна мела асаблівую павагу да працаўнікоў аддзелу культуры.

– Пакіньце мяне ў спакоі, – сказаў Мурке, – калі ласка, пакіньце мяне!

– І было б файна, каб вы схадзілі ў кіно зь якой-небудзь добрай дзяўчынай.

– Я зраблю гэта сёньня ўвечары, абяцаю.

– Ня трэба, каб гэта была дзяўчына лёгкіх паводзінаў, – працягвала Вула, – лепш простая, прыемная, сапраўдная дзяўчына з добрым сэрцам. Такія ўсё яшчэ існуюць.

– Я ведаю, – адказаў Мурке, – і я нават знаёмы з адной.

– Ну добра, – Вула пайшла да пазаштатных працаўнікоў, адзін зь якіх замовіў тры кілішкі шнапсу і тры кавы. «Бедныя, – падумала яна, – мастацтва робіць іх зусім ненармальнымі». Яна любіла пазаштатных працаўнікоў і заўсёды заклікала іх да ашчаднасьці. «Як толькі ў іх зьяўляюцца грошы, яны адразу ж

іх спускаюць», – думала яна, ідучы да стойкі і перадаючы буфэтчыку замову. Мурке дапіў свой сок, расьціснуў цыгарэту ў попельніцы і з жахам падумаў пра час паміж адзінаццатай і першай гадзінамі, калі ён мусіў разрэзаць словы Бур-Малотке, каб уклеіць іх у патрэбныя месцы ягоных прамоваў. Дырэктар хацеў мець гатовыя выступы ўжо а другой гадзіне. Мурке думаў пра мыла, лесьвіцы, стромкія лесьвіцы і горкі, ён думаў пра дырэктарскую любоў да жыцьця ды пра Бур-Малотке і спужаўся, калі ўбачыў, як Швэндлінг уваходзіць у сталоўку.

Той быў у кашулі ў буйную чорна-чырвоную клетку і кіраваўся да нішы, дзе схаваўся Мурке. Швэндлінг напяваў папулярны шлягер: «Вазьмі мае вусны, як яны ёсьць, а яны прыгожыя...», ён запнуўся, калі заўважыў Мурке, і спытаў:

– Ну як? Я думаў, ты цяпер даводзіш да ладу прамовы Бур-Малотке.

– Аб адзінаццатай усё працягнецца, – адказаў Мурке.

– Вула, адно піва, – крыкнуў Швэндлінг, – паўлітра. Ну, – зьвярнуўся ён ізноў да Мурке, – ты заслужыў за гэта пазачарговы адпачынак, гэта было жахліва, напэўна. Стары апавёў мне, у чым рэч.

Мурке маўчаў, а Швэндлінг працягваў:

– Ведаеш апошнія навіны пра Муквіца?

Мурке незацікаўлена пахітаў галавой, потым зь ветлівасці запытаўся:

– І што зь ім такое?

Вула прынесла піва, Швэндлінг адпіў, памаўчаў трохі для важнасьці і павольна прамовіў:

– Муквіц робіць перадачу пра тайгу.

Мурке пасьміхнуўся і запытаў:

– А што Фэн?

– Гэты займаецца тундраю.

– А Вэгухт?

– Вэгухт робіць перадачу пра мяне, а пасьля я зраблю пра яго, паводле дэвізу: ты мне, я табе...

Адзін з пазаштатнікаў ужо ўскочыў ды выкрыкваў на ўсю сталоўку:

– Мастацтва, мастацтва! Вось ад чаго ўсё залежыць!

Мурке хутка нахіліўся, нібы салдат, які пачуў стрэлы з варожага акопа. Ён выпіў яшчэ глыток яблычнага соку і зноўку сьцепануўся, калі з дынаміка данеслася:

– Доктар Мурке, вас чакаюць у трынаццатай студыі. Доктар Мурке, вас чакаюць у трынаццатай студыі.

Ён зірнуў на гадзіньнік – была толькі палова на адзінаццатую – але дынамік няўмольна працягваў:

– Доктар Мурке, вас чакаюць у трынаццатай студыі – доктар Мурке, вас чакаюць у трынаццатай студыі.

Дынамік вісеў над стойкай, акурат пад выслоўем, якое дырэктар загадаў намаляваць на сьцяне: «Дысцыпліна – гэта ўсё».

– Ну, – сказаў Швэндлінг, – нічога ня зробіш, ідзі.

– Так, – паўтарыў Мурке, – нічога ня зробіш.

Ён узьняўся, паклаў грошы за сок на стол, праціснуўся паўз стол аматараў мастацтва, увайшоў у «патэрностэр» і зноў падняўся наверх, мінаючы пяць попельніцаў Шроршнаўца. Пабачыўшы сваю карцінку з сэрцам Ісуса ля дзьвярэй памочніка рэжысэра, ён падумаў: «Дзякаваць Богу, цяпер у гэтым будынку ёсьць хоць адзін кічавы малюнак».

Ён адчыніў дзьверы ў студыю, пабачыў, што тэхнік сядзіць спакойна перад чатырма кардоннымі скрынкамі, і запытаў стомлена:

– У чым рэч?

– Яны справіліся хутчэй, чым плянавалі, і ў нас паўгадзіны ў запасе, – адказаў тэхнік. – я падумаў, што вы, магчыма, хацелі б выкарыстаць гэты час.

– Сапраўды хачу, – зазначыў Мурке, – у мяне сустрэча а першай гадзіне. Так што пачнем. Што ў скрынках?

– Для кожнага склону асобная скрынка – вінавальны ў першай, у другой – родны і давальны, у трэцяй – назоўны, а вось у гэтай, – тэхнік паказаў скрынку, што стаяла правей за астатнія, маленькую скрыначку, на якой было напісана «ШАКАЛЯД», – ляжаць абодва клічныя, у правым куце добры, у левым – дрэнны.

– Выдатна, – сказаў Мурке, – вы ўжо парэзалі гэтае мярзоцьце.

– Так, і калі Вы запісалі іх пасьлядоўнасьць, то мы скончым самае большае за гадзіну. Вы ж занатавалі?

– Так, вядома, – адказаў Мурке. Ён дастаў з кішэні цэтлік, дзе былі лічбы ад 1 да 27, а пасьля кожнай зь іх быў пазначаны склон.

Мурке прысеў, прапанаваў тэхніку цыгарэту; яны абодва палілі, пакуль тэхнік запускаў разрэзаныя запісы дакладаў Бур-Малотке.

– У першы разрэз трэба ўклеіць вінавальны склон, – сказаў Мурке. Тэхнік узяў кавалак стужкі зь першай скрынкі і прымацаваў яго на патрэбнае месца.

– У другі – давальны, – працягваў Мурке.

Яны працавалі зладжана, і Мурке адчуў палёгку, бо ўсё ішло хутка.

– Цяпер на чарзе клічны, мы возьмем, вядома ж, горшы варыянт.

Тэхнік усьміхнуўся і ўклеіў дрэнны кавалак у запіс.

– Далей, – папрасіў ён, – далей!

– Родны, – адказаў Мурке.

Дырэктар добрасумленна чытаў кожны ліст ад слухачоў. У тым, які ён трымаў перад сабою, было наступнае:

«Паважаная радыёстанцыя, наўрад ці ў Вас ёсьць больш верная слухачка, чым я. Мне семдзесят гадоў, і пачынаючы з трыццацігадовага ўзросту я слухаю Вашае радыё штодзень. Я заўсёды была шчодрай на пахвалу. Магчыма, Вы ўзгадаеце мой ліст пра праграму «Сем душаў каровы Кавайды». Гэта была выдатная праграма. Але існуюць пэўныя хібы: няўвага, зь якой на Вашым радыё сутыкаюцца душы сабак, пачынае проста абураць. І гэта Вы называеце гуманізмам! У Гітлера, несумненна, былі свае недахопы: калі верыць усяму, што кажуць, то ён быў сапраўды агідным чалавекам, але ж у адным яму не адмовіш: сабак ён любіў і клапаціўся пра іх. Калі ж сабака на нямецкім радыё атрымае належную ўвагу? Аднак, у любым выпадку, праграма «Як кот з сабакам» – гэта няўдалая спроба, а дакладней, сапраўдная абраза для кожнага сабакі. Калі б мой маленькі Ляэнгрын мог размаўляць, сказаў бы ён Вам! Ён гаўкаў, даражэнькі, пакуль гучала гэтая Вашая праграма, так гаўкаў, што сэрца разрывалася ад сораму. Я плачу свае дзьве маркі на месяц, як і кожны іншы слухач, таму скарыстаюся са свайго права і задам Вам пытаньне: калі нарэшце сабака на нямецкім радыё атрымае належную яму ўвагу? З павагай, нягледзячы на тое, што так незадаволеная Вамі, – Ваша Ядвіга Гэрхен, хатняя гаспадыня.

P.S. На выпадак, калі ніхто з тых цынікаў, якім Вы даяце працу, ня здолее ўганараваць сабакаў належным чынам, я дазволіла сабе прыкласьці да ліста ўласную сьціплую спробу. Ад ганарара я адмаўляюся. Вы можаце пералічыць грошы на рахунак арганізацыі аховы сабакаў. Прыкладаюцца: 35 рукапісных аркушаў. Ваша Я. Г.»

Дырэктар уздыхнуў. Ён пашукаў рукапіс, але сакратарка напэўна яго прыбрала. Дырэктар набіў сабе трубку, запаліў яе, аблізнуў свае поўныя жыцьця вусны, падняў слухаўку і загадаў злучыць яго з Крошы. Наверсе, у аддзеле культурнага слова, Крошы займаў маленечкі пакойчык з маленечкім, але вельмі густоўным пісьмовым сталом і вёў рубрыку, гэткую ж малую, як і ягоны працоўны стол, – «Жывёлы і культура».

– Крошы, – прамовіў дырэктар, калі той сьціпла адказаў, – калі мы апошні раз рабілі нешта пра сабакаў?

– Пра сабакаў? – перапытаў Крошы. – Спадару дырэктар, мне здаецца, што яшчэ ніколі, прынамсі пакуль я тут працую.

– І як доўга вы тут працуеце, Крошы?

Рэдактар у сваім пакойчыку наверсе затрымцеў, бо голас дырэктара стаў вельмі мяккім, а Крошы добра ведаў, што нічога добрага чакаць ня варта, калі гэты голас так гучыць.

– Ужо дзесяць гадоў, спадару дырэктар, – адказаў ён.

– Гэта сьвінства, – абурыўся дырэктар, – што за гэты час вы нічога не зрабілі пра сабакаў, урэшце гэта ж справа вашае рубрыкі. Як называлася апошняе выданьне?

– Маё апошняе выданьне называлася... – запнуўся Крошы.

– Вам не абавязкова паўтараць маё пытаньне, – сказаў дырэктар, – мы ж ня ў войску.

– «Совы ў развалінах», – нерашуча прамовіў Крошы.

– У вас ёсьць тры тыдні, – сказаў дырэктар, ізноў вельмі мякка, – каб падрыхтаваць праграму пра сабакаў...

– Слухаюся, – адказаў Крошы і пачуў, як дырэктар павесіў слухаўку. Пасьля ён глыбока ўздыхнуў і вымавіў: – Божа мой!

Дырэктар прыняўся за наступны ліст.

У гэты момант увайшоў Бур-Малотке. Ён мог сабе дазволіць прыходзіць у любы час без папярэджаньня, і ён часта сабе гэта дазваляў. Яшчэ ўспатнелы, ён стомлена прысеў на стул перад дырэктарам, прамовіўшы:

– Добрай раніцы.

– Добрай раніцы, – адказаў дырэктар і адклаў ліст ад радыёслухача ўбок. – Што я магу для Вас зрабіць?

– Калі ласка, падарыце мне хвіліну...

– Спадару Бур-Малотке, – сказаў дырэктар, робячы шчодры жэст, – ня трэба прасіць мяне пра хвіліну! Гадзіны, дні ў Вашым распараджэньні...

– Але ж не, – удакладніў Бур-Малотке, – размова ідзе не пра звычайную хвіліну, а пра хвіліну эфірнага часу. Праз зьмены мой даклад стаў на хвіліну даўжэйшы...

Дырэктар стаў сур’ёзным, як сатрап, што разьмяркоўвае правінцыі.

– Спадзяюся, – кісла запытаў ён, – пасьля Вас не палітычная праграма...

– Не, – адказаў Бур-Малотке, – я прашу паўхвіліны ад мясцовай праграмы і паўхвіліны ад забаўляльнай.

– Ну, дзякаваць Богу! – супакоіўся дырэктар, – у забаўляльнай праграме ў мяне яшчэ застануцца семдзесят дзевяць сэкундаў, а ў мясцовай – восемдзясят тры сэкунды. Вядома ж, я ахвотна выдзелю Вам хвіліну.

— Вы прымушаеце мяне чырванець, — сказаў Бур-Малотке.

— Што яшчэ я магу для Вас зрабіць?

— Я быў бы Вам удзячны, — сказаў Бур-Малотке, — калі б пры магчымасьці мы выправілі ўсе запісы, якія я зрабіў пачынаючы з 1945 году. Аднойчы... — ён правёў рукой па лобе і тужліва зірнуў на сапраўднага Брулера, які вісеў над дырэктарскім сталом, — аднойчы я... — ён запнуўся, бо тое, што ён хацеў паведаміць дырэктару, было занадта засмучальным для нашчадкаў, — аднойчы я... я памру, — і ён ізноў зрабіў паўзу і даў дырэктару магчымасьць прыняць агаломшаны выгляд і адмоўна замахаць рукой, — і для мяне невыносна думаць, што пасьля маёй сьмерці, магчыма, будуць гучаць запісы, дзе я кажу рэчы, у якіх болей ня ўпэўнены. Асабліва ў запале сорак пятага году я дазволіў схіліць сябе да некаторых палітычных выказваньняў, якія цяпер выклікаюць у мяне глыбокі сумнеў і якія я магу патлумачыць толькі той юнацкай палкасьцю, якою вызначаюцца ўсе мае творы. Выпраўленьне напісаных мною твораў ужо ідзе, і я хацеў бы папрасіць Вас даць мне ў хуткім часе магчымасьць выправіць таксама радыёвыступы.

Дырэктар прамаўчаў, толькі зьлёгку кашлянуў, і маленькія, вельмі сьветлыя кропелькі поту зьявіліся на яго лобе. Яму прыйшло ў галаву, што Бур-Малотке з 1945 году штомесяц прамаўляў прынамсі гадзіну, і ён хутка падлічыў, пакуль Бур-Малотке працягваў: дванаццаць гадзінаў памножыць на дзесяць, атрымліваецца сто дваццаць гадзінаў прамоваў Бур-Малотке.

— Толькі нізкія душы, — працягваў тым часам Бур-Малотке, — называюць пэдантызм нявартым генія. Як мы ведаем, — і дырэктар адчуў сябе ўсьцешаным, бо праз гэтае «мы» ён быў залічаны да высокіх душ, — сапраўдныя, вялікія геніі былі пэдантамі. Гімэльсгайм загадаў аднойчы за ўласны кошт па-новаму набраць увесь наклад «Зэелёна», бо тры ці чатыры сказы ў сярэдзіне твора больш не здаваліся яму адпаведнымі. Думка, што пасьля таго, як я разьвітаюся з гэтым сьветам, могуць гучаць мае даклады, у якіх я больш ня ўпэўнены, — гэтая думка для мяне невыносная. Якое рашэньне Вы можаце прапанаваць?

Кропелькі поту на лобе дырэктара павялічыліся.

— Патрэбна спачатку зрабіць дакладны сьпіс усіх Вашых праграмаў і пасьля спраўдзіць у архіве, ці ўсе запісы ёсьць у наяўнасьці, — прамовіў ён ціха.

— Я спадзяюся, — адказаў Бур-Малотке, — што ніводзін з маіх запісаў ня быў зьнішчаны без папярэджаньня. Мяне ніхто не папярэджваў, такім чынам, ніхто не зьнішчаў маіх запісаў...

— Я ўсё арганізую, — сказаў дырэктар.

– Я быў бы вельмі ўдзячны, – зьедліва заўважыў Бур-Малотке. – Да пабачэньня...

– Да пабачэньня, – адказаў дырэктар і праводзіў Бур-Малотке да дзьвярэй.

Пазаштатнікі ў сталоўцы вырашылі замовіць абед. Яны выпілі яшчэ болей шнапсу ды ўсё яшчэ размаўлялі пра мастацтва: іх размова набыла больш спакойны характар, хоць і ня страціла напружаньня. Яны ўсе спужана ўскочылі, калі ў сталоўку раптоўна ўвайшоў Вандэрбурн. Гэта быў высокі, мэлянхалічнага выгляду цёмнавалосы паэт з сымпатычным тварам, пазначаным пячаткаю славы. У той дзень ён быў непаголены і таму выглядаў яшчэ сымпатычней, чым звычайна. Вандэрбурн падышоў да стала трох пазаштатнікаў, стомлена прысеў і запытаў:

– Дзеткі, дайце мне чаго-колечы выпіць. У гэтым доме я заўсёды паміраю ад смагі...

Яны далі яму пазасталы кілішак шнапсу ды рэшту мінэральнае вады з бутэлькі. Вандэрбурн выпіў, адставіў кілішак убок, паглядзеў па чарзе на кожнага з трох і сказаў:

– Я засьцерагаю вас ад радыё, ад гэтага паскудзтва – ад гэтага вылізанага, прыгожанькага, размаляванага паскудзтва! Я вас засьцерагаю! Радыё ўсіх нас зьнішчыць...

Яго засьцярога была шчырай і вельмі ўразіла трох маладых людзей; але яны ня ведалі, што Вандэрбурн толькі што з касы, дзе ён атрымаў вялікі ганарар за лёгкую апрацоўку кнігі Ёва.

– Яны нас рэжуць, – працягваў ён, – зьнішчаюць нашую сутнасьць, склейваюць нас, і ніхто з нас ня здолее гэтага вытрываць.

Вандэрбурн выпіў мінэральнае вады, паставіў шклянку на стол і накіраваўся да дзьвярэй; яго паліто мэлянхалічна разьвявалася.

Акурат а дванаццатай Мурке скончыў склейваньне. Як толькі яны ўклеілі апошні кавалачак, давальны склон, Мурке падняўся. Ён ужо ўхапіўся за ручку дзьвярэй, калі тэхнік сказаў:

– Мне б такое адчувальнае і дарагое сумленьне! А што з гэтым будзем рабіць? – Ён паказаў на цыгарэтны пачак, які стаяў наверсе, на паліцы між скрынкамі з новымі запісамі.

– Пакіньце гэта тут, – адказаў Мурке.

– Навошта?

– Можа, яшчэ спатрэбіцца.

– Вы мяркуеце, што ў яго зноў могуць пачацца згрызоты сумленьня?

— Ня выключана, — адказаў Мурке, — лепш пачакаем. Да пабачэньня.

Ён скіраваўся да першага ліфта, спусьціўся на другі паверх і ўпершыню ў той дзень увайшоў у свой кабінэт. Сакратарка пайшла на абед, шэф Мурке, спадар Гумкоке, сядзеў пры тэлефоне і чытаў кнігу. Ён пасьміхнуўся Мурке, узьняўся ды запытаў:

— Ну як, вы яшчэ жывы? Гэта вашая кніга? Гэта вы пакінулі яе на стале? — Ён павярнуў кнігу вокладкай да Мурке, і той адказаў: «Так, гэта мая». Супэрвокладка кніжкі была зялёна-шэра-аранжавая, і называлася кніга «Крыніцы лірыкі Бэтлі»; гаворка там ішла пра аднаго маладога ангельскага паэта, які склаў сто гадоў таму каталёг лёнданскага слэнгу.

— Гэта выдатная кніга, — сказаў Мурке.

— Так, — адказаў Гумкоке, — але вы ніколі не навучыцеся...

Мурке зірнуў на яго запытальна.

— Вы ніколі не навучыцеся, што выдатныя кнігі нельга пакідаць на стале, калі можа зайсьці Вандэрбурн, а ён заўсёды можа зайсьці. Вандэрбурн, зразумела, заўважыў яе здалёк, разгарнуў, пачытаў пяць хвілінаў, і які ж вынік?

Мурке маўчаў.

— А вынік — дзьве гадзінныя праграмы Вандэрбурна пра «Крыніцы лірыкі Бэтлі». Гэты тып калі-небудзь зробіць праграму з уласнае бабулі, але найгоршае пры гэтым, што адна зь яго бабуляў была і маёй. Калі ласка, Мурке, запомніце: ніякіх выдатных кнігаў на стале, калі можа зайсьці Вандэрбурн, а я паўтараю, ён заўсёды можа зайсьці. Так, а цяпер можаце ісьці, пасьля абеду ў вас нічога няма, і я думаю, вы заслужылі гэты адпачынак. Ну што, усё гатова? Вы праслухоўвалі яшчэ раз?

— Усё гатова, — адказаў Мурке, — але слухаць гэтыя даклады я ўжо не магу, проста не магу...

— «Проста не магу» — гэта гучыць па-дзіцячы, — заўважыў Гумкоке.

— Калі я пачую слова «мастацтва» сёньня яшчэ хоць раз, у мяне будзе гістэрыка, — прамармытаў Мурке.

— У вас ужо гістэрыка, — сказаў Гумкоке, — і я нават згодны, што вы маеце для гэтага падставы. Тры гадзіны Бур-Малотке — ад гэтага можа звар'яцець нават моцны чалавек, а вас бы я не назваў моцным...

Ён кінуў кнігу на стол, зрабіў крок да Мурке і сказаў:

— Калі я быў у вашым узросьце, мне трэба было скараціць на тры хвіліны чатырохгадзінную прамову Гітлера, і я вымушаны быў тройчы праслухаць яе, пакуль здолеў прапанаваць, якія тры хвіліны трэба выразаць. Калі я пачынаў слухаць прамову ў першы раз, я яшчэ быў прыхільнікам нацыстаў, але калі я

слухаў тую прамову трэці раз, я ім ужо ня быў; гэта было цяжкае, жахлівае, аднак вельмі эфэктыўнае лекаваньне...

– Вы забываеце, – адказаў Мурке ціха, – што я быў вылекаваны ад Бур-Малотке яшчэ да таго, як пачаў слухаць запісы...

– Але ж вы і бэстыя! – са сьмехам зазначыў Гумкоке. – Ідзіце, дырэктар праслухае ўсё яшчэ раз а другой. Дзе вас знайсьці ў скрайнім выпадку?

– З другой да трэцяй я буду дома, – адказаў Мурке.

– І яшчэ... – сказаў Гумкоке і дастаў з паліцы побач са сталом Мурке жоўтую скрынку з-пад печыва, – што гэта за абрэзкі ў вас тут?

Мурке пачырванеў.

– Гэта... – пачаў ён, – я зьбіраю некаторыя парэшткі.

– І што за парэшткі?

– Маўчаньне, – адказаў Мурке, – я зьбіраю маўчаньне.

Гумкоке зірнуў на яго запытальна, і Мурке працягнуў:

– Калі трэба рэзаць запісы, дзе прамоўцы часам робяць паўзы, уздыхаюць, набіраюць паветра ці проста маўчаць, я не выкідаю абрэзкі ў сьметніцу, а зьбіраю іх. Запісы Бур-Малотке, між іншым, ня ўтрымліваюць і сэкунды маўчаньня.

Гумкоке ўсьміхнуўся:

– Вядома, гэты ня будзе маўчаць. А што вы робіце з гэтымі абрэзкамі?

– Я склейваю іх ды прайграю сабе стужку дома ўвечары. Стужка яшчэ кароткая, толькі тры хвіліны – але ж маўчанне сустрэнеш нячаста.

– Я мушу зьвярнуць вашую ўвагу, што забаронена браць дадому часткі запісаў.

– Нават маўчаньне? – запытаў Мурке.

Гумкоке ўсьміхнуўся і сказаў:

– Ну ідзіце ўжо!

І Мурке пайшоў.

Калі дырэктар завітаў у студыю пару хвілін па другой, прамова Бур-Малотке ўжо гучала:

«...дзе толькі, калі толькі, чаму і як толькі мы ні пачынаем размову пра сутнасьць мастацтва, мы мусім узгадаць тую найвышэйшую існасьць, што мы шануем, мы мусім схіліцца і выказаць глыбокую павагу да той найвышэйшай існасьці, якую мы шануем, і мусім удзячна прыняць мастацтва як падарунак ад той найвышэйшай існасьці, якую мы шануем. Мастацтва...»

«Не, – падумаў дырэктар, – я сапраўды ні ад каго не змагу патрабаваць праслухаць сто дваццаць гадзінаў Бур-Малотке. Існуюць рэчы, якія чалавек

проста ня ў стане зрабіць, якія я нават Мурке не пажадаю». Ён вярнуўся ў свой кабінэт, уключыў дынамік ды пачуў, як голас Бур-Малотке прамаўляе: «О ты, найвышэйшая існасьць, якую мы шануем...»

«Не, – падумаў дырэктар, – не і яшчэ раз не».

Мурке ляжаў на канапе і паліў. Побач зь ім на стуле стаяў кубак гарбаты, і Мурке разглядаў белую столь пакоя. Пры яго пісьмовым стале сядзела вельмі прыгожая сьветлавалосая дзяўчына, якая праз акно нерухома ўзіралася ў вуліцу. Паміж Мурке і дзяўчынай на невялічкім століку стаяў магнітафон, які быў пастаўлены на запіс. Не было чуваць ані гуку. Можна было прыняць дзяўчыну за фотамадэль – такой прыгожай і маўклівай яна была.

– Я больш не магу, – сказала раптам дзяўчына, – я больш не магу. Тое, што ты патрабуеш, проста бесчалавечна. Існуюць мужчыны, якія патрабуюць ад дзяўчат рабіць амаральныя рэчы, але я амаль упэўненая, што тое, што ты ад мяне патрабуеш, нашмат горшае.

Мурке ўздыхнуў.

– Божа мой, – сказаў ён, – дарагая Рына, гэта ўсё мне прыйдзецца выразаць. Будзь ласкавай і намаўчы мне яшчэ прынамсі пяць хвілінаў.

– Намаўчы, – паўтарыла дзяўчына, і яна сказала гэта такім чынам, які трыццацігадовы чалавек назваў бы грубым. – Намаўчаць, ты вынайшаў гэта слова. Я б ахвотна нагаварыла запіс – але намаўчаць...

Мурке падняўся і выключыў магнітафон.

– Ах, Рына, – сказаў ён, – калі б ты толькі ведала, наколькі каштоўнае для мяне тваё маўчаньне. Увечары, калі я стомлены сяджу дома, я стаўлю сабе запіс з тваім маўчаньнем. Калі ласка, намаўчы мне яшчэ хаця б тры хвіліны, каб не прыйшлося выразаць; ты ж ведаеш, што значыць для мяне рэзаць.

– Як хочаш, – адказала дзяўчына, – але дай мне хоць цыгарэту.

Мурке ўсьміхнуўся, працягнуў ёй цыгарэту і сказаў:

– Так у мяне тваё маўчаньне будзе ў арыгінале і ў запісе, гэта проста выдатна.

Ён ізноў запусьціў стужку, і абодва сядзелі адно насупраць аднаго ў маўчаньні, пакуль не зазьвінеў тэлефон. Мурке падняўся, бездапаможна паціснуў плячыма і зьняў слухаўку.

– Так, – гэта быў Гумкоке, – абодва даклады прайшлі без заўваг, шэф не сказаў нічога дрэннага... Вы можаце ісьці ў кіно. І падумайце пра сьнег.

– Пра які сьнег? – перапытаў Мурке і вызірнуў на вуліцу, залітую яркім летнім сонцам.

– Божа мой! – сказаў Гумкоке. – Вы ж ведаеце, што мы мусім пачынаць думаць пра зімовыя праграмы. Мне спатрэбяцца песьні і вершы пра сьнег – мы ж ня можам заўсёды выяжджаць на Шубэрце ды Штыфтэры. Ніхто нават не разумее, наколькі нам не хапае менавіта песень і вершаў пра сьнег. Уявіце, што будзе халодная і доўгая зіма і шмат сьнегу: дзе мы возьмем нашыя выданьні пра сьнег? Таму пастарайцеся прыдумаць што-небудзь сьнежнае».

– Добра, – адказаў Мурке, – я пастараюся што-небудзь прыдумаць.

Гумкоке паклаў слухаўку.

– Хадзем, – зьвярнуўся Мурке да дзяўчыны, – мы можам ісьці ў кіно.

– Можна мне цяпер размаўляць? – запытала яна.

– Так, гавары!

Прыкладна ў гэты ж час памочнік рэжысэра з аддзелу радыёспэктакляў праслухоўваў праграму на сёньняшні вечар. Яму падабалася, вось толькі не задавальняў канец п’есы. Памочнік рэжысэра сядзеў у трынаццатай студыі побач з тэхнікам, жаваў запалку і вывучаў рукапіс.

«(Акустыка, як у вялікай пустой царкве)

Атэіст: (гаворыць гучна і ясна)

Хто будзе думаць пра мяне, калі я стану здабычай чарвякоў?

(Маўчаньне)

Атэіст: (троху гучней)

Хто будзе чакаць мяне, калі я зноў ператваруся ў пыл?

(Маўчаньне)

Атэіст: (яшчэ гучней)

І хто будзе думаць пра мяне, калі я зноў стану лісьцем?

(Маўчаньне)»

Было ўсяго дванаццаць такіх пытаньняў, якія атэіст выкрыкваў у царкве, і адказам на кожнае было маўчаньне.

Памочнік рэжысэра дастаў з рота разжаваную запалку, узяў новую і запытальна паглядзеў на тэхніка.

– Так, – сказаў тэхнік, – калі вам цікавая мая думка, то тут троху зашмат маўчаньня.

– Я таксама так мяркую, – адказаў памочнік рэжысэра, – нават сам аўтар так лічыць і даў мне дазвол гэта зьмяніць. Голас проста мусіць прамаўляць «Бог», але ж гэты голас мусіць гучаць не як у царкве, а ў, так бы мовіць, пакоі зь іншай акустыкай. Але скажыце мне, дзе я вазьму цяпер гэты голас?

Тэхнік пасьміхнуўся, дастаў цыгарэтны пачак, які ўсё яшчэ ляжаў наверсе на паліцы.

– Вось, – сказаў ён, – тут голас, які ў пакоі без акустыкі прамаўляе слова «Бог».

Памочнік рэжысэра ажно ледзь не праглынуў запалку ад нечаканасьці, але пасьля здолеў яе выплюнуць.

– Усё ў парадку, – пасьміхнуўся тэхнік, – мы мусілі выразаць іх з аднаго дакладу, дваццаць сем кавалкаў.

– Так шмат мне ня трэба, толькі дванаццаць, – сказаў памочнік рэжысэра.

– Гэта проста – выразаць маўчаньне і дванаццаць раз уклеіць слова «Бог» – пад вашую адказнасьць.

– Вы проста анёл, – сказаў памочнік, – пачынаем!

Тэхнік усьміхнуўся, бо ён радаваўся кавалкам маўчаньня, якія зможа падарыць Мурке: а гэта было шмат маўчаньня, амаль цэлая хвіліна. Столькі ён ніколі яшчэ не дарыў Мурке, а той яму падабаўся.

– Выдатна, – адказаў ён з усьмешкай, – пачынаем.

Памочнік рэжысэра дастаў з кішэні свайго пінжака пачак цыгарэтаў; адначасова ён ухапіў скомканы аркушык, расправіў яго і працягнуў тэхніку:

– Ну ці ня дзіва, якія кічавыя рэчы можна знайсьці на радыёстанцыі? Я знайшоў гэта ля сваіх дзьвярэй.

Тэхнік узяў карцінку, агледзеў яе і сказаў:

– Так, дзіўна, – і гучна прачытаў тое, што было напісана ўнізе: «Я малілася за цябе ў царкве Сьвятога Якуба».

*Пераклала зь нямецкай Алена Талапіла*

# Ян Бжэхва

## АКАДЭМІЯ ДОКТАРА КЛЯКСА

### РАЗЬДЗЕЛ ПЕРШЫ
### **ГЭТАЯ ДЫ ІНШЫЯ КАЗКІ**

Мяне завуць Адам Нязгодка, мне дванаццаць гадоў — і цэлыя паўгода я вучуся ў Акадэміі доктара Клякса. Дома ў мяне ніколі нічога не выходзіла. Я заўсёды спазьняўся ў школу, ніколі не пасьпяваў зрабіць урокі, і ў мяне былі дзіравыя рукі. Усё ў мяне падала на падлогу і разьбівалася, а шклянкі і сподкі ўжо ад аднаго майго выгляду лопаліся і разьляталіся на дробныя аскепкі яшчэ да таго, як я пасьпяваў да іх дакрануцца. Я цярпець ня мог малочны суп і манку і штодзень атрымліваў на абед акурат малочны суп і манку, бо гэта карысная і здаровая ежа. Калі ў дадатак да ўсяго ліха я заліў атрамантам порткі, абрус і новы матчын касьцюм, бацькі вырашылі адправіць мяне па навуку да доктара Клякса. Акадэмія месьціцца на самым канцы Шакаляднай вуліцы ў вялікім чатырохпавярховым будынку з каляровых цаглінак. На чацьвертым паверсе захоўваюцца самыя запаветныя таямніцы доктара Клякса. Ніхто ня мае права ўваходзіць туды, і нават калі каму-небудзь захацелася б увайсьці, ён бы ня ведаў, як гэта зрабіць, бо прыступкі вядуць толькі да трэцяга паверху, і сам доктар Клякс трапляе да сваіх таямніцаў праз комін. На першым паверсе месьцяцца кабінэты, у якіх праходзяць заняткі, на другім — спальні і агульная сталоўка, урэшце на трэцім жыве доктар Клякс з Матэвушам, але гэта толькі ў адным пакоі, а ўсе астатнія пазамыканыя на ключ.

Доктар Клякс прымае ў сваю Акадэмію толькі хлопцаў з імёнамі на літару «А», бо — як ён кажа — ён не зьбіраецца засьмечваць сабе галаву ўсімі літарамі альфабэту. Таму ў Акадэміі чацьвёра Адамаў, пяцёра Аляксандраў, трое Андрэяў, трое Аляксеяў, шасьцёра Антосяў, адзін Артур, адзін Альдзік і адзін Анісім, то бок усяго дваццаць чатыры вучні. Доктара Клякса завуць Арсень, і таму адзін толькі Матэвуш з усёй Акадэміі не пачынаецца на «А». Зрэшты, Матэвуш не зусім і вучань. Гэта вучоны шпак доктара Клякса. Матэвуш умее добра размаўляць, аднак ён вымаўляе толькі канцы словаў, зусім не зьвяртаючы ўвагі на іх пачатак. Калі, напрыклад, Матэвуш падыходзіць да тэлефона, звычайна чуваць:

– Таю, та эмія ктара лякса.

Гэта значыць:

– Вітаю, гэта Акадэмія доктара Клякса.

Вядома, незнаёмыя ўвогуле ня могуць яго зразумець, але доктар Клякс і ягоныя вучні выдатна яго разумеюць. Матэвуш робіць з намі ўрокі і часта замяняе доктара Клякса ў школе, калі той ідзе лавіць матылёў на другое сьняданьне.

А, вось яшчэ! Я зусім быў забыўся сказаць, што наша Акадэмія стаіць пасярод агромністага парку, акружанага высокім мурам, дзе шмат розных ямаў, яроў і цясьнін. Нікому не дазволена выходзіць за мур бяз доктара Клякса. Але гэты мур – не абы-які мур. З таго боку, які бяжыць уздоўж вуліцы, ён абсалютна гладкі, і толькі пасярэдзіне месьціцца вялікая зашклёная брама. У трох жа астатніх частках муру доўгім, бесьперапынным шэрагам цягнуцца адна ля другой жалезныя весьнічкі, пазамыканыя на срэбныя замкі.

Усе гэтыя весьнічкі вядуць у розныя іншыя казкі, зь якімі доктар Клякс у вельмі добрых, сяброўскіх стасунках. На кожных весьнічках ёсьць таблічка з назвай казкі. Там ёсьць усе казкі спадара Андэрсэна і братоў Грым, казка пра Шчаўкунка, пра Рыбака і Рыбку, пра Ваўка Ваўковіча, пра Беласьнежку і сем гномаў, пра Качку-Дзівачку і шмат іншых. Ніхто ня ведае дакладна, колькі там гэтых весьнічак, бо пачаўшы лічыць іх, заўжды памыляесься, і праз хвіліну ўжо невядома, колькі налічыў перад гэтым. Там, дзе павінна быць дванаццаць, раптам выходзіць дваццаць восем, а там, дзе здавалася, што іх дзевяць, атрымліваецца трыццаць адна або шэсьць. Нават Матэвуш ня ведае, колькі там тых казак, і кажа, што «ожа, о, а ожа, сьце», што значыць: можа, сто, а можа, дзьвесьце.

Ключы ад весьніцаў доктар Клякс захоўвае ў вялікім срэбным куфэрку і заўсёды ведае, які зь іх ад якога замка. Вельмі часта доктар Клякс адпраўляе нас у розныя казкі што-небудзь купіць. Выбірае ён звычайна мяне, бо я руды і адразу кідаюся ў вочы. І вось аднойчы, калі ў доктара Клякса скончыліся запалкі, ён паклікаў мяне, даў маленькі залаты ключык на залатым колцы і сказаў:

– Адасю, заскоч у казку спадара Андэрсэна пра Дзяўчынку з запалкамі, і папрасі для мяне карабок запалак.

Моцна ўзрадаваны, я паляцеў у парк і – ня ведаю як – адразу трапіў да патрэбных весьнічак. Праз імгненьне я апынуўся з таго боку. Перад маімі вачыма ўзьнікла вуліца нейкага невядомага гораду, па якой сноўдалася мноства людзей. Ішоў сьнег, хоць з нашага боку ў гэты час было лета. Мінакі

пацепваліся ад холаду, а я яго зусім не адчуваў, і на мяне ня трапіла аніводнай сьняжынкі.

Калі я, зьдзіўлены, гэтак стаяў, да мяне падышоў нейкі сівы стары, пагладзіў мяне па галаве і сказаў з усьмешкай:

– Не пазнаеш мяне? Я Андэрсэн. Табе дзіўна, што тут зіма ды ідзе сьнег, у той час як у вас чэрвень і дасьпяваюць чарэшні. Праўда? Але ж, хлопча, зразумей, што ты зусім зь іншай казкі. Што ты тут робіш?

– Спадар Андэрсэн, я прыйшоў па запалкі. Доктар Клякс мяне адправіў.

– А-а, дык ты ад доктара Клякса? – усьцешыўся спадар Андэрсэн. – Я вельмі люблю гэтага дзівака. Зараз дам запалкі.

Андэрсэн пляснуў у далоні, і праз хвілю з-за рогу паказалася маленькая азяблая дзяўчынка з запалкамі. Андэрсэн узяў у яе карабок і даў мне:

– Трымай, аднясі яго доктару Кляксу. І ня трэба плакаць і шкадаваць гэтую дзяўчынку, яна бедная і азяблая толькі з выгляду. Гэта ж казка. Тут усё выдуманае і несапраўднае.

Дзяўчынка ўсьміхнулася мне, памахала рукой на разьвітаньне, а спадар Андэрсэн правёў мяне да весьнічак.

Калі я расказаў хлопцам пра маю прыгоду, усе мне вельмі пазайздросьцілі, што я пазнаёміўся са спадаром Андэрсэнам.

Пазьней я вельмі часта хадзіў у розныя казкі па ўсялякіх справах: то трэба было прынесьці пару ботаў з казкі пра Ката ў ботах, то зноўку ў таямніцах доктара Клякса завяліся мышы, і трэба было прывесьці самога Ката, або, калі не было чым падмесьці двор, я мусіў пазычыць мяцёлку ў адной вядзьмаркі з казкі пра Лысую Гару.

Аднак было і так, што аднойчы ў нас зьявіўся нейкі незнаёмы мужчына ў шырокім аксамітным каптане, кароткіх аксамітных портках і ў капелюшы зь пяром і загадаў правесьці яго да доктара Клякса.

Нам усім было вельмі цікава, навошта прыйшоў гэты чалавек. Доктар Клякс доўга шаптаўся зь ім, частаваў пілюлькамі для росту валасоў, якія сам пастаянна глытаў, а потым, паклікаўшы мяне і аднаго з Андрэяў, сказаў:

– Слухайце, хлопцы, гэты чалавек прыйшоў з казкі пра Царэўну ў сонным лесе і семярых асілкаў. Дык вось, двое зь іх учора пайшлі ў лес і не вярнуліся. Самі разумееце, што пры такіх умовах казка пра Царэўну ў сонным і лесе і семярых асілкаў ня можа скончыцца. Таму я аддаю вас гэтаму чалавеку на дзьве гадзіны. Толькі памятайце, вы мусіце вярнуцца на вячэру.

– Чэра удзе остай! – закрычаў Матэвуш, што значыла: вячэра будзе а шостай.

І мы пайшлі разам з гэтым чалавекам у аксамітным строі. Па дарозе мы даведаліся, што ён – адзін з братоў царэўны і што мы таксама мусім апрануцца ў такія ўборы. Мы ахвотна пагадзіліся на гэта, нам абодвум было цікава ўбачыць Царэўну ў сонным лесе. Ня буду тут доўга гаварыць пра саму казку, бо кожны яе напэўна ведае. Аднак скажу, што за ўдзел у казцы Царэўна, калі прачнулася, запрасіла нас з Андрэем папалуднаваць. Відаць, ня ўсе ведаюць, як палуднуюць царэўны, і пагатоў царэўны з казак. Дык вось, найперш лёкаі прынесьлі на падносах вялізныя горы пірожных з крэмам, а потым і асобна крэм на вялікіх срэбных талерках. Кожны з нас атрымаў столькі пірожных, колькі хацеў. Да пірожных нам падалі шакаляд, кожнаму па тры кубкі ўраз, а ў кожным кубку яшчэ і зьверху плавалі кавалачкі шакаляду. На вялікіх талерках ляжалі марцыпанавыя зьвяркі і мармэлядныя лялькі, цукеркі і садавіна ў цукры. Урэшце на крыштальных талерках і вазах быў вінаград, персікі, мандарыны, клубніцы і розная іншая садавіна, а таксама шмат рознага марозіва ў шакалядных формачках.

Царэўна ўсьміхалася нам і ўгаворвала, каб мы елі колькі заўгодна, бо нам гэта ніяк не зашкодзіць. Гэта ж вядома, што ў казках ніколі нікому ня робіцца блага ад пераяданьня, і што гэта абсалютна інакш, чым у рэчаіснасьці. Я захапіў у кішэню некалькі формачак з марозівам, каб аднесьці іх сябрам, але марозіва растала і пацякло па нагах. Якое шчасьце, што ніхто гэтага не заўважыў!

Папалуднаваўшы, царэўна загадала запрэгчы пару коней у невялікі экіпаж і давезла нас ажно да самага муру Акадэміі доктара Клякса.

– Пакланіцеся ад мяне доктару Кляксу, – сказала яна на разьвітаньне, – і запрасіце да мяне на матылькоў у шакалядзе.

І дадала:

– Я столькі чула пра казкі доктара Клякса! Я проста абавязана калісьці ў яго пабываць.

Гэтак я даведаўся, што ў доктара Клякса ёсьць свае ўласныя казкі, але пазнаёміўся зь імі я значна пазьней.

Так ці інакш, я ў любым выпадку пачаў паважаць доктара Клякса яшчэ больш і вырашыў пасябраваць з Матэвушам, каб даведацца ў яго пра ўсё.

Матэвуш ня дужа гаваркі, а бываюць нават такія дні, што ён увогуле ні з кім ня хоча размаўляць.

У доктара Клякса ёсьць адмысловыя лекі ад такой упартасьці – рабацінкі.

Ня памятаю, ці казаў я раней, што твар доктара Клякса проста сьпярэшчаны рабаціньнем. Спачатку мяне вельмі дзівіла, што рабацінкі кожны дзень перамяшчаліся зь месца на месца: сёньня яны аздабляюць нос доктара Клякса, заўтра зноў пераходзяць на лоб, каб пасьлязаўтра зьявіцца на барадзе або шыі.

Выявілася, што прычынай гэтаму была расьсеянасьць доктара Клякса, які на ноч звычайна здымае рабаціньне і хавае яго ў залатую табакерку, у якой трымае мноства запасных рабацінак рознай велічыні і афарбоўкі.

Шточацьвер з гораду прыходзіць цырульнік Піліп і прыносіць доктару Кляксу сьвежыя рабацінкі, якія зьбірае з твараў сваіх кліентаў падчас галеньня. Доктар Кляксь вельмі ўважліва іх разглядае, прымярае перад люстэркам, а пасьля клапатліва хавае ў табакерку.

У нядзелю і на сьвяты доктар Кляксь роўна аб адзінаццатай кажа:

– Ну, а цяпер прымем рабаціньне.

Пасьля гэтых словаў ён выбірае з табакеркі чатыры-пяць самых вялікіх і шыкоўных рабацінак і чапляе іх сабе на нос.

Доктар Кляксь мяркуе, што ня можа быць нічога прыгажэйшага за вялікія чырвоныя або жоўтыя рабацінкі.

– Рабаціньне цудоўна ўплывае на розум і бароніць ад насмарку, – кажа нам звычайна доктар Кляксь.

Таму, калі хто-небудзь з вучняў праявіць сябе на ўроках, доктар Кляксь урачыста вымае з табакеркі сьвежую, яшчэ не ўжываную рабацінку і прымацоўвае яе на нос такога шчасьліўца са словамі:

– Насі яе годна, мой хлопча, і ніколі не здымай, бо гэта найвышэйшая адзнака, якую ты можаш атрымаць у маёй Акадэміі.

Адзін з Аляксандраў здабыў ажно тры вялікія рабацінкі, а некаторыя хлопцы атрымалі па дзьве ці па адной і носяць іх на тварах з надзвычайным гонарам. Я зайздрошчу ім і ня ведаю, што б я аддаў за тое, каб атрымаць такую адзнаку, але доктар Кляксь кажа, што я яшчэ вельмі мала ўмею.

Дык вось, вяртаючыся да Матэвуша, мушу сказаць, што ён вельмі любіць рабаціньне доктара Кляксa і лічыць яго найвялікшым ласункам.

Таму як толькі Матэвуш змаўкае, доктар Кляксь здымае са свайго твару самую старую рабацінку і дае яе зьесьці Матэвушу. Вынік бачны адразу ж: Матэвуш пачынае гаварыць і адказвае на ўсе пытаньні. Такі метад прыдумаў для яго доктар Кляксь!

Аднойчы – гэта было ў сярэдзіне чэрвеня – доктар Кляксь заснуў у парку і зусім не заўважыў, як яго пакусалі камары. Ён пачаў гэтак заўзята драпаць

нос, што зьдзер усё рабаціньне. Я цішком пазьбіраў яго ў траве і аднёс Матэвушу. З таго часу ён вельмі пасябраваў са мной і расказаў мне незвычайную гісторыю свайго жыцьця.

Паўтару яе тут цалкам, толькі дадам пачаткі да словаў Матэвуша.

## РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ
## **НЕЗВЫЧАЙНАЯ ГІСТОРЫЯ МАТЭВУША**

Насамрэч я ня птушка – я прынц. У дзяцінстве мне расказвалі шмат казак пра людзей, ператвораных у птушак ці жывёл, аднак я ніколі ня верыў у праўдзівасьць гэтых гісторый.

Тым часам акурат маё жыцьцё склалася так, як апісвалася ў гэтых казках.

Я нарадзіўся ў каралеўскай сям'і і быў адзіным сынам і спадкаемцам трону магутнага ўладара. Я жыў у палацы, аздобленым мармурам і золатам, хадзіў па пэрсыдзкіх дыванах; кожны мой капрыз адразу ж выконвалі паслужлівыя міністры і прыдворныя; кожная мая сьляза была падлічана, кожная ўсьмешка – запісана ў адмысловую кнігу прынцавых усьмешак, – а сёньня... сёньня я – шпак, які адчувае сябе чужым як сярод птушак, так і сярод людзей.

Мой бацька быў каралём і валадарыў над многімі краінамі і народамі. Шмат людзей трымцела ад трывогі, толькі пачуўшы ягонае імя. Незьлічоныя скарбы і палацы, залатыя кароны і скіпэтры, каштоўныя камяні, багацьці, пра якія ніхто і ня марыць, – усё гэта належала майму бацьку.

Маці таксама была з каралеўскага роду і славілася сваёй прыгажосьцю на ўсім белым сьвеце і на ўсім чорным моры. У мяне было чатыры сястры, і ўсе яны выйшлі замуж за каралёў: адна за гішпанскага, другая – за італійскага, трэцяя – за партугальскага, чацьвертая – за галяндзкага.

Каралеўскія караблі валадарылі на чатырох марах, а войска было такое вялізнае і магутнае, што ў маёй краіны не было ворагаў, і ўсе каралі сьвету шукалі прыязнасьці і прыхільнасьці майго бацькі.

З самых малых гадоў я захапляўся паляваньнем і коннай яздой. Мая ўласная стайня налічвала сто дваццаць арабскіх і ангельскіх скакуноў, а таксама сорак восем стэпавых мустангаў.

У маёй збройні было шмат паляўнічых стрэльбаў, зробленых найлепшымі майстрамі і дастасаваных адмыслова да майго росту, да даўжыні пляча і да майго вока.

Калі мне споўнілася восем гадоў, мой бацька даручыў маё выхаваньне дванаццаці найслыньнейшым вучоным і загадаў ім навучыць мяне ўсяму таму, што яны самі ведаюць і ўмеюць. Я добра вучыўся, але мая неадольная жарсьць да сядла і стрэльбы настолькі распальвала розум і душу, што я ўжо ня мог думаць ні пра што іншае.

Таму бацька, баючыся за маё здароўе, забараніў мне езьдзіць вярхом.

Я плакаў горкімі сьлязьмі, і чатыры фрэйліны дбайна зьбіралі мае сьлёзы ў крыштальны флякон. Калі флякон напоўніўся да краёў, паводле звычаяў нашай краіны, была абвешчана нацыянальная жалоба на тры дні. Двор апрануўся ў чорнае, і ўсе прыёмы, балі і забавы былі адмененыя. Сьцяг на палацы апусьцілі да паловы мачты, а войска на знак жалобы зьняло шпоры.

Сумуючы па сваіх конях, я страціў апэтыт, не хацеў вучыцца і толькі сядзеў цэлымі днямі на маленькім троне, не адгукаючыся ні на чые словы і не адказваючы на пытаньні.

Вучоныя разам з маёй маці намагаліся пераканаць караля адмяніць свой наказ — аднак дарэмна. Бацька ня меў звычкі забіраць назад свае словы.

Ён адно сказаў:

— Мая бацькоўская і каралеўская воля — нязломная. Здароўе спадкаемцы трону я стаўлю вышэй за капрызы свайго дзіцяці. Маё сэрца абліваецца крывёю, калі я бачу ягоную тугу, аднак будзе так, як раяць мае прыдворныя мэдыкі і хірургі. Прынц больш не асядлае каня, пакуль яму ня споўніцца чатырнаццаці гадоў.

Я ня мог зразумець, чаму прыдворныя дактары забаранілі мне езьдзіць вярхом, бо ўсім было вядома, што я — адзін з найлепшых коньнікаў у краіне і кірую канём ня горш, чым мой бацька — каралеўствам.

Па начах мне сьніліся мае скакуны, мае л*ю*быя коні, і я вымаўляў праз сон іхныя імёны, якія гэтак добра памятаў.

Неяк ноччу мяне раптоўна прабудзіла ціхае ржаньне за акном. Я падхапіўся з ложка і вызірнуў у сад. На сьцежцы стаяў асядланы мой цудоўны скакун Алі-Баба. Відаць, ён пачуў мой покліч, і цяпер, убачыўшы мяне, радасна фыркнуў і падышоў аж пад самае акно. Упоцемках я апрануўся, схапіў стрэльбу і як мага цішэй выскачыў праз акно проста на сьпіну Алі-Бабы. Аргамак ірвануўся зь месца, пераскочыў некалькі садовых парканаў і пабег наперад, несучы мяне немаведама куды. Гэтак мы доўга ехалі ў месяцовым сьвятле; калі ж выявілася, што за намі няма пагоні, я папусьціў лейцы і скіраваўся да лесу, які віднеўся ўдалечыні.

Ап’янёны гэтай начной яздой, я забыўся пра бацькаву забарону, пра тое, што я ўсё больш і больш аддаляюся ад палацу і што ў лесе небясьпечна. Мне тады было восем гадоў, але адвагі ў мяне было як у пяці каралеўскіх грэнадэраў разам узятых.

Калі я апынуўся ў лесе, конь пачаў паводзіць сябе неспакойна, сьцішыў бег, аж урэшце стаў як скамянелы, дрыжучы і фыркаючы.

Неўзабаве я зразумеў, што здарылася: на лясной сьцежцы насупраць Алі-Бабы стаяў вялізны воўк. Ён жудасна шчэрыў іклы, і пена капала зь ягонай пысы.

Я хутка нацягнуў лейцы і схапіўся за стрэльбу. Воўк з раскрытай пашчай паволі набліжаўся да мяне.

І я крыкнуў:

– Іменем караля загадваю табе, воўча, саступіць мне дарогу, інакш мне давядзецца цябе забіць!

Але воўк толькі зарагатаў чалавечым голасам і далей наступаў на мяне.

Тым часам я адвёў курок, прыцэліўся і высадзіў увесь запас набояў у адкрытую воўчую пашчу.

Стрэл быў трапны. Воўк скурчыўся, напяўся, нібыта перад скокам, і ўрэшце ўпаў ля капытоў Алі-Бабы. Я саскочыў зь сядла і падышоў да забітага зьвера. Аднак у той час, калі я стаяў над ім, аглядаючы яго вялікую прыгожую галаву, воўк, відаць, апошнім высілкам паварушыўся і загнаў мне востры, нібы штылет, ікол у правае сьцягно. Я адчуў, як мяне працяў боль, але ўжо праз хвіліну сківіцы ваўка самі раскрыліся, і галава з грукатам упала на зямлю.

У гэты ж момант з усіх бакоў данеслася грознае працяглае выцьцё ваўкоў.

Напаўпрытомны ад болю і жаху, я асядлаў Алі-Бабу і галопам паехаў у бок палацу. Калі я прабраўся ў сад, была яшчэ ноч. Я наблізіўся да акна і заскочыў у пакой, пакінуўшы каня сам-насам зь лёсам. Відаць, ніхто не заўважыў маёй адсутнасьці, таму я як найхутчэй паклаўся ў ложак і адразу ж заснуў мёртвым сном. Прачнуўшыся зранку, я ўбачыў шасьцярых дактароў і дванаццаць вучоных, што схіліліся над маім ложкам і заклапочана ківалі галовамі. З майго раскрытага сьцягна маленькімі кропелькамі сачылася кроў. Дактары ніяк не маглі вызначыць прычыну крывацёку, я ж, баючыся бацькавага гневу, змаўчаў аб начной прыгодзе і сустрэчы з ваўком. Час ішоў, кроў сачылася з ранкі і прыдворныя дактары ніяк не маглі яе спыніць. Былі запрошаны найзнакаміцейшыя хірургі сталіцы, але іхныя высілкі таксама ня мелі посьпеху.

Крывацёк узмацняўся з кожнай гадзінай. Вестка пра маю хваробу разьляцелася па ўсёй краіне, натоўпы людзей кленчылі на плошчах і вуліцах сталіцы, узносячы малітвы за маё выздараўленьне.

Маці залівалася сьлязьмі, чуйнуючы ля майго ложка, а бацька адправіў ва ўсе краіны просьбу накіраваць да нас найлепшых лекараў і хірургаў.

Неўзабаве іх сабралося столькі, што ў палацы не хапала памяшканьняў.

Таму, хто спыніць крывацёк, бацька абяцаў узнагароду цаной у цэлае каралеўства. Аднак замежныя лекары патрабавалі яшчэ большага.

Доўгім карагодам яны рухаліся каля майго ложка, аглядалі і вывучалі мяне; адны прымушалі мяне глытаць розныя кроплі і пілюлі, іншыя націралі рану мазямі і пасыпалі яе парашкамі зь дзіўным пахам. Былі таксама і тыя, што проста маліліся або прамаўлялі словы таямнічых заклёнаў. Аднак ніводзін зь іх ня здолеў мяне вылечыць; я згасаў і марнеў на вачах, і кроў надалей сачылася зь мяне.

Калі ўсе ўжо былі страцілі надзею на маё ацаленьне, і дактары, бачачы сваю бясьсільнасьць, пакінулі палац, прыдворная варта паведаміла, што прыехаў кітайскі вучоны, які адгукнуўся на заклік майго бацькі.

Яго неахвотна праводзілі да майго ложка, бо ўжо ніхто ня верыў, што можа існаваць яшчэ нейкі паратунак для мяне, і ўся краіна была занураная ў жалобу. Гэты прышлы быў прыдворным лекарам апошняга кітайскага імпэратара і прадставіўся доктарам Пай-Хі-Во.

Мой бацька прывітаў яго з роспаччу ў голасе:

– Доктар Пай-Хі-Во, выратуй майго сына! Калі табе ўдасца яго ацаліць, я дам табе столькі брыльянтаў, рубінаў і смарагдаў, колькі іх зьмесьціцца ў гэтым пакоі. Твой помнік паставяць на плошчы, а калі захочаш, я зраблю цябе першым міністрам майго каралеўства.

– Яснавяльможны пане і справядлівы ўладару, – адказаў доктар Пай-Хі-Во, кланяючыся да зямлі, – пакінь свае каштоўнасці для беднякоў гэтай краіны, не патрэбны мне і помнік, бо ў маёй айчыне помнікі ставяць толькі паэтам. Я не хачу быць міністрам, бо магу трапіць да цябе ў няміласьць. Дазволь мне спачатку агледзець хворага, а пра ўзнагароду мы паразмаўляем пазьней.

Пасьля гэтых словаў ён наблізіўся да мяне, агледзеў рану, прыклаў да яе вусны і пачаў уліваць у мяне сваё дыханьне.

Я неадкладна адчуў жыватворны прыліў сіл, і мне здалося, што кроў зьмянілася ўва мне і пачала кружыць хутчэй.

Калі праз нейкі час доктар Пай-Хі-Во адняў вусны ад майго цела – рана зьнікла бязь сьледу.

— Прынц здаровы і можа пакінуць ложак, — сказаў кітаец, устаючы і нізка, паводле ўсходняй традыцыі, кланяючыся.

Мае бацькі плакалі ад радасьці і горача дзякавалі майму збаўцу.

— Калі гэта не супярэчыць этыкету двара, — сказаў урэшце доктар Пай-Хі-Во, — я хацеў бы на хвілінку застацца сам-насам з маім высакародным пацыентам.

Кароль згадзіўся, і ўсе пакінулі маю спальню. Тым часам кітайскі лекар сеў ля майго ложка і сказаў:

— Я вылечыў цябе, мой маленькі прынц, бо мне вядомыя таямніцы, недаступныя для белых людзей. Я ведаю, як зьявілася твая рана.

Ты застрэліў караля ваўкоў, але ведай, што ваўкі помсьцяць жудасна і ніколі табе гэтага не даруюць. Гэта першы кароль ваўкоў, які загінуў ад рукі чалавека. З гэтага часу табе будзе пагражаць вялікая небясьпека. Таму я даю табе чароўную шапку багдыханаў, якую мне пакінуў перад сьмерцю апошні кітайскі імпэратар, каб я перадаў яе ў каралеўскія рукі.

Гаворачы гэта, ён дастаў з кішэні сваіх ядвабных нагавіц круглую шапачку з чорнага сукна, упрыгожаную на макаўцы вялікім гузікам, і працягваў далей:

— Вазьмі яе, мой маленькі прынц, ніколі не расставайся зь ёю і пільнуй яе як зрэнку вока. Калі тваму жыцьцю будзе пагражаць небясьпека, надзень чароўную шапку багдыханаў — і зможаш ператварыцца ў каго захочаш. Калі небясьпека міне, варта пацягнуць за гузік — і зноў вернесься да свайго каралеўскага аблічча.

Я падзякаваў доктару Пай-Хі-Во за ягоную незвычайную дабрыню, а ён пацалаваў мне руку і выйшаў з пакою. Ніхто ня бачыў, куды ён накіраваўся з палацу. Ён зьнік бязь сьледу, ні з кім не разьвітваючыся і не жадаючы ўзнагароды за маё ацаленьне.

Аднак мой бацька, удзячны доктару Пай-Хі-Во, загадаў наладзіць вялікія бяседы для беднякоў па ўсёй краіне і раздаць ім дванаццаць мяхоў брыльянтаў, рубінаў і смарагдаў.

Ачуняўшы, я зноў узяўся за навуку і ў той жа час зусім страціў цягу да коней і паляваньня.

Мяне ўвесь час непакоіла думка, што я забіў караля ваўкоў. Ляцелі гады, але ягоная ашчэраная чырвоная пашча і бліскучыя вочы заставаліся ў маёй памяці.

Яшчэ я заўсёды памятаў засьцярогу доктара Пай-Хі-Во і ніколі не расставаўся з падоранай ім шапкай.

Тым часам у каралеўстве пачалі адбывацца незразумелыя рэчы. З усіх канцоў краіны даходзілі чуткі, што вялізныя зграі ваўкоў нападаюць на вёскі і мястэчкі, выразаюць жывёлу і людзей.

У паўднёвых раёнах тысячы ваўкоў, што цягнуцца на поўнач, растапталі ўсе пасевы.

На дарогах і гасьцінцах бялелі косткі людзей і жывёлы.

Нахабныя зьвяры сярод белага дня акружалі невялікія паселішчы, спусташаючы іх за некалькі хвілін.

Па лясах рассыпалі атруту, ставілі пасткі, капалі воўчыя ямы, зьнішчалі гэтую страшную навалу стальлю і жалезам, аднак напады ваўкоў не спыняліся. Пакінутыя сядзібы служылі ім логвішчамі і бярлогамі; пасьля трывожных начэй маткі не знаходзілі сваіх дзяцей, мужы – жонак. Рык і скавытаньне гінучай жывёлы не змаўкалі ні на хвіліну.

Для барацьбы з гэтым ліхам былі адпраўлены шматлікія атрады добра ўзброенага войска, ваўкоў зьнішчалі ўдзень і ўночы, аднак яны множыліся з такой хуткасьцю, што пачалі пагражаць усёй дзяржаве.

Пачаўся голад. Народ абвінавачваў міністраў і двор у бязьдзейнасьці і здрадзе. Хваля незадавальненьня і роспачы расла і мацнела. Ваўкі ўрываліся ў дамы і выцягвалі адтуль людзей, што паміралі з голаду.

Кароль раз-пораз зьмяняў міністраў, але ніхто ня мог даць рады няшчасьцю.

І вось аднойчы ваўкі наблізіліся да сталіцы. Не было такой сілы, якая магла б стрымаць іх жахлівы паход. Адным лістападаўскім ранкам ваўкі ўварваліся ў палац. Мне тады было гадоў чатырнаццаць, але я быў дужы і адважны. Я схапіў найлепшую стрэльбу, наладаваў яе і стаў ля ўваходу ў тронную залю, дзе сядзелі мае бацькі.

– Прэч адсюль! – закрычаў я лютым голасам.

Я ўжо зьбіраўся стрэліць, як адзін з вартаўнікоў, што дагэтуль стаялі нерухома ля ўвахода ў тронную залю, раптам схапіў мяне за руку і, набліжаючы да мяне свой твар, зароў:

– Іменем караля ваўкоў загадваю табе, шчанё, саступіць ім дарогу, інакш мне давядзецца цябе забіць!

Мяне агарнуў жах. Стрэльба выпала з рук, я адчуў жудасную слабасьць, у вачах пацямнела – я ўбачыў перад сабой ашчэраную чырвоную пашчу караля ваўкоў.

Што было потым – я ня ведаю. Калі я апрытомнеў, бацькі мае ўжо былі мёртвыя, ваўкі гойсалі па палацы, а я ляжаў на падлозе з разьбітай галавой,

завалены абломкамі крэслаў і living рознымі рэчамі. Я клікаў на дапамогу, але з маіх вуснаў выляталі толькі канцы словаў. Гэтак і засталося назаўсёды.

Разважаючы ў роспачы пра сваё становішча, я зразумеў, што ацалеў толькі дзякуючы таму, што быў завалены абломкамі.

«Што рабіць? – думаў я. – Як выбрацца з гэтага пекла? О Божа, Божа! Калі б можна было зрабіцца птушкай і паляцець адсюль куды-небудзь!»

І раптам мне згадалася чароўная шапка доктара Пай-Хі-Во. Дзе ж яна? Я палез у кішэню. Ёсьць! Я ўжо зьбіраўся надзець яе на галаву, як раптам заўважыў, што на ёй няма гузіка. Але ж я магу зрабіцца птушкай, выбрацца з палацу, уцячы з гэтай няўдзячнай краіны, а потым – потым застацца птушкай ужо назаўсёды, не спадзеючыся вярнуцца калі-небудзь да свайго ўласнага аблічча.

Раптам я пачуў над сабой сапеньне. Праз абломкі рэчаў я ўбачыў разяўленую воўчую пашчу.

Я ня меў часу на роздум. Надзеўшы шапку, я сказаў:

– Хачу быць птушкай!

У тую самую хвіліну я пачаў курчыцца, плечы ператварыліся ў крылы. Я стаў шпаком, уласна такім, якім я ёсьць сёньня.

Я лёгка выбраўся з-пад руінаў, ускочыў на парэнчы нейкай мэблі і выпырхнуў у акно. Я быў вольны!

Я доўга ляцеў над маёй айчынай, але адусюль даносіліся толькі дзікія перадсьмяротныя крыкі народу і выцьцё галодных ваўкоў. Вёскі і гарады пусьцелі. Каралеўства майго бацькі распалася і ператварылася ў руіны, сярод якіх шалелі голад і роспач.

Помста караля ваўкоў была страшэннай.

Лунаючы па-над зямлёй, я аплакваў сьмерць бацькоў і бяду, якая агарнула маю краіну. Адарваўшыся ўрэшце ад гэтых сумных карцін, я пачаў задумвацца пра згублены гузік на шапцы багдыханаў.

З той хвіліны як я атрымаў гэтую шапку з рук доктара Пай-Хі-Во, прайшло шэсьць гадоў. У гэты час я шмат падарожнічаў па розных краінах і гарадах. Дзе ж і калі я згубіў гэты бясцэнны гузік, безь якога я ўжо ніколі не змагу зрабіцца чалавекам?

Я ведаў, што ніхто мне не адкажа на гэтае пытаньне.

Я лятаў па чарзе да сваіх сясьцёр, але ніводная зь іх не змагла зразумець маю мову і ўсе думалі, што я звычайная птушка. Самая старэйшая, гішпанская каралева, зачыніла мяне ў клетцы і падаравала інфанце на імяніны. Калі праз некалькі тыдняў я надакучыў капрызнай прынцэсе, яна аддала

мяне сваёй прыслужніцы, тая ж прадала мяне разам з клеткай вандроўнаму гандляру за некалькі пэса.

З таго часу я пераходзіў з рук у рукі, аж урэшце на птушыным рынку ў Саляманцы мяне набыў адзін замежны вучоны, якога зацікавіла мая вымова.

Яго звалі Арсень Клякс.

## РАЗЬДЗЕЛ ТРЭЦІ
## **ДЗІВАЦТВЫ ДОКТАРА КЛЯКСА**

Мяне вельмі ўзрушыла гісторыя Матэвуша. Я вырашыў зрабіць усё, што змагу, каб знайсьці згублены гузік і вярнуць Матэвушу ягоны сапраўдны выгляд.

З той хвіліны я клапатліва пачаў зьбіраць усялякія гузікі, якія мне толькі ўдавалася знайсьці. Калі я быў па-за Акадэміяй доктара Клякса – ці то ў трамваі, ці на вуліцы, ці ўрэшце на тэрыторыі суседніх казак, – я непрыкметна адразаў сьцізорыкам гузікі ад палітонаў, жакетаў і пінжакоў сустрэтых мужчын і кабет. З гэтай нагоды ў мяне было шмат непрыемнасьцяў.

Неяк адзін паштар, каб пакараць, закінуў мяне ў сажалку з ракамі, іншым разам нейкі таўстун выкачаў мяне ў крапіве, а адна бабулька, у якой я адарваў гузік ад плашча, адлупцавала мяне парасонам.

Аднак нягледзячы на гэта мае пошукі гузіка працягваюцца і надалей, і я ўпэўнена магу сьцвярджаць, што ва ўсёй ваколіцы няма такога гузіка, якога б не было ў маёй калекцыі.

Агулам я сабраў семдзесят восем тузінаў гузікаў, кожны зь якіх адрозьніваецца ад іншага. На жаль, ні ў адным зь іх Матэвуш не пазнаў гузіка ад сваёй шапкі.

Таму я паабяцаў сабе, што і далей буду працягваць пошукі, дзе толькі змагу, пакуль не знайду гэты чароўны гузік доктара Пай-Хі-Во.

Аднаго толькі я не магу зразумець: чаму доктар Клякс дагэтуль не заняўся гэтай справай. Бо калі б ён толькі захацеў – ён мог бы лёгка знайсьці гэты чароўны гузік і выратаваць няшчаснага прынца. Ах, доктар Клякс можа ўсё! Няма такога, чаго б ён ня змог зрабіць.

Ён можа абсалютна дакладна вызначыць, хто пра што падумаў і а якой гадзіне; можа сесьці на крэсла, якое мусіць быць, але якога зусім няма; можа падымацца ў паветра, нібы шарык; можа з маленькіх прадметаў рабіць вялікія і наадварот; можа з каляровых шкельцаў гатаваць разнастайныя стра-

вы; можа зьняць полымя сьвечкі і захоўваць яго некалькі дзён у кішэньцы камізэлькі.

Карацей кажучы, ён можа ўсё.

Калі я гэтак разважаў падчас заняткаў, доктар Кляксс, заўважыўшы гэтыя мае думкі, пагразіў мне пальцам і сказаў:

– Слухайце, хлопцы! Некаторым з вас здаецца, што я нейкі чараўнік ці штукар. Таму, хто так думае, перадайце, што ён дурань. Я люблю штонебудзь прыдумляць і трохі разьбіраюся ў казках. І ўсё. Калі вы зьбіраецеся мне прыпісваць незвычайныя рэчы, мне гэта абсалютна не абыходзіць. Рабіце сабе, што хочаце. Я ня лезу ў чужыя справы. Некаторыя нават вераць, што чалавек можа пераўвасобіцца ў птушку. Праўда, Матэвуш?

– Аўда, аўда! – закрычаў Матэвуш з задняй кішэні сурдута доктара Кляксa.

– А я мяркую, – працягваў далей доктар Кляксс, – гэта прыдумкі, і я ў іх верыць не зьбіраюся.

– Ну а казкі, спадар прафэсар, казкі – таксама прыдумкі? – нечакана запытаў Анісім.

– З казкамі бывае па-рознаму, – сказаў доктар Кляксс. – Некаторыя, напрыклад, лічаць, што я таксама прыдумка і што мая Акадэмія – прыдумка, але мне здаецца, што яны памыляюцца.

Усе вучні вельмі паважаюць і любяць доктара Кляксa, бо ён вельмі добры і ніколі не злуе.

Аднойчы, сустрэўшы мяне ў парку, ён усьміхнуўся і сказаў:

– Табе так файна з гэтымі рудымі валасамі, мой хлопча!

А праз хвіліну, дапытліва аглядаючы мяне, дадаў:

– Ты цяпер падумаў, што мне, відаць, сто гадоў, праўда? А я, між іншым, на дваццаць гадоў маладзейшы за цябе.

Насамрэч, менавіта гэтак я і падумаў, таму мне стала непрыемна, што доктар Кляксс заўважыў гэтыя думкі. Аднак я доўга ня мог зразумець, як доктар Кляксс можа быць настолькі маладзейшым за мяне.

Дык вось, Матэвуш расказаў мне, што на трэцім паверсе, дзе ён жыве з доктарам Кляксам, на падаконьні стаяць два ложачкі, ня большыя за пачкі цыгарэтаў, і што акурат у гэтых ложачках сьпяць доктар Кляксс і Матэвуш. Я ня зьдзіўлены, што ў такім ложачку можа зьмясьціцца шпак, але доктар Кляксс?.. Я ня мог гэтага спасьцігнуць. Можа быць, Матэвушу гэта здаецца або ён проста выдумляе. Так ці інакш, ён сказаў мне, што кожны дзень апоўначы доктар Кляксс пачынае памяншацца, пакуль не становіцца маленькім,

як немаўля. Ён губляе валасы, вусы і бараду і, нібыта нічога ня здарылася, кладзецца ў маленькі ложачак побач з Матэвушам.

На досьвітку доктар Клякс устае, укладае сабе ў вуха павелічальную помпачку і праз хвіліну робіцца нармальнай велічыні. Затым глытае некалькі пілюлек для росту валасоў і такім чынам празь дзесяць хвілін вяртаецца да свайго звычайнага выгляду.

Павелічальная помпачка доктара Клякса ўвогуле заслугоўвае асобнай ўвагі. На выгляд яна нагадвае звычайную масьлёнку для змазваньня швейнай машыны. Калі доктар Клякс прыкладае масьлёнку да якога-небудзь прадмета і націскае на яе донца, гэты прадмет тут жа пачынае расьці і павялічвацца. Дзякуючы гэтаму доктар Клякс за адну хвіліну можа зь немаўляці ператварыцца ў дарослага чалавека, таксама дзякуючы гэтаму на абед для ўсёй Акадэміі дастаткова кавалка мяса велічынёй з далонь, бо, згатаваўшы, доктар Клякс павялічвае яго сваёй помпай да памераў вялікай смажаніны. Асаблівасьць павелічальнай помпачкі заключаецца яшчэ ў тым, што яна толькі тады павялічвае прадметы, калі гэта насамрэч трэба, а калі такая патрэба зьнікае, адразу ж зьнікае і дзеяньне помпы, і прадмет вяртаецца да свайго нармальнага памеру. Менавіта таму апоўначы доктар Клякс пачынае памяншацца; з той жа прычыны, зьеўшы смажаніну доктара Клякса, мы ўсе вельмі галодныя, нібыта ўвогуле нічога ня елі, і мусім пад'ядаць стравамі з каляровых шкельцаў.

Дэсэрты ня ёсьць неабходнасьцю, таму павелічальная помпа на іх ніяк не ўплывае, і іх трэба заўсёды гатаваць у нармальнай колькасьці. Нас гэта вельмі турбуе, але доктар Клякс абяцаў прыдумаць якую-небудзь адмысловую прыладу для павелічэньня дэсэртаў.

На першы сьняданак доктар Клякс звычайна зьядае некалькі каляровых шкляных шарыкаў і запівае іх зялёнай вадкасьцю. Матэвуш кажа, што гэтая вадкасьць аднаўляе ў памяці доктара Клякса тое, што адбывалася дагэтуль, бо падчас сну доктар Клякс усё, зусім усё забывае. Калі аднойчы зранку скончылася зялёная вадкасьць, доктар Клякс ня мог прыгадаць, хто ён, як яго завуць, не пазнаў ані ўласнай Акадэміі, ані сваіх вучняў, ды нават Матэвуша называў Азорам, бо забыўся, што Матэвуш не сабака, а шпак.

Ён хадзіў па Акадэміі, як непрытомны, і крычаў:

– Спадар Андэрсэн! Я згубіў учорашні дзень! Ясю! Малгося! Куд-куды! Я курка Рабка! Зараз зьнясу яйка! Аддайце маё рабаціньне!

Калі б Матэвуш не пераляцеў праз мур і не пазычыў у трох вясёлых гномаў флякон зялёнай вадкасьці, доктар Клякс напэўна б звар'яцеў і сёньня ўжо не было б ягонай славутай Акадэміі.

Пасьнедаўшы, доктар Клякс чапляе на твар сваё рабаціньне і пачынае апранацца. Тут варта апісаць адзеньне доктара Клякса і ягоны выгляд.

Доктар Клякс сярэдняга росту, але дакладна не зразумела, тоўсты ён ці худы, бо ён проста патанае ў сваім адзеньні. Ён носіць шырокія нагавіцы, якія час ад часу, асабліва на ветры, нагадваюць шарык; надзвычай шырокі і доўгі сурдут ці то шакаляднага, ці то барвовага колеру; аксамітную лімонную камізэльку, зашпіленую на шкляныя гузікі памерам са сьліву; нягнуткі, вельмі высокі каўнер і аксамітны бант замест гальштука. Асаблівасьць убраньня доктара Клякса – кішэні, якіх у яго проста безьліч. У нагавіцах я налічыў іх шаснаццаць, у камізэльцы – дваццаць чатыры. Затое ў сурдуце толькі адна кішэня, да таго ж адзаду. Яна прызначаная для Матэвуша, які можа сядзець там, калі толькі захоча.

Таму калі доктар Клякс прыходзіць зранку на працу і ўжо зьбіраецца сесьці ў фатэль, з задняй кішэні ягонага сурдута раптам раздаецца голас:

– Ага, ак!

Што значыць:

– Увага, шпак!

Тады доктар Клякс рассоўвае крысьсё сурдута і сядае акуратна, каб не прыціснуць Матэвуша.

Зрэшты, не заўсёды патрэбная гэтая асьцярожнасьць, бо часам, уваходзячы зранку ў клас, доктар Клякс кажа:

– Адасю, забяры гэты фатэль.

Калі фатэля ўжо няма, доктар Клякс зручна ўладкоўваецца ў паветры, акурат у тым месцы, дзе стаяў фатэль.

У кішэнях камізэлькі доктара Клякса ляжаць разнастайныя рэчы, якія выклікаюць зьдзіўленьне і зайздрасьць усіх вучняў Акадэміі. Там ёсьць біклажка зь зялёнай вадкасьцю, табакерка з запаснымі рабацінкамі, павелічальная помпачка, сонная кіслата, пра якую я яшчэ раскажу, каляровыя шкельцы, некалькі пламеньчыкаў сьвечак, пілюлі для росту валасоў, залатыя ключыкі і розныя іншыя дзіўныя штуковіны доктара Клякса.

Кішэні нагавіцаў, я думаю, бяздонныя. Доктар Клякс можа схаваць у іх усё, што захоча, і ніколі ня ведаць, што там ляжыць. Матэвуш мне апавядаў, што перад тым, як пакласьціся спаць, доктар Клякс апаражняе кішэні нагавіцаў і складае ўсё зьмесьціва ў суседні пакой, пры гэтым часам здараецца так, што ў адным пакоі не стае месца і трэба яшчэ адчыніць другі, а часам нават і трэці.

Галава доктара Клякса не падобная ні на адну з галоваў, якія я бачыў калі-небудзь у жыцьці. Яна пакрытая вялізнай чупрынай, якая пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі, і аколеная буйной кучаравай барадой, чорнай, як смоль.

Большую частку твара доктара Клякса займае нос. Ён вельмі рухавы і паварочваецца ўправа або ўлева, у залежнасьці ад паравіны году. На носе тырчыць срэбнае пэнснэ, якое вельмі нагадвае невялічкі ровар, пад носам жа растуць доўгія нягнуткія аранжавыя вусы. Вочы доктара Клякса – нібыта два сьвярдзёлкі, і калі б не пэнснэ, якое іх засланяе, напэўна, ён бы праколваў імі навылёт.

Доктар Клякс бачыць абсалютна ўсё, а каб убачыць тое, чаго нельга ўбачыць, – для гэтага ў яго ёсьць таксама адмысловы спосаб.

Дык вось, у адным са склепаў захоўваюцца рознакаляровыя шарыкі з прычэпленымі да іх маленькімі кошыкамі. Толькі пару тыдняў таму я даведаўся, навошта яны доктару Кляксу.

Было гэта так: толькі мы паабедалі, як з гораду прыбег Піліп і сказаў, што на скрыжаваньні вуліц Рэзэдовай і Сьмешнай зламаўся трамвай, ён цалкам забарыкадаваў дарогу, і ніхто ня можа яго адрамантаваць. Доктар Клякс адразу ж загадаў прынесьці яму адзін шарык і паклаў сваё правае вока ў прымацаваны пад ім кошык, адпаведным чынам наладзіў бляшанае стырно, і праз хвіліну шарык паляцеў у горад.

– Зьбірайцеся, хлопцы, у дарогу, – сказаў нам доктар Клякс. – Зараз убачым, што здарылася з трамваем, і пойдзем яго ратаваць.

І праўда, празь пяць хвілін шарык вярнуўся і ўпаў проста да ног доктара Клякса. Доктар Клякс дастаў з кошыка вока, надзеў яго на месца і сказаў з усьмешкай:

– Усё зразумела: у трамвая скончылася змазка на заднім левым коле, а яшчэ ў пярэднюю вось трапіў пясок. Да таго ж, на даху перацерліся правады, а ў машыніста апухла печань. Рушым, Анісім, адчыняй браму! Жвава! Крокам руш!

Мы выйшлі строем на вуліцу, а доктар Клякс пасьпяшаў за намі. Праз хвіліну ён зьняў з носа пэнснэ, прыткнуў да яго павелічальную помпу, і пэнснэ пачало расьці. Калі яно зрабілася памерам зь вялікі ровар, доктар Клякс сеў на яго і паехаў наперад, паказваючы нам дарогу.

Гэткім чынам мы неўзабаве трапілі на вуліцу Сьмешную. Пасярод вуліцы насамрэч стаяў пусты трамвай, цалкам блякуючы рух. Некалькі трамвайшчыкаў і мэханікаў, сапучы і выціраючы пот, мітусіліся вакол зламанай машыны.

Убачыўшы доктара Клякса, усе расступіліся. Доктар Клякс загадаў нам абкружыць трамвай і ўзяцца за рукі, каб ніхто ня мог да яго наблізіцца, сам

падышоў да машыніста, які курчыўся ад болю, і даў яму праглынуць маленькае блакітнае шкельца. Потым ён заняўся зламаным трамваем. І вось ён дастаў са сваіх бяздонных кішэняў маленькую трубачку, малаточак, ангельскі плястыр, слоічак з жоўтай мазьзю і бутэлечку ёду. Ён абстукаў трамвай з усіх бакоў, старанна яго паслухаў, пасьля чаго нацёр жоўтай мазьзю матор і корбу. Апырскаў ёдам восі, а ў канцы ўскараскаўся на дах трамвая і пазаляпляў ангельскім плястырам перацертыя часткі правадоў.

Не прайшло і дзесяці хвілінаў.

— Гатова! — абвесьціў доктар Клякс. — Можна ехаць!

Пасьля гэтых словаў машыніст, вылечаны доктарам Кляксам, зь вясёлай усьмешкай ускочыў на памост, пакруціў корбу, і трамвай лёгка паехаў па рэйках, нібы толькі што выйшаў з завода. Адрамантаваўшы трамвай, мы вярнуліся дадому, сьпяваючы па дарозе марш Акадэміі доктара Клякса.

Празь некалькі дзён я яшчэ раз бачыў, як доктар Клякс — калі гаварыць ягонымі словамі — адправіў вока на выведку.

Мы ўсе разам сядзелі тады ў парку ля сажалкі і запісвалі кумканьне жабак. Доктар Клякс навучыў нас вылучаць у гэтым кумканьні асобныя склады і складаць зь іх вельмі файныя вершыкі.

Сам я, напрыклад, занатаваў наступны вершык:

Неяк Месяц малады
Апынуўся ля вады.
Закрычалі шчупакі:
«Што прыйшоў? Ты хто такі?»
Месяц рыбам прамаўляе:
«Як — хто? Рыбка залатая!»
Счуўшы гэта, рыбалоў
Месяц той занёс дамоў,
Доўга смажыў у сьмятане
І зьеў зранку на сьняданьне.

Дык вось, сядзелі мы ля сажалкі, доктар Клякс глядзеў у ваду і ў нейкі момант так няўдала нахіліўся, што ў яго з камізэлькі выпала павелічальная помпа. Мы ўсе бачылі, як яна занурылася ў ваду і, не пасьпеў доктар Клякс яе злавіць, як яна пайшла на дно.

Доўга не раздумваючы, я скокнуў у сажалку, а за мной — некалькі іншых хлопцаў, аднак усе нашыя пошукі скончыліся нічым. Яна проста зьнікла бязь

сьледу. Тады доктар Кляксдастаў сваё правае вока і кінуў яго ў ваду, гаворачы:

– Адпраўляю вока на выведку. Зараз мы даведаемся, дзе наша помпа.

Калі праз хвіліну вока выплыла на паверхню, доктар Клякс надзеў яго на месца і закрычаў:

– Бачу! Яна ляжыць у яме, дзе зімуюць ракі, за чатыры мэтры ад берагу.

Я адразу ж даў нырца пад ваду і, вядома, знайшоў помпачку акурат там, куды мне паказаў доктар Клякс.

Тыдзень таму доктар Клякс падрыхтаваў нам вялікі сюрпрыз. Ён загадаў прынесці яму са склепу сіні шарык, паклаў у кошык правае вока і сказаў:

– Адпраўляю яго на Месяц. Мне трэба даведацца, хто там жыве, бо я хачу напісаць для вас казку пра месяцовых жыхароў.

Неўзабаве шарык падняўся ўгору, але назад яшчэ не вярнуўся. Аднак доктар Клякс кажа, што Месяц – вельмі высока і шарык, відаць, вернецца толькі перад Раством. Тым часам доктар Клякс глядзіць адным вокам, другое ж ён заляпіў ангельскім плястырам.

Вяртаючыся да штодзённых звычак доктара Клякса, я хацеў бы яшчэ згадаць тут, што раніцай, апрануўшыся, доктар Клякс ідзе ўніз на заняткі. Толькі вось нельга сказаць, што доктар Клякс ідзе, бо насамрэч ён зьяжджае па парэнчах, седзячы на іх, як на кані, і аберуч прытрымліваючы на носе пэнснэ. Зрэшты, у гэтым не было б нічога асаблівага, калі б ня тое, што доктар Клякс гэтаксама лёгка ўяжджае па парэнчах нагару. Для гэтага ён набірае поўны рот паветра, надзімае шчокі і становіцца лёгкім, як пёрка. Гэтакім чынам доктар Клякс ня толькі ўяжджае па парэнчах, але таксама можа свабодна падымацца ўгору дзе і калі захоча, асабліва тады, калі выбіраецца на ловы матылькоў. Матылькі – гэта неабходная частка рацыёну доктара Клякса, а на другі сьняданак ён увогуле ня есьць нічога іншага.

– Запомніце, хлопцы, – абвесьціў нам некалі доктар Клякс, – смак ежы зьмяшчаецца не ў самой страве, а ў ейным колеры. Ежа для мяне неістотная, бо я добра наядаюся пілюлямі для росту валасоў, але ў мяне вельмі адчувальнае паднябеньне, і яно любіць розныя ласункі. Таму я ем толькі каляровае – а гэта матылькі, розныя каляровыя шкельцы, а таксама стравы, якія я сам расфарбоўваю ў які-небудзь смачны колер.

Аднак я заўважыў, што едуч*ы* матылькоў, доктар Клякс выплёўвае косткі, такія самыя, як у чарэшнях ці вішнях.

Разгадаўшы мае думкі, доктар Клякс патлумачыў мне, што ён есьць толькі адмысловы гатунак матылькоў, у якіх унутры ёсьць косткі і якія растуць на градках, як фасоля.

Усе вучні доктара Клякса думаюць, што гэта вельмі лёгка – падымацца ў паветра гэтак, як ён. Таму яны пнуцца з усяе моцы, надзімаюць шчокі, паўтараючы рухі доктара Клякса, але, нягледзячы на гэта, у іх нічога не выходзіць. У Артура ад натугі пайшла кроў з носа, а адзін з Антосяў ледзь ня лопнуў.

Я таксама спрабаваў зрабіць тое самае, але мінаў дзень за днём і, хаця доктар Клякс рабіў нам пэўныя падказкі, мае высілкі заставаліся бяз выніку.

Аж раптам у нядзелю, пасьля абеду, я неяк дзіўна ўцягнуў у сябе паветра – гэтак, што адчуў унутры незвычайную лёгкасьць, а калі я яшчэ і надзьмуў шчокі, зямля пачала высьлізгваць у мяне з-пад ног, і я падняўся ўгару.

Агаломшаны, я ляцеў усё вышэй і вышэй, пакуль мяне не сустрэла гэтая незабыўная прыгода, што прымусіла задумацца нават самога доктара Клякса.

## РАЗЬДЗЕЛ ЧАЦЬВЕРТЫ
## **ЗАНЯТКІ Ў АКАДЭМІІ**

Кожную раніцу роўна а шостай Матэвуш адчыняе так званыя шлюзы. Гэта невялікія адтуліны ў столі акурат над нашымі ложкамі. Гэтых шлюзаў столькі, колькі ложкаў, то бок дваццаць чатыры. Калі Матэвуш іх адчыняе, праз іх пачынае сачыцца халодная вада, што кропае проста нам на насы.

Гэтак Матэвуш будзіць вучняў доктара Клякса. Адначасова чуваць звычны голас Матэвуша:

– Д'ём, вайце!

Што значыць:

– Пад'ём, уставайце!

На гэты заклік мы ўсе зрываемся з ложкаў і як найхутчэй апранаемся, бо проста паміраем ад цікаўнасьці, чаму гэтым разам нас будзе вучыць доктар Клякс.

Нашая спальня вельмі прасторная. Уздоўж сьценаў стаяць умывальнікі і ў кожнага з нас ёсьць свой уласны душ. Мыемся мы зь вялікай ахвотай, бо з душа струменіць газіроўка з сокам, прычым на кожны дзень тыдня пры-

падае іншы сок. Што да мяне, то я найбольш старанна мыюся па серадах, бо ў гэты дзень да вады дадаецца малінавы сок, а я вельмі яго люблю. Сокі доктара Клякса цудоўна мыляцца і даюць шмат пены, таму нашая спальня заўсёды зранку выглядае, як вялікая мыльная бурбалка.

Мы апранутыя ў сінія кашулі, доўгія белыя нагавіцы, сінія шкарпэткі і белыя чаравікі. Калі нехта з хлопцаў трохі парушыць дысцыпліну або не падрыхтуецца да заняткаў – як пакараньне ён цэлы дзень мусіць насіць жоўты гальштук у зялёныя гарохі. Гальштук гэты вельмі файны, і насамрэч кожны ахвотна насіў бы яго, аднак мы вельмі засмучаемся, калі некага з нас напаткае гэткае пакараньне.

А палове на шостую мы бярэм нашыя сонныя люстэркі і рушым у сталоўку на сьняданак.

Пасярод сталоўкі стаіць вялікі круглы стол, за якім кожны вучань мае сваё пастаяннае месца. Шыбіны ў вокнах – рознакаляровыя, таму ўсе стравы становяцца яшчэ смачнейшымі.

Доктар Кляск сьнедае і вячэрае асобна ад нас, у абед жа ён лётае над сталом з палівачкай у руцэ і палівае нашу ежу featureрознымі соўсамі. Кожны соўс дзейнічае па-рознаму: белы ўмацоўвае зубы, блакітны паляпшае зрок, жоўты палягчае дыханьне, шэры ачышчае кроў, зялёны зьнішчае перхаць.

Пакуль мы ямо, Матэвуш сядзіць на краі вазону пасярод стала і сочыць, каб мы нічога не пакідалі на талерках.

А шостай раніцы Матэвуш хапае ў дзюбку маленькі срэбны званочак і звоніць на пераклічку. Тады мы ўсе бяжым у кабінэт доктара Клякса, дзе ён ужо нас чакае і, вітаючыся, кожнага цалуе ў лоб.

Пасьля пераклічкі доктар Кляск забіраецца ў вялікую шафу ў куце кабінэта і праз акенца ў дзьверках прымае нашы сонныя люстэркі. Гэта не звычайныя люстэркі. Усю ноч яны стаяць на начных століках каля ложкаў. У іх адлюстроўваюцца нашыя сны, і зранку, калі мы іх аддаем доктару Кляксу, ён уважліва разглядае, што сьнілася кожнаму з нас. Кепскія, няскончаныя, неразумныя і недарэчныя ідуць у сьметніцу, а застаюцца толькі тыя, што спадабаліся доктару Кляксу.

Ваткай, змочанай у соннай кіслаце, доктар Кляск зьбірае зь люстэрак усе выбраныя сны і выціскае ў парцалянавую місачку. Нейкі час яны там сохнуць, а калі ператворацца ў парашок, доктар Кляск на адмысловай машынцы вырабляе зь іх круглыя таблеткі, якія ўсе мы п’ем на ноч. Дзякуючы гэтаму мы сьнім усё лепшыя і цікавейшыя сны, а найлепшыя зь іх доктар Кляск запісвае ў соннік сваёй Акадэміі.

Мой сон пра сем шклянак гэтак спадабаўся доктару Кляксу, што ён запісаў яго ў соньнік ад пачатку да канца і адзначыў мяне дзьвюма рабацінкамі. Ды яшчэ абвясьціў усёй клясе, што ў нядзелю пасьля абеду прачытае гэты сон уголас.

Заняткі пачынаюцца а сёмай. Відаць, нідзе хлопцы ня вучацца ахвотней, чым у Акадэміі доктара Клякса. Па-першае, ніколі не вядома, што выдумае доктар Клякс сёньня, а па-другое, усё, што мы вучым, — гэта вельмі цікава і забаўна.

— Памятайце, хлопцы, — сказаў нам у самым пачатку доктар Клякс, — што я ня буду вучыць вас ані табліцы множаньня, ані граматыцы, ані чыстапісаньню, ані ўсім гэтым навукам, што звычайна выкладаюць у школах. Я проста раскрыю вам галовы і нальлю туды алею.

А каб кожны мог зразумець, якога кшталту навукі мы вывучаем у Акадэміі доктара Клякса, я раскажу, для прыкладу, пра ўчорашні дзень, бо на апісаньне ўсіх урокаў, прадметаў, заняткаў і практыкаваньняў за ўвесь год не хапіла б месца ні ў адной кнізе.

Дык вось, учора першым урокам было кляксапісаньне. Гэтую навуку прыдумаў доктар Клякс, каб мы ведалі, што трэба рабіць з атрамантам.

Кляксапісаньне праходзіць так: на аркушы паперы робіцца некалькі вялікіх кляксаў, пасьля чаго аркуш складаецца напалам, і кляксы размазваюцца па паперы, ператвараючыся ў разнастайныя фігуры жывёлін і людзей.

Часам з расьціснутых кляксаў атрымліваюцца цэлыя карціны, да якіх мы пішам адпаведныя гісторыі, прыдуманыя доктарам Кляксам.

Мне здаецца, што сам доктар Клякс зьявіўся акурат з такой расьціснутай атрамантавай кляксы, і таму яго так завуць. Матэвуш мяркуе, што ад доктара Клякса можна чакаць чаго заўгодна, і таму мая здагадка цалкам верагодная.

Да аднаго з маіх малюнкаў доктар Клякс склаў такое двухрадкоўе:

Цяжка вынесьці прысуд:
Птушка гэта ці вярблюд?

Урок кляксапісаньня прыйшоўся нам даспадобы. На яго пайшло некалькі бутэлечак атраманту і цэлы стос паперы, ня згадваючы пра тое, што мы ўсе запэцкаліся атрамантам да самых вушэй. Увечары нам давялося мыцца лімонным сокам, бо ніводзін іншы ня змог адмыць нашыя рукі і твар.

Пасьля ўроку кляксапісаньня мы ўзяліся за літарапрадзеньне.

Відаць, кожны заўважаў, што друкаваныя літары ў кнігах складаюцца з чорных нітачак, сплеценых самымі разнастайнымі спосабамі. Доктар Клякс навучыў нас разблытваць літары, расплятаць асобныя маленькія нітачкі і злучаць іх у адну доўгую нітку, якую потым ён намотвае на шпульку. Гэтак мы накруцілі на шпулькі мноства кніг зь бібліятэкі доктара Клякса, таму на паліцах засталіся толькі пустыя старонкі, бязь літар.

З адной кнігі можна атрымаць сем, а часам нават восем вялікіх шпулек чорных нітак, на якіх доктар Клякс затым завязвае вузельчыкі. Гэта найвялікшае захапленьне доктара Клякса. Ён можа гадзінамі сядзець у фатэлі або ў паветры і завязваць вузельчыкі.

Калі я запытаўся ў яго, навошта ён гэта робіць, вельмі зьдзіўлены доктар Клякс адказаў:

– Як? Ты не разумееш? Я ж чытаю! Я прапускаю літары праз пальцы і гэтак магу прачытаць цэлую кнігу, не стамляючы вочы. Калі вы накруціце на шпулькі ўсе мае кнігі, я таксама навучу вас чытаць пальцамі.

Вядома, прасьці літары – справа досыць марудная, але лепш рабіць яе, чым чытаць хрэстаматыю ці рашаць арыфмэтычныя задачы.

Пасьля ўроку літарапрадзеньня доктар Клякс завёў усіх нас на трэці паверх і адчыніў адзін з замкнёных пакояў.

– Уваходзьце асьцярожна, хлопцы, – сказаў доктар Клякс, запрашаючы нас у сярэдзіну, – у гэтай залі разьмяшчаецца лякарня хворых рэчаў, будзьце акуратныя, каб ніводную зь іх не зачапіць. Памятаеце, як я вылечыў трамвай? Дык вось, сёньня я хачу навучыць вас лячыць хворыя рэчы.

Мы ўвайшлі ў залю – і перад нашымі вачыма паўстаў сапраўдны склад непатрэбшчыны. Там былі бязногія фатэлі, ложкі без спружынаў, разьбітыя люстэркі, зламаныя гадзіньнікі, скрыўленыя сталы, дзіравыя крэслы і мноства розных іншых няўжытных рэчаў.

Доктар Клякс сказаў нам стаць ля сьцяны, а сам узяўся за працу.

Кожная рэч, да якой падыходзіў доктар Клякс, трашчала ці рыпела перад ім і даверліва церлася ля ягоных ног. Крэслы і зэдлікі радасна тупалі нагамі, а гадзіньнікі ціхенька енчылі зламанымі спружынамі.

З найвялікшай цікаўнасьцю мы назіралі за дзеяньнямі доктара Клякса. Спачатку ён узяўся за стол, які стаяў у куце. Уважліва абстукаў яго з усіх бакоў, узяў адну нагу і зьмерыў пульс, а потым вельмі ласкава сказаў:

– Ну што, мой маленькі? Табе ўжо не баліць, праўда? Ліхаманка прайшла, дошкі зрасьліся, праз тры – чатыры дні ты будзеш зусім здаровенькі.

Пакуль стол ціхенька канькаў, доктар Клякс намазаў яго стальніцу жоўтай мазьзю і зеленаватым парашком прысыпаў шчыліны ў дошках.

Потым ён падышоў да шафы, якая жудасна зарыпела дзьвярыма.

– Як пачуваесься? – запытаў доктар Клякс. – Ці моцна яшчэ кашляеш? Здаецца, не. Не хвалюйся, хутка будзеш зусім здаровая.

Гаворачы гэта, ён прыклаў вуха да яе сьпіны, уважліва паслухаў, потым закапаў піпеткай касторкі ва ўсе навесы.

Шафа глыбока ўздыхнула і пачала пяшчотна ласьціцца да доктара Клякса.

– Заўтра я зноў цябе наведаю, – сказаў доктар Клякс, – думай толькі пра добрае.

На сьцяне вісела пабітае люстэрка. Доктар Клякс уважліва паглядзеўся ў яго і паправіў на носе рабацінкі, дастаў з кішэні чорны плястыр і наляпіў яго ўздоўж усёй расколіны.

– Глядзіце, хлопцы, вучыцеся лячыць пабітае шкло! – весела крыкнуў нам доктар Клякс.

Пасьля гэтага ён пачаў націраць люстэрка флянэлевай анучкай, а калі праз хвіліну адляпіў плястыр, ад расколіны ўжо не было і сьледу.

– Анісім і Артур, занясіце люстэрка ў сталоўку. Яно ўжо здаровае, – сказаў доктар Клякс.

Трохі даўжэй было са зламаным гадзіньнікам. Трэба было прастукаць усе шрубкі, закапаць кроплі, пашмараваць і нацерці лопнутую спружыну, намазаць ёдам ківач.

– Нябожа, – расчуліўся над ім доктар Клякс, – як ты, мусіць, набедаваўся. Але нічога, усё будзе добра.

Калі доктар Клякс пацалаваў яго ў цыфэрблят і пяшчотна пагладзіў па драўлянай шафцы, гадзіньнік раптоўна прабіў час, ківач пачаў рухацца, і па ўсёй залі гучна разьнеслася: «Цік-так, цік-так, цік-так».

Мы былі проста ўражаныя і неўзабаве змаглі пераканацца, як моцна прывязаныя хворыя рэчы да доктара Клякса.

Мы акурат зьбіраліся пайсьці зь лякарні, як раптам аказалася, што доктар Клякс згубіў сваю ўлюбёную залатую зубачыстку.

– Не пайду, пакуль не знайду яе, – заявіў доктар Клякс.

Пачаліся пошукі. Усе, колькі нас тут было, сталі на калені і, поўзаючы на карачках, абшуквалі тайнікі, закуткі і схоўкі. Матэвуш пырхаў па залі, утыкаючы дзюбу ў розныя расколіны і шчыліны ў падлозе і сьценах, і толькі доктар Клякс сядзеў у паветры, заклаўшы нагу за нагу, глытаў пілюлі

для росту валасоў, бо ад засмучэньня ў яго выпала некалькі валасінак, і разважаў.

Шукалі мы доўга, аднак зубачысткі так і не знайшлі. Доктар Клякс таксама нічога ня мог зрабіць, бо ягонае правае вока яшчэ не вярнулася зь месяца, і таму яго нельга было адправіць на выведку.

Таксама няма нічога дзіўнага, што, бачачы мукі доктара Клякса і нашую бездапаможнасьць, хворыя рэчы самі ўзяліся шукаць згубу. Кульгавыя столікі і зэдлікі шкандыбалі па ўсёй залі, дзіркі ад ключа ўважліва азіраліся навокал, шуфлядкі павысоўваліся, парыпваючы донцамі, люстэркі намагаліся адбіць па чарзе ўсё, што толькі маглі ў сабе зьмясціць, урэшце, печка, прагнучы таксама далучыцца да пошукаў зубачысткі, бясконца паўтарала:

– Халадна, халадна, цяплей, халадна, халадна, цяплей.

Гадзіньнік хадзіў вельмі доўга і толькі калі пачаў набліжацца да акна, печка закрычала:

– Цяплей, цяплей, цяплей!

Гадзіньнік уважліва агледзеў падаконьне і аконныя рамы, а потым узяўся абшукваць фіранкі.

– Горача, горача! – крычала печка.

Аказалася, што зубачыстка спакойна вісела сабе ў фалдах фіранкі ля самай падлогі.

Вось так хворыя рэчы адшукалі згубу доктара Клякса.

Мы былі ў лякарні да абеду. У гэты час доктар Клякс звычайна сьнедае, а мы рушым на сажалку або на пляцоўку, дзе штодзень праходзіць адзін урок на сьвежым паветры.

Як толькі мы спусьціліся долу зь лякарні хворых рэчаў, доктар Клякс выплыў праз акно ў сад лавіць матылькоў, а Матэвуш сабраў нас і правёў на пляцоўку, на ўрок геаграфіі. Я вучыўся ў дзьвюх розных школах, але ўпершыню ў жыцьці бачыў такі ўрок геаграфіі.

Матэвуш выкаціў на пляцоўку вялікі глёбус, падзяліў нас на дзьве каманды і паставіў, як на футболе. Матэвуш быў судзьдзём, ён няспынна лётаў сьледам за мячом і сьвістаў, калі нехта з нас памыляўся. Гульня заключалася ў тым, каб, б’ючы нагой па мячы, адначасова называць горад, раку або гару, уласна ў якую трапіў наском чаравіка.

Матэвуш даў знак, і гульня пачалася. Мы бегалі за глёбусам, як шалёныя, і з усёй моцы білі па мячы.

Пры кожным удары чуўся вокліч кагосьці з гульцоў:

– Рагачоў!

– Аўстралія!

– Лёндан!

– Палесьсе!

– Баранавічы!

– Нёман!

– Бэрлін!

– Грэцыя!

Матэвуш сьвістаў раз за разам, бо аказвалася, што Антось назваў Баранавічы замест Бабруйску, Альдзік пераблытаў Крычаў з Кітаем, Анісім жа прыняў Афрыку за Балтыйскае мора.

Гэтая гульня вельмі бавіла нас, мы піхаліся, падалі на зямлю, выкрыквалі назвы гарадоў, краін і мораў, у Матэвуша пот сьцякаў зь дзюбы, я соп, як кавальскі мех, аднак навучыўся геаграфіі больш, чым у дзьвюх папярэдніх школах цягам трох гадоў.

Пад самы канец гульні здарыўся адзін нечаканы выпадак: адзін з Аляксандраў так моцна ўдарыў глёбус, што ён узьляцеў надта высока, а потым ня ўпаў на пляцоўку, а пераляцеў праз мур і трапіў на тэрыторыю нейкай іншай казкі. Мы вельмі расстроіліся, бо ня ведалі, у якой казцы нам шукаць мяч: ці адправіцца да Сынка-з-кулачка, ці да трох парасятаў, ці, можа, да Сындбада-Марахода.

Пакуль мы разважалі, што рабіць, раптам пачуўся вясёлы голас Матэвуша:

– Іце, опцы!

Што значыла:

– Глядзіце, хлопцы!

Мы зірнулі наперад, і нашым вачам адкрылася незвычайная карціна: з боку муру да нас набліжалася прыўкрасная Беласьнежка, а за ёй сем гномаў несьлі на плячах наш глёбус.

Мы пабеглі насустрач, ветліва вітаючы іх.

Беласьнежка ласкава ўсьміхнулася нам і сказала:

– Ваш мяч разьбіў некалькі маіх цацак, аднак я вяртаю яго вам, толькі з умовай, што вы навучыце маіх гномаў геаграфіі.

– Цудоўна! З радасьцю! – закрычаў Анісім, які быў самы сьмелы з нас.

Тым часам адбылася ўвогуле нечаканая рэч: Беласьнежка, а разам зь ёю сем яе падданых, пачалі паступова таяць і расплывацца ў гарачых промнях жнівеньскага сонца.

– Забылася, што ў вас лета, – прашаптала засаромленая Беласьнежка.

Пакуль мы зарыентаваліся ў сытуацыі, Беласьнежка з кожнай хвіляй меншала, усё больш таючы, аж урэшце цалкам растала і ператварылася ў маленькі празрысты струменьчык. Зь ім злучылася сем іншых струменьчыкаў, і ўсе разам яны паплылі да адных весьніцаў у муры, булькочучы вядомыя словы маршу гномаў:

Гэй-га, гэй-гоў,
Хадзем хутчэй дамоў!

«Як добра, што я не са сьнегу», — падумаў я, гледзячы на струменьчык, што ўсё больш і больш аддаляўся.

Так скончыліся адведзіны Беласьнежкай Акадэміі доктара Кляксa.

Калі я гэтак разважаў, раптам пачуўся званок.

Гэта Матэвуш клікаў нас на абед.

## РАЗЬДЗЕЛ ПЯТЫ
## **КУХНЯ ДОКТАРА КЛЯКСА**

У Акадэміі доктара Клякса ніхто не прыслугоўвае, і ўсё неабходнае мы робім самі. Абавязкі падзяляюцца паміж вучнямі такім чынам, што ў кожнага з нас ёсьць канкрэтная, пастаянная гаспадарская функцыя. Анісім адчыняе і зачыняе браму, а таксама распараджаецца шарыкамі доктара Клякса. Пяцёра Аляксандраў займаюцца нашай вопраткай і бялізнай, то бок дбаюць пра яе чысьціню, цыруюць нашыя шкарпэткі і прышываюць гузікі. Альдзік і адзін Антось прыбіраюць парк і пляцоўку; Аляксей і другі Антось накрываюць стол; другі Аляксей і трэці Антось мыюць посуд; Артур прыбірае клясу; тры Андрэі сочаць за парадкам у сталоўцы, спальні і на лесьвіцы; тры Адамы выдаюць сокі для мыцьця і соўсы для ежы; астатнія вучні займаюцца рознымі іншымі справамі па гаспадарцы, і толькі ў кухні нязьменна валадарыць сам доктар Клякс.

Нам заўсёды было вельмі цікава, як доктар Клякс дае рады прыгатаваць ежу на столькі людзей, але ўваходзіць на кухню было забаронена. І толькі на мінулым тыдні доктар Клякс абвесьціў, што прызначае мяне сваім памочнікам у кухні. Я быў уражаны гэтым і хадзіў па Акадэміі важны, як індык.

Калі Матэвуш пазваніў на абед, усе хлопцы пабеглі ў сталоўку, дзе Аляксей і другі Антось ужо круціліся каля стала, я ж падаўся ў кухню.

Я проста абавязаны апісаць яе выгляд і абсталяваньне, якое наладзіў там доктар Клякс.

Уздоўж адной сьцяны на доўгіх сталах стаялі бляшанкі, напоўненыя шкельцамі розных колераў і адценьняў. На супрацьлеглым баку быў посуд зь ядомымі фарбамі, а таксама безьліч найдзіўнейшых пэндзьляў і пэндзьлікаў. На вокнах стаялі драўляныя скрынкі зь яркімі кветкамі, сярод якіх пераважалі настурцыі і герань. Пасярод кухні ўзвышаўся вялікі стол з мэталічнай стальніцай. На ім стаяў пузаты шкляны слоік, напоўнены пламеньчыкамі сьвечак, а таксама мноства маленькіх слоікаў з featureзнакаляровымі парашкамі.

Доктар Клякс надзеў белы халат і ўзяўся гатаваць абед.

У агромністы рондаль ён укінуў тры кварты аранжавых шкельцаў, дасыпаў жменьку белага парашку, дадаў вады, тонкім пэндзьлем намаляваў на паверхні зялёныя гарохі, у дадатак закінуў некалькі пламеньчыкаў сьвечак, ад якіх вада ў рондлі адразу ж закіпела. Тады доктар Клякс акуратна перамяшаў усё зьмесьціва рондля, пераліў яго ў міску і сказаў мне:

– Аднясі гэтую міску Аляксею ў сталоўку. Відаць, гарохавы суп сёньня будзе цудоўны.

І насамрэч, я прызнаюся, што яшчэ ніколі ў жыцьці я ня еў нічога смачнейшага за гэты суп, які варыўся, між іншым, ня больш за пяць хвілін.

Пакуль хлопцы елі першае, доктар Клякс узяўся гатаваць смажаніну.

Вялікую патэльню ён змазаў пламеньчыкам сьвечкі, на яе паклаў маленькі кавалачак мяса, укінуў два шкельцы – чырвонае і белае, – і ўсё гэта пасыпаў шэрым парашком, а калі мяса сасмажылася і шкельцы ўжо разварыліся, ён прыклаў да патэльні павелічальную помпу і некалькі разоў націснуў на донца. Патэльня адразу ж да самых краёў напоўнілася апэтытнай і духмянай смажанай ялавічынай, абкладзенай бурачкамі і тоўчанай бульбай. На бульбе доктар Клякс намаляваў зялёны кроп. Гэтая смажаніна ледзь зьмясьцілася на талерках, якія я адносіў у сталоўку.

На трэцяе доктар Клякс вырашыў зрабіць кампот з агрэсту. Ён адрэзаў некалькі лісткоў герані, пасыпаў іх агрэставым парашком і пакаштаваў.

– Паскудзтва, брат, і не пытайся! – сказаў ён. – Звару лепш малінавы.

Доўга ня думаючы, ён схапіў тоўсты пэндзаль, апусьціў яго ў чырвоную фарбу і перафарбаваў агрэставы кампот у малінавы.

Ён быў такі смачны, што я каштаваў яго тройчы, а хацеў бы і яшчэ больш. Я мог сабе гэта дазволіць, бо пасьля прыгатаваньня кампоту – а гэта заняло адну хвіліну – доктар Клякс пайшоў у сталоўку з палівачкай, каб прыправіць смажаніну карычневым соўсам, які ўмацоўвае дзясны.

Калі пасьля абеду хлопцы пачалі наводзіць парадак і займацца іншымі справамі па гаспадарцы, доктар Кляксвярнуўся ў кухню і сказаў мне:

— Ну, Адасю, зазірнула сонца і ў наша аконца, ты ўжо, відаць, згаладнеў. Скажы, што б ты хацеў на абед? Выбірай усё што пажадаеш.

Ад прыроды я ласун, таму прапанова доктара Клякса мяне вельмі ўзрадавала. Я доўга разважаў, што менавіта я хачу, і ўрэшце выбраў амлет са шпінатам.

Доктар Клякс адразу ж схапіўся за пэндзаль, апусьціў яго ў розныя фарбы і, адпаведна спалучыўшы іх, намаляваў амлет, потым шпінат, укінуў у сярэдзіну пламеньчык сьвечкі, пасьля спрытна выклаў усё гэта на талерку, кажучы:

— Спадзяюся, амлет прыйдзецца табе даспадобы, прынамсі выглядае ён цудоўна.

Амлет насамрэч быў выдатны і проста таяў у роце.

Падобным чынам доктар Клякс прыгатаваў мне курыцу з салёнымі гуркамі і варэнікі з чарніцамі.

— А Вы што будзеце есьці, доктар? — спытаў я нясьмела.

У адказ на маё пытаньне доктар Клякс дастаў з кішэні каробачку зь пілюлямі для росту валасоў, праглынуў адну за другой пяць такіх пілюлек і сказаў:

— Гэтага мне дастаткова. А для смаку зьем сваю ўлюбёную каляровую страву.

Гаворачы гэта, ён сарваў кветку настурцыі, апусьціў яе ў зялёную фарбу, потым у блакітную, потым у срэбную і ўрэшце зьеў яе з агромністым апэтытам.

— Я павінен табе гэта растлумачыць, — сказаў доктар Клякс, убачыўшы маё зьдзіўленьне. — Шмат гадоў таму я быў у Пэкіне, сталіцы Кітая, і пасябраваў там з адным кітайскім вучоным, доктарам Пай-Хі-Во. Гэтае прозьвішча, відаць, ты ўжо неаднаразова чуў. Дык вось, згаданы доктар Пай-Хі-Во навучыў мяне вырабляць ядомыя фарбы, якія ёсьць эсэнцыяй разнастайных смакаў. Блакітная фарба — кіслая, зялёная — салодкая, чырвоная — горкая, жоўтая — салёная, а з розных спалучэньняў атрымліваюцца розныя адценьні смакаў. Так, адпаведна спалучыўшы зялёную фарбу зь белай і дадаўшы кропельку шэрай, мы атрымаем смак ванілі, карычневую з жоўтай — шакаляду, срэбная фарба, дамяшаная да чорнай і лёгка прыпраўленая салатавай, дае смак ананаса. І гэтак далей, і гэтак далей.

У гісторыі доктара Клякса мяне ўразіла тое, што, як выявілася, ён добра ведаў доктара Пай-Хі-Во, таго самага, які даў Матэвушу чароўную шапку багдыханаў. У гэтым было нешта загадкавае.

Тым часам доктар Клякс працягваў свой аповед:

– Доктар Пай-Хі-Во адкрыў мне таксама і іншыя свае таямніцы, а таксама навучыў мяне ўсяму таму, што я сёньня ўмею. Напрыклад, ён адкрыў мне таямніцу чалавечых імёнаў. Таму я і прымаю ў сваю Акадэмію толькі тых вучняў, чые імёны пачынаюцца на літару «А», бо вядома, што яны здольныя і працавітыя. Імя Матэвуш зьвязана з посьпехам. Таму свайго ўлюбёнага шпака я назваў Матэвушам. Найшчасьлівейшае ж імя – гэта Арсень, якое нашу я сам. Ну, але тым ня менш, – скончыў свой аповед доктар Клякс, – ужо час ісьці ў парк, хлопцы нас чакаюць.

Пасьля абеду мы заўсёды бавіліся ў парку, дзе доктар Клякс прыдумляў для нас разнастайныя гульні і забавы.

У той дзень мы займаліся пошукам скарбаў.

– Хто шукае – той знаходзіць, – шматзначна сказаў нам доктар Клякс.

Хлопцы разьбегліся па парку, а я прапанаваў Артуру пайсьці на пошукі разам са мной. Артур ахвотна згадзіўся, і мы пачалі распрацоўваць плян выправы.

Як я ўжо згадваў раней, парк вакол Акадэміі доктара Клякса быў неймаверна вялізны. Старыя дубы, вязы і грабы, каштаны і таполі ўзносіліся высока ўгару, кідаючы густы цень на шматлікія яры і цясьніны. Дзікі хмызьняк, крапіва і лопухі, кусты дзікіх малінаў і ажынаў, буйныя зарасьнікі і ўсялякая зеляніна стваралі непраходныя нетры, закрываючы дарогу ў гроты і пячоры, якіх было поўна ў ярах і сьценах расколін. Некаторыя часткі парку нагадвалі джунглі, дзе шмат гадоў не ступала нага чалавека і адкуль уначы даляталі таемныя водгаласы і шумы.

Ніхто з нас ні разу не спрабаваў пранікнуць углыб гэтых нетраў, хаця ўсіх нас прыцягвала жаданьне спазнаць іх. Калі-нікалі мы дабіраліся да найбліжэйшых пячораў, заглядалі ў некаторыя дуплы ў стогадовых дрэвах, але нашае ўяўленьне пастаянна дражнілі гэтыя недасьледаваныя і непраходныя нетры.

Пасьля нарады з Артурам мы ўзялі з дому ліхтарыкі, вяроўкі, востры паляўнічы нож, яшчэ некалькі іншых карысных рэчаў, жменю каляровых шкельцаў, што даў нам доктар Клякс на выпадак, калі мы захочам есьці. І мы рушылі ў кірунку ўсходняй часткі парку.

Мы ледзь прабіліся праз зарасьнікі высокага кустоўя, празь нетры дзікага лубіну, нажом расчышчалі сабе дарогу праз зблытанае вецьце дрэваў, поўзалі на карачках пад галінамі, што віселі проста над зямлёй, ранілі сябе аб сукі і тоўстыя галіны, што тырчалі ва ўсе бакі, аж урэшце апынуліся ў самым сэрцы таямнічай гушчэчы.

Мы трывожна азіраліся навокал, уважліва прыслухоўваючыся. Да нас даляталі ціхія шолахі, падобныя да чалавечага шэпту, нейкі прыглушаны сьмех, шапаценьне сухой лістоты, кранутай спалоханымі яшчаркамі.

Я паглядзеў угору. Высока над намі распасьціраліся магутныя галіны старога дуба. За нейкія два мэтры ад нашых галоваў віднелася адтуліна шырокага дупла, якая абодвух нас вельмі зацікавіла.

– Добра было б туды залезьці, – сказаў Артур.

– А то ж! – адказаў я з запалам.

Не чакаючы, мы ўзяліся за работу. Артур зьвязаў канец вяроўкі ў пятлю і закінуў яе на адну з галінаў дрэва. Кідок быў трапны; вяроўка моцна зачапілася за тоўсты сук, вакол якога зацягнулася пятля. Праз хвіліну Артур з кашэчым спрытам забраўся па вяроўцы і зьнік у глыбіні дупла. Я зрабіў тое ж самае, і неўзабаве мы абодва апынуліся ўнутры дубовага камля. Са зьдзіўленьнем мы адкрылі, што стаім наверсе пакручастай лесьвіцы, якая вядзе долу.

– Спускаемся? – спытаў Артур.

– Вядома ж, спускаемся! – адказаў я.

Сьвецячы ліхтарамі, мы пачалі крок за крокам сыходзіць уніз па вузкіх прыступках лесьвіцы. Усяго я налічыў іх дзьвесьце трыццаць сем. Дарога заняла хвілін пятнаццаць, а калі мы ўрэшце апынуліся на самым доле, перад нашымі вачыма зьявіўся выхад цёмнага вузкага калідора. Мы ішлі наперад, намагаючыся рухацца як найцішэй. Прызнаюся, што ў мяне ад страху душа была ў пятках, і я чуў біцьцё ня толькі ўласнага сэрца, але і сэрца Артура. Нам шмат разоў даводзілася зварочваць то ўправа, то ўлева, і ўрэшце мы апынуліся ў вялізнай залі, асьветленай яркім зялёным сьвятлом. Пасярэдзіне стаялі тры вялізныя скрыні з прыгожай акоўкай. Я зь лёгкасьцю адчыніў першую зь іх. Як жа мы зьдзівіліся, убачыўшы на дне скрыні маленькую зялёную жабку з маленькай залатой каронай на галаве.

– Не дакранайцеся да мяне! – сказала жабка. – Я ведаю, што вы з Акадэміі доктара Клякса і абсалютна без патрэбы заблукалі ў суседнюю казку пра Царэўну-Жабку. Калі дакраняцеся да мяне – адразу ж ператворыцеся ў жаб і застаняцеся тут назаўжды. Казка пра мяне насамрэч вельмі прыгожая, але ў яе няма канца, і я пяцьдзясят гадоў ужо чакаю, калі хто-небудзь напіша заканчэньне. Ніхто з вас ня можа мне дапамагчы, таму пакіньце мяне ў спакоі, ушануйце маю волю, а за гэта можаце забраць сабе ўсё, што знойдзеце ў дзьвюх астатніх скрынях.

Пачуўшы гэтыя словы, мы ветліва пакланіліся Царэўне-Жабцы і зь вялікай асьцярогай зачынілі вечка скрыні.

Затым я адчыніў другую скрыню, перакананы, што і ў ёй ляжыць нейкі сюрпрыз. Аднак на дне ляжаў маленькі залаты сьвісток і нічога больш. Моцна расчараваны, я сказаў Артуру:

– Бяры сабе гэты сьвісток, я абыдуся безь яго!

І, не чакаючы сябра, я падышоў да трэцяй скрыні.

Артур уважліва аглядаў сьвісток, я ж у гэты час адчыніў трэцюю скрыню і дастаў зь яе маленькі залаты ключык.

– Ну і скарбы! – засьмяяўся я, узяў з Артуравых рук сьвісток, прыклаў да вуснаў і засьвістаў.

У тое ж імгненьне нейкая нябачная сіла падхапіла нас абодвух і падняла высока ўгару. Не пасьпеўшы яшчэ апамятацца, мы стаялі на зямлі ля падножжа дуба. Насамрэч наша вяроўка зьвісала з дубовага сука, аднак дарэмна мы шукалі дупло ў тым месцы, дзе яно было перад гэтым.

Узрушаныя нашай прыгодай, мы рушылі ў кірунку сажалкі, дзе нас мусіў чакаць доктар Кляксс. Мы засталі яго ў атачэньні вучняў, калі ўсе ўжо вярнуліся са сваіх пошукаў. Каля доктара Клякса ляжалі знойдзеныя імі скарбы. Там былі залатыя манэты, нітка пэрлінаў, скрыпка з залатымі струнамі, амэтыставы кубак, табакеркі, пярсьцёнкі з каштоўнымі камянямі, срэбныя талеркі, статуэткі з бурштыну і слановай косьці і мноства розных іншых каштоўных рэчаў.

Мы адчувалі сябе прысаромленымі выглядам гэтых скарбаў.

– А вы што знайшлі? – спытаў з усьмешкай доктар Кляксс.

Мы паказалі ключык і сьвісток.

Доктар Кляксс глядзеў на гэтыя рэчы так засяроджана, нібыта бачыў нешта незвычайнае.

– Гэта неацэнныя скарбы, – сказаў ён праз хвіліну. – Гэты ключык адчыняе ўсе на сьвеце замкі. Сьвісток жа валодае такой сілай, што варта ў яго засьвістаць, каб апынуцца там, дзе хочаш. Вы паказалі сябе лепш за ўсіх і таму атрымаеце ганаровую адзнаку!

Пасьля гэтых словаў доктар Кляксс зьняў са свайго носа дзьве вялікія рабацінкі і прыляпіў па адной мне і Артуру.

Хлопцы зь вялізнай цікаўнасьцю аглядалі знойдзеныя намі рэчы, а калі мы яшчэ расказалі пра Царэўну-Жабку – усе вельмі пазайздросьцілі нашай прыгодзе.

– Кожны з вас можа забраць сабе свае знаходкі, – абвесьціў доктар Кляксс. – А цяпер ня будзем марнаваць часу. А чацьвертай нам ісьці ў горад. Паколькі засталося яшчэ сорак пяць хвілін, няхай Адась Нязгодка апавядзе, як ён лятаў і што бачыў. Гэта вельмі цікавая гісторыя.

Да гэтага часу я нікому, апроч доктара Клякса, не апавядаў пра сваю вялікую прыгоду, бо баяўся, што ніхто мне не паверыць. Аднак цяпер, калі мяне папрасіў доктар Клякс, мне не заставалася нічога іншага, як расказаць усю гісторыю з пачатку да канца.

Хлопцы слухалі яе затаіўшы дыханьне.

## РАЗЬДЗЕЛ ШОСТЫ
## **МАЯ ВЯЛІКАЯ ПРЫГОДА**

Мне заўсёды здавалася, што лётаць — гэта так лёгка, дастаткова толькі падняцца ў паветра — і ўжо можна ўзьвіцца, як птушка, аж пад самае неба.

Аднак мае спадзяваньні мяне падманулі.

Зрабіўшы глыбокі ўдых, як вучыў доктар Клякс, я адчуў унутры незвычайную лёгкасьць і зразумеў, што гатовы да палёту. Тады я надзьмуў шчокі і адразу ж пачаў падымацца ўгару. Я ўбачыў перад сабой Акадэмію доктара Клякса, якая аддалялася ад мяне зь вялікай хуткасьцю, парк меншаў і нібыта ўцякаў долу, сябры імкліва пачалі зьмяншацца. Калі гэтак, абсалютна супраць волі, я падымаўся ўсё вышэй і вышэй, мяне агарнуў страх, і я вырашыў як найхутчэй прызямляцца, аднак выявілася, што я проста не ўяўляю, як кіраваць сабой у паветры. Я спрабаваў махаць рукамі і нагамі, намагаўся паўтараць рухі за птушкамі, што праляталі побач, спыняў дыханьне, але ўсё дарэмна.

Я боўтаўся ў паветры, як шарык, і вецер нёс мяне немаведама куды. Я заўважыў, што праляцеў ужо па-над мурам Акадэміі доктара Клякса. Я спадзяваўся, што зараз зьверху я ўбачу ўсе суседнія казкі, у якія столькі разоў заходзіў праз весьнічкі ў парку. Аднак па-за мурам я ня ўбачыў нічога, апроч некалькіх зялёных пагоркаў, бярозавага гаю і абсыпаных праскамі лугоў. Казак не было і сьледу, і мур — гэтак як і кожны іншы мур — зусім звычайна атачаў будынкі Акадэміі. Аднак праз хвіліну і гэты краявід зьнік з маіх вачэй, і я ўбачыў перад сабой горад, дзе дамы стаялі побач, як карабкі запалак. Па вузенькіх вулачках прабягалі маленечкія трамвайчыкі, а людзі, як мурашы, бегалі ў розныя бакі. Маё зьяўленьне над горадам выклікала відавочнае зацікаўленьне.

На плошчах пачалі зьбірацца групы мінакоў з задранымі ўгору галовамі. Я бачыў, як некаторыя зь іх караскаліся на слупы і на дахі і глядзелі на мяне праз доўгія падзорныя трубы, а праз хвіліну я адчуў на сабе сьвятло пражэктараў. Тым часам мой палёт не спыняўся, я і надалей ня ведаў, як

мне вярнуцца на зямлю. Хутка сьцямнела, раптоўна пахаладнела, я зьмерз і мяне трэсла ад страху. Я ведаў, што не магу спадзявацца на дапамогу доктара Клякса, бо ягонае ўсёбачнае вока было на Месяцы, а ні на каго іншага я разьлічваць ня мог. З надыходам ночы мяне ахапіла неапісальная трывога. Навокал я бачыў ужо толькі зоркі. Урэшце, ня ведаючы, куды і як, зьнясілены палётам, плачам і страхам, я праваліўся ў глыбокі сон. Раптам мяне пабудзіў моцны ўдар у сьпіну. Я расплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабой мур, аб які мяне, відаць, ударыў парыў ветру. Я насамрэч стаяў на зямлі, але гэтая зямля была зусім празрыстая і блакітная, як неба. Вялізнае залацістае сонца віднелася ўнізе, і ягоныя прамяні можна прыпякалі. Мур быў з блакітнага матавага шкла.

Я набраўся сьмеласьці і рушыў уздоўж муру, шукаючы які-небудзь уваход. Я вельмі доўга ішоў па празрыстай зямлі, аж урэшце, як і спадзяваўся, натрапіў на вялікую браму з матавых шыбінаў. Трохі павагаўшыся, я пастукаў. Акенца адчынілася, і я ўбачыў грозную галаву бульдога, які тройчы рыкнуў і хутка зачыніў акно. Неўзабаве, аднак, акенца зноў адчынілася і гэтым разам я ўбачыў белага пудзеля, які прыязна вышчарыў зубы, чмякнуў языком і забрахаў, нібы сустрэў старога знаёмца.

Я мімаволі ўсьміхнуўся і сьвіснуў праз зубы. Бо пару гадоў таму ў мяне быў улюбёны мопс Рэкс, якога я клікаў гэткім сьвістам.

Зьдзіўленьню майму не было межаў, калі на гэты сьвіст пачуўся гучны брэх, пудзеля рэзка адпіхнулі, і ў акенцы зьявілася знаёмая пыска майго Рэкса. Здавалася, што, убачыўшы мяне, ён проста выскачыць са скуры. Я ня мог устрымацца і ад радасьці пацалаваў яго ў нос, а ён так ласкава мяне лізнуў, што ў мяне аж сэрца мацней забілася.

– Рэкс! – крычаў я. – Рэкс, гэта ты?

– Гаў-гаў! гаў! – адказаў мне Рэкс доўгім радасным брэхам.

Брама адразу ж расчынілася насьцеж, і перад маімі вачыма паўстала незвычайная карціна.

Ад брамы ішла шырокая вуліца, па абодвух баках якой стаялі шэрагам сабачыя будкі, хутчэй нават маленькія дамкі з рознакаляровых цаглінак і кафлі, з маленькімі ганачкамі і круглымі акенцамі, з прыгожанькімі садкамі навокал. Па вуліцы сноўдаліся сабакі і сабачкі самых разнастайных парод, весела брэшучы і матляючы хвастамі, а з акенцаў вызіралі ружовыя пысачкі вясёлых пушыстых шчанятаў.

Рэкс увесь час лашчыўся да мяне, я таксама ўсё ніяк ня мог ім нацешыцца.

Розныя іншыя сабакі зацікаўлена, але прыязна абнюхвалі мяне, а некаторыя пяшчотна лізалі твар і рукі.

Я адчуў сябе дзіўна і няёмка, і мне было сорамна, што я не магу адказаць сабакам такой жа самай пяшчотай.

Я іх не разумеў і вылучаўся сярод іх вельмі выразна. І тады, ідучы сьледам за ўнутраным голасам, я захацеў зрабіцца падобным да гэтых сабак і пачаў хадзіць на карачках. Гэта ў мяне лёгка атрымалася, і ўсё пайшло зусім натуральна. Жадаючы насьледаваць сабачай мове, я спрабаваў брахаць або рычаць, але з маіх вуснаў выляталі невядомыя мне словы. Такія ж самыя словы чуліся навокал, і раптам да мяне даляцеў голас Рэкса:

– Не зьдзіўляйся, Адасю, кожны, хто да нас завітае, пачынае разумець нашую мову і сам можа валодаць ёю так добра, як і мы. Ці здагадваесься, дзе ты?

– Не ўяўляю. – адказаў я. – Дарагі мой Рэкс, можа, ты мне растлумачыш, а потым пазнаёміш мяне са сваімі сябрамі, бо я адчуваю сябе неяк няёмка сярод іх.

– Не хвалюйся. Ты хутка прызвычаісься да новай кампаніі. Проста ты апынуўся ў сабачым раі. Усе сабакі пасьля сьмерці трапляюць сюды, дзе не зазнаюць ніякіх турботаў і непрыемнасьцяў. Ваш, чалавечы, рай месьціцца нашмат, нашмат вышэй. Наш – на сярэдзіне шляху, і вельмі шмат людзей, кіруючыся ў чалавечы рай, заходзяць да нас. Сабакі вельмі любяць людзей, ты ж ведаеш. Таму мы і прымаем іх тут вельмі ахвотна і гасьцінна, а праз пэўны час выпраўляем у далейшую дарогу.

Ты таксама ідзеш у чалавечы рай?

Я расказаў Рэксу пра сваю прыгоду, пра тое, што я ўвогуле яшчэ не паміраў і што я шчыра хачу вярнуцца ў Акадэмію доктара Клякса.

Ад Рэкса я даведаўся, што пару месяцаў таму ён трапіў пад колы машыны, памёр і, як верны сабака, трапіў у сабачы рай.

– А цяпер, – сказаў Рэкс, – дазволь пазнаёміць цябе з маімі сябрамі. Гэта бульдог Том, вартаўнік нашай брамы. Некалі ён верна служыў ангельскай каралеве, таму мы ўсе яго вельмі паважаем. Таго пудзеля, якога ты ўжо ведаеш, завуць Глу-Глу. Ён выдатна дрэсіраваны і забаўляе нас найцікавейшымі штукамі.

У пацьверджаньне Рэксавых словаў пудзель Глу-Глу пяць разоў перакуліўся ў паветры, а Рэкс працягваў далей:

– Гэтага шпіца завуць Азор, а гэта аўчарка Куба, таго пэкінэса завуць Ральф, а вось дабэрманка Кора, а гэты прыгожы хорт – гонар нашага раю,

яго завуць Яшчар, і на ўсіх спаборніцтвах ён бярэ найвышэйшыя ўзнагароды. Зрэшты, паступова ты пазнаёмісься зь іншымі сабакамі, бо мы тут жывем дружна і згодна.

Дзесьці за гадзіну я перазнаёміўся прынамсі з сотняй розных сабак і адчуваў сябе сярод іх добра, як у сябе дома, а можа, нават і лепш.

Да мяне падышоў маленькі чорны пінчар і сказаў:

– Дазвольце Вам прадставіцца. Мяне завуць Лорд.

– Вельмі прыемна, – адказаў я. – Я – Адам Нязгодка.

– Як дзіўна, – працягваў Лорд, – што людзі не разумеюць нашай мовы, мы ж размаўляем вельмі выразна. Таксама я неаднойчы разважаў, чаму ў некаторых месцах вісяць таблічкі з надпісам: *«Злы сабака».* Не бывае злых сабак. Гэта паклёп. У нас чульлівыя сэрцы, і мы прывязваемся да людзей. Гэта яны бываюць злымі і подлымі.

– Ведаеш што, Лорд, – перапыніў яго Рэкс, – ты абсалютна некультурны. Мой сябар, спадар Нязгодка, быў маім гаспадаром, і я адчуваў сябе ў ягоным доме ані горш, як тут, у сабачым раі. Хадзем, Адасю, – дадаў ён, зьвяртаючыся да мяне, – ня кожны Лорд ёсьць сапраўдным лордам. Я пакажу табе наш райскі горад.

Я разьвітаўся з Лордам кіслай усьмешкай і падаўся з Рэксам на агледзіны сабачага раю, пра які раней ніколі ня чуў.

– Вуліца, па якой мы цяпер ідзем, называецца вуліцай Белага Ікла, – кажа Рэкс. – Яна ідзе ад уваходнай брамы ажно да плошчы Доктара Айбаліта. Зірні, вось гэтая плошча. Тут стаіць помнік доктару Айбаліту.

Я азірнуўся навокал. Плошча была проста цудоўная. Зграбныя сьветлыя дамкі акружалі яе з усіх бакоў. Перад дамкамі на мяккіх падушках ляжалі сьвежавыкупаныя шчаняты. Адныя гуляліся зь мячыкамі, другія смакталі драбочкі цукру, трэція лавілі мух, якія самахоць траплялі ім у пысачкі. Пасярод плошчы стаяў помнік старому чалавеку, пад якім была таблічка з надпісам:

Доктару Айбаліту,
дабрачынцу і лекару жывёлаў.

*З удзячнасьцю,*
*сабакі*

Сам помнік быў зроблены з шакаляду, і мноства сабак аблізвала яго з усіх бакоў. Рэкс праклаў мне дарогу да помніка. Сорамна прызнацца, але я разам з сабакамі ўзяўся лізаць шакаляд, аж урэшце адгрыз у доктара Айбаліта

палову чаравіка, то бок недзе паўкіляграму шакаляду, які зьеў зь вялікім апэтытам, пагатоў ужо трохі згаладнеў.

– Кожны дзень, – сказаў Рэкс, – мы зьядаем цэлы помнік доктару Айбаліту і штодзень адбудоўваем яго наноў. Шакаляду нам не бракуе, мы ж у раі.

– А дзе тут можна папіць? – спытаў я. – Дужа піць хочацца.

– Няма нічога прасьцей! – весела закрычаў Рэкс. – Мы акурат ля майго дому. Запрашаю цябе на шклянку малака.

Дамок Рэкса быў зь зялёнай кафлі. На ганку ляжалі падушкі і дыванкі, на якіх грэліся маленькія мопсікі – відаць, дзятва майго сябра.

У садочку за домам расьлі сардэлькавыя і каўбасныя кусты. Я зь лёгкасьцю адарваў сабе кавалак кракаўскай каўбасы і дзьве сардэлькі і зьеў іх зь вялікім задавальненьнем. Апроч гэтага я заўважыў, што на дрэўцах пад акном растуць не сукі і галіны, а смачныя косткі, што расквітнелі апэтытным ружовым шпікам.

Калі мы разьмясьціліся ў гасьцёўні, Рэкс адкрыў кран у сьцяне, зь якога – да майго вялікага зьдзіўленьня – замест чаканай вады пырснула ў шклянкі прахалоднае малако з цудоўным смакам вяршковага марозіва. Я выпіў нагбом тры шклянкі гэтага выдатнага напою, і мы з Рэксам рушылі далей.

Раз-пораз Рэкс кланяўся розным сваім знаёмым і пра кожнага мог нешта расказаць:

– Тая ганчыха – спадарыня Ноля. Яна ніколі не расстаецца з парасонам, хаця ў нас не бывае дажджу, а сонца сьвеціць зьнізу. Гэтага вялікага дога завуць Танга. Ён штодзень пераядае сардэлек і мусіць піць касторку. А гэтая пара таксаў – Самба і Бімба. Яны ніколі не расстаюцца і намагаюцца ўсіх пераканаць, што крывыя ногі – найпрыгажэйшыя ў сьвеце.

Тут ён змоўк і праз хвіліну прашаптаў мне:

– Глядзі! Мы ўваходзім на вуліцу Катаў. Зараз убачыш нешта цікавае.

Насамрэч, гэтая вуліца была незвычайная. Па абодвух яе баках на каменных п’едэсталах стаялі хлопцы living рознага ўзросту і рознага выгляду. Сярод іх можна было пазнаць сыноў заможных бацькоў і сыноў беднякоў, чыстых, акуратна апранутых хлопцаў і мурзатых, раскудлачаных няхлюяў.

Кожны зь іх па чарзе вызнаваў сабачым голасам сваю віну:

– Я кат, бо выбіў вока каменем свайму сабаку Фільку, – кажа адзін.

– Я кат, бо ўвапхнуў у яму з вапнай свайго сабаку Джэка, – кажа другі.

– Я кат, бо загадаў зьесці перцу свайму сабаку Рудзьку, – кажа трэці.

– Я кат, бо пастаянна цягаў за хвост свайго сабаку Рыся, – кажа чацьверты.

Гэтак кожны з хлопцаў са скрухай прызнаваўся ў сваіх злачынствах, зробленых супраць таго ці іншага сабакі.

Як мне растлумачыў Рэкс, хлопцы, якія мучаюць сабак, трапляюць у сабачы рай у сьне, а потым вяртаюцца дадому, упэўненыя, што гэта ім толькі сьнілася.

Аднак пабываўшы аднойчы на вуліцы Катаў, ніводзін з хлопцаў больш ніколі ня мучыць свайго сабаку.

Я быў шчасьлівы, што мне ўдалося пазьбегчы такой ганьбы, хаця ў цэлым я ня быў надта добрым да майго Рэкса і аднойчы нават размаляваў яго чырвонай фарбай.

Я ўздыхнуў з палёгкай, і да мяне адразу вярнуўся настрой. І вось, калі мы апынуліся на плошчы Сьветлячкоў, дзе стаялі карусэлі, гушкалкі, бочкі сьмеху і розныя сабачыя забаўкі, я разам з сабакамі кінуўся ў вір весялосьці.

Мне было весела, як ніколі раней, аднак голад пачаў мне дапякаць, і я заўважыў, што Рэкс трывожна прынюхваецца.

– Хадзем, – сказаў ён мне. – Зьямо што-небудзь лёгкае, а потым вернемся дадому на сардэлькі.

Пасьля гэтага ён правёў мяне на Бісквітную вуліцу, дзе ляжалі кучы мядовых бісквітаў. Яны былі такія смачныя, што я ня мог ад іх адарвацца.

– Досыць, – засьцярог мяне Рэкс, – гэта мы жывем у раі і нам нічога ня можа нашкодзіць, але ж ты лёгка можаш захварэць.

Мяне вельмі зацікавіла, адкуль у сабачым раі бярэцца шакаляд, бісквіты, мёд і іншыя прысмакі; хто будуе сабачыя дамкі і помнік доктару Айбаліту; адкуль бяруцца парасоны, капелюшы, гунькі для сабак і іхных сем’яў. Аднак я падумаў, што не павінен пра гэта пытаць, бо гэта было б недалікатна – умешвацца ў райскія справы. Зрэшты, яшчэ я падумаў, што акурат на гэта і ёсьць рай, каб усё зьяўлялася ўмомант і немаведама адкуль.

Яшчэ мы з Рэксам наведалі шмат цікавага: сабачы цырк і сабачы кінатэатар, вуліцу Мыльных Бурбалак, Дасьціпны завулак і вуліцу Сочыва, спаборніцтвы хартоў і Тэатар Трох Пудзеляў, плянтацыю крывянкі і паштэтаў, сальцісонавыя агуркі, шчанячую лазьню і розныя іншыя райскія ўстановы.

Вяртаючыся на плошчу Доктара Айбаліта, дзе жыў Рэкс, мы яшчэ зайшлі ў цырульню на вуліцы Сыропнай. Два цырульнікі з гор Сьвятога Сэнбэрнара вельмі элегантна нас пастрыглі, пасьля чаго адзін зь іх сказаў мне з гонарам:

– Ня ведаю, ці Вы заўважылі, што ў тутэйшым клімаце блохі зусім ня водзяцца.

– Насамрэч, – адказаў я, – жыцьцё, як у раі.

На зьдзіўленьне, за стрыжку ня трэба было плаціць, таму, паўтараючы за Рэксам, я ветліва падзякаваў, лізнуў у нос свайго цырульніка і выйшаў на вуліцу.

Сонца нязьменна грэла і, як я даведаўся ад Рэкса, ніколі не заходзіла. Калі мы вярнуліся ў дом майго сябра, ён сказаў сваім шчанятам вызваліць падушкі на ганку і прапанаваў мне выцягнуцца побач зь ім. Ляжалі мы гэтак, міла гутарачы іназіраючы за рухам на плошчы.

– Як вы адрозьніваеце адзін дзень ад іншага, – зьвярнуўся я да Рэкса, – калі сонца ў вас не заходзіць і ніколі не бывае ночы?

– Вельмі проста, – адказаў Рэкс. – Калі помнік доктара Айбаліта зьядаюць дарэшты, мы ведаем, што мінуў адзін дзень. Будаўніцтва новага помніка займае столькі ж часу, колькі яго зьяданне. Разам гэта адпавядае суткам на зямлі. Гэткім чынам мы тут лічым час. Тыдзень – гэта сем помнікаў. Трыццаць помнікаў – месяц. Год складаецца з трохсот шасьцідзесяці пяці помнікаў. На плошчы Табліцы Множаньня жыве дваццаць фокстэр'ераў-рахункаводаў, якія пастаянна вядуць падлік помнікаў і складаюць каляндар сабачага раю.

Гутарачы гэтак з Рэксам, я даведаўся шмат цікавага пра пасьмяротнае жыцьцё сабак.

Я вельмі добра адчуваў сябе ў ягоным доме, аднак праз нейкі час пачаў маркоціцца. Мне абрыдлі бісквіты, шакаляд і вяндліна і мне вельмі захацелася зьесьці трохі малочнага супу і манкі, якой я гэтак пагарджаў дома. А асабліва я адчуваў, што мне не стае хлеба.

У думках я ляцеў у Акадэмію Доктара Клякса і з роспаччу думаў пра тое, што б было, калі б мне прыйшлося назаўсёды застацца ў сабачым раі.

Аднойчы я ляжаў сабе ў садку і грэўся на сонцы разам з маленькімі Рэксавымі мопсікамі. Нада мной зьвісалі з кустоў сардэлькі, на якія я ўжо глядзеў з агідай.

– Ага, ак, ага, ак! – раптам пачуў я над сабой знаёмы голас. Я паляцеў з усіх ног і да вялікай маёй радасьці ўбачыў Матэвуша, які сядзеў на галінцы шпікавага дрэва з маленькім канвэрцікам у дзюбцы.

– Матэвуш! Як я рады зноў цябе бачыць! – закрычаў я. – Як добра, што ты прыляцеў па мяне, якое шчасьце!

Матэвуш сеў на ганак і падаў мне канвэрт. Гэта быў ліст ад доктара Клякса, які вучыў мяне ўдыхаць паветра, каб вольна кіраваць сваім палётам.

Убачыўшы Матэвуша, зьбегліся сабакі, і я зьвярнуўся да іх на сабачай мове, падзякаваў за гасьціннасьць і за добрыя сэрцы, абняў на разьвітаньне майго дарагога Рэкса і ўсю ягоную сям'ю і адправіўся разам зь ім і бульдогам Томам да выйсьця з брамы. Матэвуш, весела пасьвістваючы, ляцеў нада мной.

Я выпрасіў у Тома адзін гузік ад ягонага фрака ў маю калекцыю, потым яшчэ раз кінуў вокам на сабачы рай і пакінуў яго гасьцінныя парогі.

Я ўцягнуў паветра ў лёгкія, як вучыў мяне доктар Клякс, надзьмуў шчокі і падняўся ўгару.

Нейкі час я яшчэ чуў разьвітальны брэх сабак, аднак неўзабаве сабачы рай пачаў аддаляцца ад мяне, зрабіўся маленькім блакітным воблачкам і ўрэшце цалкам зьнік з вачэй.

Я ляцеў побач з Матэвушам, кіруючыся ўказальнікамі, якія мне пазначыў у лісьце доктар Клякс.

Празь некалькі гадзін палёту я ўбачыў пад сабой у сьвятле заходзячага сонца дахі дамоў і вуліцы нашага гораду.

– Эмія жо ізка! – крыкнуў мне ў вуха Матэвуш, што значыла: «Акадэмія ўжо блізка!»

Насамрэч, праз хвіліну я дабраўся да муроў Акадэміі, да парку, што атачае яе з усіх бакоў, і да самога доктара Клякса, які вылецеў мне насустрач і здалёк махаў рукамі ў знак прывітаньня.

Да зьмярканьня мы былі ўжо дома.

Аказалася, што мяне не было дванаццаць дзён.

Я проста не магу апісаць радасьць, якую я адчуваў, вярнуўшыся на зямлю. Сябры не маглі мною нацешыцца, а доктар Клякс загадаў мне даць урачыстую клятву, што я больш ніколі ня буду лётаць.

Абяцаньне гэтае я даў і ўпэўнена трымаю яго.

## РАЗЬДЗЕЛ СЁМЫ
## **ФАБРЫКА ДЗІРАК І ДЗІРАЧАК**

Я зьбіраўся падрабязна апісаць адзін дзень у Акадэміі доктара Клякса. Таму я расказваў усё, што адбываецца ад нашага пад'ёму і да абеду. Я апісаў урок кляксапісаньня, літаравязаньня, паказаў кухню доктара Клякса, апавёў пра пошук скарбаў і пра свае прыгоды ў сабачым раі. Ужо шмат дзён я праводжу над гэтым дзёньнікам увесь свой вольны час, але толькі цяпер

я дайшоў да моманту, калі недзе а чацьвертай гадзіне доктар Клякс загадаў усім нам сабрацца ля брамы і сказаў:

– Сёньня мы пойдзем на экскурсію на найцікавейшую ў сьвеце фабрыку. Вы ўбачыце найцудоўнейшыя прыстасаваньні і машыны, зь якімі працуе дванаццаць тысяч майстроў і рабочых. Мой сябар, інжынэр Сажэвіч, – кіраўнік гэтай фабрыкі, і ён абяцаў правесьці нас па ўсіх фабрычных памяшканьнях, каб мы маглі паглядзець, як працуюць людзі і машыны. Гэта будзе вельмі павучальная экскурсія. Станьце, калі ласка, па чатыры. Хадзем.

Анісім адчыніў браму, і мы рушылі ў цэнтар гораду.

На плошчы Чатырох Вятроў мы селі ў трамвай, які мусіў нас давезьці да фабрыкі. Ня ўсім ставала месца, таму доктар Клякс пры дапамозе сваёй павелічальнай помпачкі пашырыў трамвай на шэсьць сядзеньняў, якіх уласна бракавала, і мы ехалі вельмі камфортна. Спачатку дарога вяла праз горад, а празь нейкі час мы трапілі на бераг ракі і неўзабаве ўехалі на самаграйны мост. Як нам растлумачыў доктар Клякс, вага трамвая прыводзіла ў рух мэханізмы моста, дзякуючы чаму са схаваных у ім трубак паплылі гукі маршу алавяных салдацікаў. Зь іншага боку ракі раскінулася прыгожае, утульнае мястэчка. Гэта былі дамкі работнікаў фабрыкі. Сама фабрака паказалася на нашых вачах за паваротам, дзе быў канцавы трамвайны прыпынак. Ад гэтага месца да фабрыкі вялі рухомыя ходнікі. Мы адчувалі на іх сябе як у лунапарку, бо не прызвычаіліся да такога транспартнага сродку, – не маглі ўтрымаць раўнавагу і ўвесь час падалі на зямлю.

Па сустрэчным ходніку да нас падыходзіў інжынэр Сажэвіч.

Гэта быў высокі, худы, сівы чалавек з ускудлачанымі валасамі і казьлінай бародкай. Ён стаяў на тонкіх доўгіх нагах і размахваў тонкімі доўгімі рукамі. Ён мне вельмі нагадваў пудзіла пахілага веку.

Адным махам ён пераскочыў на наш ходнік, прыязна абняў доктара Клякса і пацалаваў яго ў абедзьве шчакі.

– Дазволь, дарагі Багуміле, прадставіць табе маіх вучняў. Іх дваццаць чатыры, – сказаў доктар Клякс.

– Ага, ак! – данёсься голас Матэвуша з задняй кішэні доктара Кляксa.

– А гэта мой улюбёны шпак Матэвуш, – дадаў доктар Клякс, вымаючы яго з кішэні.

Спадар Багуміл Сажэвіч уважліва паглядзеў на нас, пагладзіў Матэвуша і сказаў, гуляючыся з кончыкам сваёй бародкі:

– Для мяне вялікі гонар прывітаць цябе, дарагі Арсень. Таксама я зь вялікай ахвотай праводжу тваіх вучняў па маёй фабрыцы дзірак і дзірачак.

Толькі памятайце, хлопцы, — зьвярнуўся ён да нас, — на фабрыцы ні да чаго нельга дакранацца.

Пасьля гэтых словаў ён абкруціў левую нагу вакол правай, пальцы абедзьвюх рук заплёў у касічкі і паплыў на чале нашай грамадкі над рухомым ходнікам у бок фабрыкі, да якой мы набліжаліся з шалёнай хуткасьцю.

Фабрыка складалася з дванаццаці агромністых будынкаў з празрыстымі мурамі і зашклёнымі дахамі. Ужо здалёк можа было адрозьніць магутныя колы машын, грукат якіх гучным рэхам разьлятаўся па ўсім навакольлі.

Калі мы ўвайшлі ў першы цэх, нас ледзьве не асьляпілі снапы рознакаляровых іскраў, што сыпаліся з прывадных рамянёў, дрыляў і такарных станкоў.

Машыны стаялі доўгімі шэрагамі ў некалькі радоў, іншыя былі падвешаны на канатах і грузапад'ёмніках, і каля ўсіх машын завіхаліся натоўпы рабочых у скураных фартухах і шлемах зь цёмнымі акулярамі.

Праца кіпела, а грукат машын і інструмэнтаў заглушаў словы інжынэра Сажэвіча, які нешта тлумачыў сваім пісклявым голасам.

Мне ўдалося пачуць толькі тое, што ў гэтым цэху вырабляюць дзіркі ад ключоў, дзіркі ў носе і дзіркі ў вушах і яшчэ нейкія іншыя дзіркі меншага калібру.

Зь вялікім зацікаўленьнем мы назіралі за працай машын і дзівіліся незвычайнаму спрыту токараў, якія за адзін абарот кола атрымлівалі ад дзесяці да дванаццаці цудоўных дзірак.

Гатовыя вырабы закідалі ў маленькія вагончыкі, а калі тыя напаўняліся, іх хапалі адмысловыя грузапад'ёмнікі і пераносілі на склад у суседні будынак.

Доктар Кляксс падышоў да аднаго з вагончыкаў, дастаў з носа абедзьве свае старыя дзюркі, выбраў сабе новыя, толькі што вытачаныя, і паставіў іх на месца старых. Яны выглядалі прыўкрасна, блішчэлі паліраванымі краямі, і мы бачылі, зь якой прыемнасьцю доктар Кляксс раз-пораз выцірае нос.

Памятаючы пра забарону інжынэра Сажэвіча, мы мусілі няспынна пільнаваць Аляксея, бо ў яго была агромністая схільнасьць калупацца ў носе, і ён штохвіліны інстынктыўна працягваў палец, каб пакалупаць ім у дзірках, што апрацоўваюць токары.

У іншых цэхах выраблялі дзіркі і дзірачкі большых памераў: дзіркі на локцях, дзіркі ў мосьце і нават дзіркі ў небе. Гэтыя апошнія былі асабліва вялікія, і машыны, што іх выточвалі, узносіліся высока над дахам фабрыкі, а рабочыя, што працавалі на іх, мусілі ўзьбірацца туды па гіганцкіх рыштаваньнях.

У дзірак на локцях і каленях былі прыгожа абтрапаныя краі, таму іх выраб вымагаў асаблівай стараннасьці рабочых. Спадар Сажэвіч паказаў нам

розныя мудрагелістыя рысункі і ўзоры, па якіх маладыя інжынэры выразалі формы для вырабу гэтых дзірак.

У адным з фабрычных павільёнаў была сартавальня, дзе мноства дасьведчаных майстроў займалася кантролем, вымярэньнямі і праверкай ужо гатовых дзірак і дзірачак. Лопнутыя, дрэнна адпаліраваныя, сагнутыя і пашкоджаныя дзіркі закідалі ў вялікія катлы, дзе іх пераплаўлялі нанова.

У апошнім цэху месьцілася пакавальня. Там адмысловыя рабочыя ўзважвалі на вялікіх вагах дзіркі і дзірачкі і пакавалі іх у пяці- і дзесяцікіляграмовыя скрыні.

Інжынэр Сажэвіч падараваў нам дзьве скрынкі дзірак ад абаранкаў.

Вярнуўшыся ў Акадэмію, доктар Клякс напек шмат салодкага ванільнага печыва і нарабіў для нас з гэтых дзірак шмат цудоўных абаранкаў, якімі мы аб’ядаліся ўвесь вечар.

Мы ўсе былі захопленыя абсталяваньнем фабрыкі, мы проста не маглі адарваць вачэй ад дрыляў, распаленых дачырвана, ад такарных станкоў і ўсялякіх іншых інструмэнтаў, назваў якіх мы ня ведалі ўвогуле.

Калі мы пакінулі фабрыку, было ўжо цёмна. Здалёк праз шкляныя муры фабрыкі мы бачылі фантаны блакітных, зялёных і чырвоных іскраў, якія асьвятлялі ўсё навакольле, быццам фэервэркі.

– З гэтых іскраў можна прыгатаваць цудоўныя каляровыя стравы, – заўважыў доктар Клякс.

Інжынэр Сажэвіч правёў нас ажно да трамвайнага прыпынку, расказваючы разнастайныя гісторыі са свайго жыцьця.

Выявілася, што ў вольны ад працы на фабрыцы час інжынэр выступае ў цырку як канатаходзец, каб не страціць здольнасьці абкручваць адну нагу вакол другой.

Калі мы апынуліся ў канцы рухомага ходніка, трамвай ужо стаяў на прыпынку і цярпліва чакаў. Гэта быў вагон, які ў свой час вылечыў доктар Клякс, таму, убачыўшы нас, ён радасна зарыпеў коламі і не хацеў бяз нас рушыць зь месца.

Інжынэр Сажэвіч цёпла разьвітаўся з намі, некаторых паказытаў сваёй казьлінай бародкай, пасьля чаго яшчэ хвіліну размаўляў з доктарам Кляксам на нейкай невядомай мове, здаецца, па-кітайску, бо адзіным словам, якое я зразумеў, было прозьвішча доктара Пай-Хі-Во.

Урэшце мы селі ў трамвай, які адразу ж рушыў. Доктар Клякс, не жадаючы піхацца, застаўся звонку і ляцеў побач у паветры.

Празь нейкі час мы яшчэ бачылі, як інжынэр Сажэвіч стаіць на прыпынку. Ён заплёў у касічкі пальцы абедзьвюх рук і здалёк махаў імі на разьвітаньне.

У вечаровай цемры на фоне водбліску ад фабрыкі ягоная доўгая постаць сягала аж пад самае неба.

Толькі калі трамвай зьвярнуў на вуліцу Незабудак, інжынэр Сажэвіч зьнік з нашых вачэй. Неўзабаве мы заехалі на самаграйны мост, які гэтым разам сыграў на трубах марш мухамораў.

Доктар Клякс, відавочна, хочучы выпрабаваць свае новыя дзіркі ў носе, акампаніяваў мосту, мурлыкаючы мэлёдыю праз нос.

Калі мы даехалі да плошчы Чатырох Вятроў, было ўжо зусім цёмна, таму доктар Клякс раздаў нам пламеньчыкі сьвечак, якія трымаў у кішэньцы камізэлькі, і гэткім чынам мы ўрэшце дабраліся позьнім вечарам да нашай Акадэміі.

Дома нас чакаў непрыемны сюрпрыз.

Усе пакоі, залі, памяшканьні і пераходы апанавалі мухі.

Гэтая нязносная жамяра, карыстаючыся адсутнасьцю гаспадароў, улезла праз адчыненыя вокны ўсярэдзіну дома, абсела ўсе прадметы і рэчы, незьлічонымі раямі насілася і гудзела ў паветры і з усёй сваёй назойлівасьцю кідалася на нас. Улазіла ў рот і ў нос, трапляла ў вочы, зьвівалася ў валасах, чорным роем клубілася пад стольлю, у кутах, на печках і пад сталамі. Таму, каб выйсьці з пакоя, трэба было заплюшчваць вочы, затрымліваць дыханьне і адбівацца ад іх абедзьвюма рукамі. Я ніколі раней ня бачыў такога нашэсьця мух.

Яны ляцелі баявым шыхтам, як вялікія эскадры самалётаў, фармаваліся ў касякі, у чатырохкутнікі, у палкі і наступалі з гудзеньнем, якое нагадвала голас ваенных труб. Правадыры вылучаліся памерамі крылаў, ваяўнічасьцю і адвагай. Балючыя ўколы, што рабіла мне кусачая навала, паказвалі на тое, што бой ідзе не на жыцьцё, а на сьмерць. Празь нейкі час у пакой з гучным гудзеньнем заляцела каралева мух, хутка бзыкнуўшы, аддала некалькі кароткіх загадаў сваім правадырам, дала мне джала ў нос і паляцела на іншыя палі бітвы.

Сьвятло лямпаў не магло прабіцца праз гэтую чорную віруючую ў паветры хмару. Мы хадзілі вобмацкам, топчучы і зьнішчаючы цэлыя хмары мух, што абсядалі нас з усіх бакоў, але ў прынцыпе іх ня меншала.

Не дапамагала і адмахвацца хусткамі і ручнікамі. На месцы забітых мух зьяўляліся новыя і наступалі на нас зь яшчэ большай нахабнасьцю.

Доктар Клякс, які дагэтуль – лётаючы па пакоях – вёў з мухамі зацятую бітву, урэшце выбіўся зь сіл, заклаў нагу за нагу і, застыўшы ў паветры, глыбока задумаўся. Мухі імгненна абселі яго ў такой вялікай колькасьці, што яго зусім не было відаць.

Урэшце доктар Клякс страціў цярплівасьць. Ён выплыў праз акно і праз пару хвілін вярнуўся, несучы ў пальцах павука-крыжавіка, прыклаў да яго павелічальную помпачку, і павук хутка пачаў расьці. Калі ён быў ужо велічынёй з ката, доктар Клякс падняўся разам зь ім угару і пасадзіў яго на столь. Неўзабаве мы ўбачылі мноства нітак, што зьвешваюцца са столі аж да падлогі, а празь пятнаццаць хвілін гіганцкая павуціна падзяліла пакой на дзьве часткі. Сотні і тысячы мух, цэлыя іх гаманлівыя раі траплялі ў расстаўленныя сеткі, але нішто не магло саслабіць іх адвагі і баявога духу. Павук прагна кідаўся на злоўленых ў павуціну мух, пажыраў іхныя штурмуючыя атрады, высмоктваў зь іх усе сокі, расьціскаў іх і таптаў вялікімі касматымі лапамі, але хутка ўжо так імі наеўся, што дзеяньне павелічальнай помпы спынілася. Павук пачаў памяншацца, вярнуўся да свайго звычайнага памеру, паменшылася таксама і ягоная павуціна, і мухі вокамгненна разадралі яго на шматкі, помсьцячы гэткім чынам за пагібель сваіх таварышаў. Каралева мух забрала з сабой трафэйны крыж, садраны, нібы скальп, з павучынай сьпіны.

У гэты час доктар Клякс паклікаў нас да сябе і абвесьціў, што кагадзе вынайшаў адмысловы від мухалоўкі, якая пазбавіць нашую Акадэмію ад мушынай навалы.

Праз хвіліну ён прынёс у клясу тазік з вадой, пачак клею, мыла і шкляную трубку. Пакуль мы адбіваліся ад мух, доктар Клякс распусьціў у тазіку клей разам з мылам і праз шкляную трубку пачаў пускаць мыльныя бурбалкі, што адна за адной падымаліся ў паветры. Выкарыстаньне гэтых мухаловак дало надзвычайныя вынікі.

Мухі абляплялі з усіх бакоў клейкую паверхню бурбалак і, ня могучы ўжо адарвацца, разам зь імі падалі на падлогу. Доктар Клякс не стамляўся працаваць. Ён увесь час выпускаў новыя бурбалкі, мы ж схапілі мяцёлкі і жвава вымяталі кучы чорных ад мух мухаловак.

Неўзабавае ўсе пакоі, залі, памяшканьні і калідоры запоўніліся мыльнымі бурбалкамі доктара Клякса.

Мухі кідаліся на іх рознакаляровую здрадлівую паверхню і хмарамі прыліпалі да бурбалак. Ніводнай не ўдалося пазьбегчы гэтага жаласнага лёсу. Доктар Клякс бесьперапынна дзьмуў у трубку, і праз гадзіну ва ўсёй Акадэміі не было ўжо аніводнай мухі, і толькі некалькі цудоўных бурбалак пералівалася яшчэ над нашымі галовамі.

Вымеценых намі мух мы паскладалі на дзядзінцы ў высокія кучы і толькі зранку наступнага дня тры вялізныя грузавікі, прысланыя з Прадпрыемства па Ачыстцы Гораду, прыбралі гэты агідны могільнік.

Гэтак скончылася вайна доктара Клякса з мухамі.

Ва ўсім гэтым адна рэч прымусіла нас задумацца: калі значная частка мух была ўжо зьнішчана, з-па-за іх чорных раёў паказалася постаць цырульніка Піліпа, які спаў на канапе ў кабінэце доктара Клякса. Спачатку мы зусім яго не заўважылі – гэтак ён быў аблеплены мухамі, – калі, аднак, да яго ўрэшце дабраўся нехта з хлопцаў, мы вельмі зьдзівіліся, што нашэсьце мух, якія шчыльна абселі яго, не замінала ягонаму сну. Адно гучны перарывісты храп дазваляў здагадацца, што гэта ня быў прыемны і шчасьлівы сон.

Зьнішчыўшы мух, доктар Клякс пабудзіў Піліпа, загадаў нам выйсьці з кабінэту, зачыніў дзьверы на ключ і доўга шаптаўся зь Піліпам.

Калі праз нейкі час дзьверы адчыніліся, Піліп выйшаў вельмі расхваляваны і абвесьціў доктару Кляксу павышаным голасам:

– Зь сёньняшняга дня я прашу знайсьці сабе іншага цырульніка. Я больш ня буду стрыгчы ані вас, ані вашых вучняў. Мне ўжо досыць абяцанак-цацанак. Я прывяду яго на гэтым тыдні. І кропка. Гэтая Акадэмія мусіла быць для яго, а не для гэтай вашай хеўры! Да пабачэньня, спадар Клякс!

І не зьвяртаючы на нас аніякай увагі, ён выйшаў з Акадэміі, ляскаючы па дарозе ўсімі дзьвярыма.

Праз хвіліну да нас данёсься з парку ягоны жахлівы сьмех. У сьвятле месяца мы бачылі праз акно, як ён пераскочыў браму і пабег па Шакаляднай вуліцы ў горад.

Позьняй ноччу мы селі вячэраць. Доктар Клякс увесь час быў нечым заклапочаны і такі расьсеяны, што расфарбаваў квяцістую капусту ў чорны колер, і па смаку яна нагадвала печаныя яблыкі.

Пасьля вячэры доктар Клякс паклікаў да сябе двух Андрэяў і сказаў ім аднесьці ў нашу спальню два ложкі і пасьцель, бо – як ён паведаміў – з хвіліны на хвіліну чакае двух новых вучняў.

Калі Андрэі выканалі гэтую просьбу, мы адправіліся ў спальню і неўзабаве моцна заснулі.

На гэтым заканчваецца апісаньне аднаго дня, які я правёў у Акадэміі доктара Клякса.

## РАЗЬДЗЕЛ ВОСЬМЫ
## **СОН ПРА СЕМ ШКЛЯНАК**

Дзень першага верасьня быў надзвычай багаты на важныя падзеі. Была нядзеля, і мы маглі рабіць што хацелі. Артур вучыў свайго дрэсіраванага трусіка лічыць, Аляксей выразаў дудкі, Анісім страляў з луку, адзін з Антосяў, поўзаючы ля мурашніка, назіраў за жыцьцём мурашоў, Альдзік зьбіраў каштаны і жалуды, а я гуляўся са сваімі гузікамі і выкладаў зь іх разнастайныя фігуры і постаці. Доктар Клякс быў не ў гуморы. Увогуле ён страціў добры настрой з часу той сваркі зь Пілiпам. Я нават ня думаў, што Піліп можа быць нечым важным у жыцьці доктара Клякса і што гэты цырульнік і пастаўшчык рабацiньня мае права крычаць на яго і ляскаць дзьвярыма. Доктар Клякс меў рацыю, што Піліп, відаць, зьехаў з глузду. Аднак у Акадэміі з таго дня нешта зьмянілася. Доктар Клякс нeяк згорбіўся, хадзіў задуменны і цэлымі днямі рамантаваў сваю павелічальную помпу. Усё часьцей весьці заняткі ён даручаў Матэвушу, у кухні ад ягонай расьсеянасьці стравы прыгаралі, ды і расфарбоўваў ён іх ня тымі колерамі, а на кожны гук званка ў браму ён падбягаў да акна і нэрвова тузаў сябе за бровы.

У той дзень, які я апісваю, я выклаў са сваіх гузікаў прыгожага зайца, доктар Клякс схіліўся нада мной і пасыпаў складзеную фігуру карычневым парашком. Заяц раптам зварухнуўся і шмыгнуў у дзьверы, зносячы з сабой мае гузікі.

Доктару Кляксу, відаць, дужа спадабаўся ягоны жарт, бо ён гучна засьмяяўся, аднак адразу ж зноў засмуціўся і сказаў:

– І што з таго, што я разьбіраюся ў каляровых парашках, у фарбах і ў шкельцах, калі я не магу даць рады гэтаму нязноснаму Піліпу. Адчуваю, у мяне праз яго будзе шмат клопатаў і непрыемнасьцяў. Ён проста ненавідзіць мяне.

Мяне зьдзівілі словы доктара Клякса, бо я не ўяўляў, каб такі вялікі чалавек ня мог справіца з кім-небудзь.

Доктар Клякс, адгадаўшы мае думкі, падышоў да мяне і далей казаў шэптам:

– Аднаму табе я магу ў гэтым прызнацца, бо ты мой найлепшы вучань. Піліп патрабуе, каб я прыняў у Акадэмію двух ягоных сыноў. Ён папрыдумляў для іх новыя імёны на літару «А», і пагражае, што калі я іх не прыму, ён адбярэ ў нас усе рабацінкі. Да таго ж, апошнім часам ён звар'яцеў і ўсё робіць мне на злосьць, ды яшчэ і сьмяецца. Вось убачыш, гэтая гісторыя скончыцца вельмі сумна.

Пасьля гэтых словаў ён дастаў з кішэні жменьку гузікаў, кінуў іх на падлогу гэтак спрытна, што яны самі склаліся ў фігуру майго зайца, і выйшаў з пакою, курчачыся і скачучы на аднойназе.

Гэтая размова так узрушыла мяне, што я вырашыў знайсьці Матэвуша і падрабязна распытаць яго пра стасункі доктара Клякса зь Піліпам.

У нядзелю Матэвуш звычайна бавіў час у казцы пра Салаўя і Ружу, куды лятаў вучыцца салаўінаму сьпеву. Таму я рушыў у парк у надзеі спаткаць яго, калі ён будзе вяртацца ў Акадэмію.

У парку мяне зьдзівіў нейкі асаблівы рух і шолахі. Ужо трохі пажоўклыя зарасьнікі ў парку віравалі, кусты хісталіся, трава калыхалася — струмень нябачных істотаў рухаўся на доле, абмінаючы дарогі і сьцежкі.

Я пабег на шум і калі наблізіўся да сажалкі, зразумеў, што здарылася. Вады не было, рыбы роспачна трымцелі на сухім дне, а незьлічоныя шэрагі жаб і ракаў рушылі ў сьвет у пошуках нейкага новага жытла.

Я ўвесь час суправаджаў іх, асабліва захапляючыся жабамі, якія, не зважаючы на мяне, дружнымі падскокамі кіраваліся сьледам за праваднічкай. Падышоўшы да яе, каб лепей разгледзець, я ўбачыў на ейнай галаве залатую карону і адразу здагадаўся, што гэта Царэўна-Жабка, зь якой я ўжо некалі сустракаўся.

— Пазнаю цябе, хлопча, ты нядаўна быў у маёй казцы, і ў мяне засталіся пра цябе добрыя ўспаміны. Бачыш, што сталася? Доктар Клякс — невядома чаму — забраў з сажалкі ўсю ваду, пакінуўшы жаб, рыб і ракаў на волю лёсу. Я вырашыла ратаваць іх і таму пакінула свой падземны палац. Хоць я і зь іншай казкі, але жаба хутчэй зразумее жабу, чым доктара Клякса. І ня дзіўна, што мае сваячкі з вашай сажалкі пайшлі за мной.

— А куды ты іх вядзеш, Царэўна-Жабка? — спытаў я, узрушаны ейнымі словамі.

— Я яшчэ канчаткова ня вырашыла, — адказала яна. — Я магу іх адвесьці ў возера з казкі аб Заклятым возеры або ў сажалку з казкі пра Зялёную русалку.

— Мы хочам у сажалку! — закрумкалі хорам жабы. Пры гэтым яны скакалі так высока, што іхнае шэсьце нагадвала жабіны цырк, калі такі дзе-небудзь існуе.

Ракі рухаліся моўчкі трохі адзаду.

Яны ішлі моўчкі і цяжка валачылі клюшні. Іх было безьліч, амаль столькі ж, колькі жаб, а можа нават і больш. Некаторыя зь іх, відаць, ад напружаньня і стомы, цалкам пачырванелі, нібыта нехта абліў іх варам.

Я ня мог адвесьці вачэй ад гэтага відовішча, згадваў пра няшчасных рыб, пакінутых без вады, таму я разьвітаўся з Царэўнай-Жабкай і ўжо хацеў быў пайсьці, як мяне затрымаў жаласьлівы голас:

– Адасю, пачакай! Памятаеш, калі ты быў у маім палацы, я дазволіла табе забраць са скрыні залаты ключык? Безь яго я не змагу цяпер трапіць ані ў казку пра Заклятае возера, ані ў казку пра Зялёную русалку, але ж толькі ў казцы можа знайсьціся месца для маіх жаб і ракаў. Я ўжо была зусім расстроілася, але раз лёс паслаў мне цябе, прашу, вярні мне залаты ключык, і ты выратуеш усе гэтыя стварэньні, якія тут бачыш.

– Ключык? – сказаў я, – ключык? А, так, я ахвотна яго вярну, царэўна. Ня памятаю толькі, дзе я яго схаваў. Здаецца, яго забраў доктар Клякс. Пачакай хвілінку, зараз я вярнуся.

Я ня ведаў, за што мне найперш узяцца. Мне было шкада жаб, якія ўжо слабелі без вады, але яшчэ больш я непакоіўся пра рыб. З усяе моцы я пабег у Акадэмію, сабраў некалькі хлопцаў, што сустрэліся мне па дарозе, расказаў ім пра тое, што здарылася, і намовіў іх заняцца лёсам рыб.

Доктара Клякса ніхто зь іх ня бачыў, тады я пачаў яго шукаць па ўсёй Акадэміі. Не знайшоўшы яго ні на доле, ні ў ягоным пакоі, я зайшоў у лякарню хворых рэчаў.

Я агледзеўся ў залі. Так, доктар Клякс быў тут, але тое, што ён рабіў, проста не ўкладалася ў чалавечае ўяўленьне. Ня большы за Сынка-з-кулачка, ён вісеў, учапіўшыся рукамі і нагамі за ківач гадзіньніка і гушкаўся на ім, як на арэлях, раз-пораз гучна паўтараючы:

– Цік-так, цік-так, цік-так.

Раптам гадзіньнік пачаў вызвоньваць час, і доктар Клякс тураваў яму гучным басам:

– Бім-бам-бом!

Убачыўшы мяне, ён перастаў гушкацца, саскочыў на падлогу, разагнуўся, выпрастаўся і адразу ж вырас на вачах.

– Вечна вы мне перашкаджаеце, – раздражнёна сказаў ён. – Што здарылася? Ты ж бачыш, я вучу гадзіньнік размаўляць.

Аднак ён адразу ж авалодаў сабой і сказаў ветліва, як звычайна:

– Шкада, Адасю, што ты робіш такія зьдзіўленыя вочы. Ах, ва ўсім вінен гэты подлы Піліп. Ён проста хоча мяне зьнішчыць. Ён усё псуе ўва мне, і мне ўсё цяжэй захаваць нармальны рост. Я літаральна меншаю дзень пры дні. А цяпер у мяне новая бяда: зь нейкага часу пламеньчыкі сьвечак пачалі так мяне апякаць, што сёньня, ня здолеўшы больш трываць, мне прыйшлося

павыкідаць іх з кішэні і заліць вадой з сажалкі. Жахліва, усё гэта так жахліва! Не кажы гэтага нікому, бо мне перастануць давяраць. А чым я магу табе дапамагчы? Навошта ты прыйшоў?

Я расказаў доктару Кляксу, да якіх сумных вынікаў прывяло асушэньне сажалкі, паведаміў пра выправу жаб і ракаў і папрасіў даць мне залаты ключык, які — як я здагадваўся — ён схаваў у бяздонных кішэнях сваіх нагавіцаў.

Доктар Клякс пазмрачнеў.

— Шкада, вельмі шкада! — сказаў ён праз хвіліну. — Жабы больш не напішуць нам сваіх вершыкаў. Але ў мяне не было іншага выйсьця. Я мусіў патушыць пламеньчыкі сьвечак, інакш бы ўся Акадэмія пайшла дымам. Мне абавязкова патрэбна вогнетрывалая кішэня. А што станецца з рыбамі? Можа, мне ўдасца прыдумаць, як іх выратаваць... А, дарэчы! Ты хацеў, каб я аддаў табе ключык... Зараз...

Гаворачы гэта, доктар Клякс пачаў сумленна абшукваць свае кішэні.

— Я мушу табе прызнацца, — прашаптаў ён, — што ў мяне ёсьць яшчэ адно засмучэньне. З часу клопатаў зь Піліпам у мяне пазарастала бальшыня маіх кішэняў. Я ўжо зусім не магу да іх дабрацца. Але ключык я, на шчасьце, знайшоў. Вось, аднясі яго Царэўне-Жабцы, перадай ад мяне прывітаньне і прабачся за сажалку.

Пасьля гэтых словаў доктар Клякс ізноў учапіўся за ківач і пачаў гойдацца на ім, раз-пораз паўтараючы:

— Цік-так, цік-так, цік-так.

Я пабег з ключыкам у парк і паклаў яго да ног Царэўны-Жабкі.

— Я бязьмежна ўдзячная табе, — сказала царэўна. — Я бяру гэты ключык, але ня думай, што ты застанесься пакрыўджаны. Узамен ты атрымаеш ад мяне Жабку-Падайлапку. Яна дапаможа табе ў цяжкую хвіліну.

Пасьля гэтых словаў царэўна прамовіла некалькі словаў на жабінай мове, і праз хвіліну з натоўпу жаб выскачыла жабка, памерам ня большая за муху. Яна была сьветла-зялёнага колеру і блішчэла, нібы пакрытая эмальлю.

— Вазьмі яе сабе, — сказала царэўна. — Лепш за ўсё трымай яе ў валасах і штодзень давай ёй адно рысавае зярнятка.

Я ўзяў Жабку-Падайлапку і пасадзіў сабе на галаву. Яна прасьлізнула паміж валасоў, такая маленькая, што я зусім яе не адчуў.

Я падзякаваў царэўне, вельмі паважліва разьвітаўся зь ёю і, пераскокваючы праз купкі жаб і ракаў, пабег да сажалкі. Там я ўжо засьпеў доктара Клякса ў атачэньні некалькіх вучняў. Ён выглядаў як звычайна, толькі зноў быў крыху меншы.

Па загадзе доктара Клякса вучні пазакідалі рыбаў, што цяжка дыхалі, у вялікія кошыкі, прынесеныя са склепу.

– За мной, – сказаў доктар Клякс.

Мы рушылі за ім. Згінаючыся пад цяжарам кошыкаў, мы мінулі каштанавыя прысады і маліньнік, а празь нейкі час, прадзіраючыся праз гушчэчу дрэваў, дабраліся да муру. Доктар Клякс спыніўся перад весьнічкамі з надпісам *«Казка пра рыбака і рыбку»* і адчыніў замок. Ужо здалёк мы ўбачылі рыбака, які стаяў на беразе мора і лавіў невадам рыбу. Ён прыязна прывітаўся з намі і ўсьміхнуўся, не вымаючы з рота глінянай люлькі.

Мы выпусьцілі рыбу ў ваду, а потым, як нам параіў Рыбак, пакупаліся ў моры, бо дзень быў надта сьпякотны.

Калі мы вярнуліся ў парк, не было ані жаб, ані ракаў, а на дне сажалкі шпацыравалі сьлімакі, бавячыся ў вільготным глеі.

Мы ўжо зьбіраліся вяртацца дадому на абед, як раптам убачылі над сабою Матэвуша. Незвычайна ўзрушаны, ён кружляў над нашамі галовамі і крычаў на ўвесь голас:

– Ага, арык, ага, арык!

Доктар Клякс першы зразумеў і пачаў углядацца ў неба.

Праз хвіліну ён таксама закрычаў:

– Увага, шарык!

І насамрэч, маленькая кропачка, што вісела высока ўгары, усё хутчэй пачала набліжацца, аж урэшце зусім выразна можна было разглядзець блакітны шарык з прымацаваным зьнізу кошыкам.

Доктар Клякс вельмі пацешыўся і, задаволена паціраючы рукі, увесь час паўтараў:

– Маё вока вяртаецца зь Месяца!

Шарык падаў усё хутчэй, і калі быў ужо на вышыні пляча, доктар Клякс дастаў з кошыка сваё вока, сарваў з правага павека плястыр і ўставіў вока на месца.

– Глядзі ты! Што робіцца! – крычаў ён у захапленьні. – Такога яшчэ ніхто ня бачыў! Што за цуды! Што за цуды! Я бачу жыцьцё на Месяцы! Такой казкі яшчэ ніхто дагэтуль не прыдумаў!

Мы з зайздрасьцю глядзелі на доктара Клякса, які стаяў як зачараваны і паглынаў месяцовыя краявіды, прынесеныя яму ўсёбачным вокам.

Урэшце ён авалодаў сабой і сказаў:

– Мая гісторыя пра людзей на Месяцы будзе ўсім казкам казка! Але на гэта прыйдзе час.

– А можаце расказаць нам яе зараз? – запытаў Анісім.

– На ўсё мусіць быць свой час, – адказаў доктар Кляkc. – Зараз хадзем дадому на абед, а пасьля абеду я прачытаю вам з соньніка маёй Акадэміі сон, які прысьніўся Адаму Нязгодку.

Хлопцы вельмі ўзрадаваліся гэткай навіне.

Таму ўсе хутка паабедалі і сабраліся ў клясе.

Доктар Кляkc сеў за катэдру, разгарнуў вялікую кнігу, дзе запісаны найлепшыя сны, і пачаў чытаць:

## СОН ПРА СЕМ ШКЛЯНАК

Мне сьнілася, што я прачнуўся.

Доктар Кляkc ператварыў усе крэслы, сталы і зэдлікі, лыжкі і вешалкі, шафы і паліцы ў хлопцаў, так што разам з вучнямі Акадэміі нас было больш за сотню.

– Сёньня я адвязу вас у Кітай, – паведаміў доктар Кляkc.

Вызірнуўшы праз акно, я ўбачыў маленькі цягнічок, зроблены з карабкоў ад запалак, прычэпленых да чайніка замест паравозу. Чайнік быў на колцах, і зь яго шугала пара.

Мы паселі ў гэтыя маленькія вагончыкі, і аказалася, што ўсе добра ў іх зьмясьціліся.

Доктар Кляkc сеў на чайнік, і наш цягнік павінен быў адправіцца, калі раптам над намі навісла вялізная чорная хмара.

Узьняўся віхор і павываrочваў усе карабкі ад запалак. Усчалася страшэнная бура. Таму я пабег у кухню, узяў сем шклянак, паставіў іх на паднос, сьцягнуў з каморкі драбіны і вярнуўся на двор.

Доктар Кляkc намагаўся затрымаць рукамі пару, што выходзіла з чайніка і злучалася з хмарамі.

– Ратуй, Адасю, мой цягнік! – крычаў доктар Кляkc, падскокваючы разам з накрыўкай чайніка.

Ні на каго не азіраючыся, я прыставіў драбіны да даху Акадэміі і, трымаючы на левай далоні паднос зь сямю шклянкамі, узьлез на самую высокую прыступку лесьвіцы.

Як толькі я апынуўся наверсе, драбіны пачалі падаўжацца ўгору так хутка, што неўзабаве дасягнулі чорнай хмары і абаперліся аб яе край.

Нядоўга думаючы, я схапіў у руку лыжку, якую ўзяў з кухні, і пачаў разганяць ёю хмары.

Найперш я сабраў зьверху ўвесь дождж і заліў яго ў першую шклянку. Потым я саскроб сьнег, які пакрывае хмару, і ўсыпаў яго ў другую шклянку. У трэцюю шклянку я закінуў град, у чацьвертую — грымоты, у пятую — маланку, у шостую — вецер.

Калі гэткім чынам я напоўніў усе шэсьць шклянак, аказалася, што я сабраў лыжкай хмару — так, як зьбіраюць пенку з малака, і што дзякуючы гэтаму неба цалкам распагодзілася.

Толькі я не разумеў, для чаго тая сёмая шклянка. Я хутка зьбег па драбінах на самы ніз, але ў месцы, дзе стаяў цягнік доктара Клякса, я ўжо нікога не засьпеў, бо ўсе хлопцы за гэты час ператварыліся ў срэбныя відэльцы, якія ляжалі поруч на зямлі.

Застаўся толькі доктар Клякс, усё яшчэ заняты сваім чайнікам, намагаючыся пальцам заткнуць ягоны носік.

Я паставіў на траве паднос зь сямю шклянкамі і накрыў яго хусткай так, як гэта робяць цыркавыя штукары.

— Што ты нарабіў! — сказаў мне ўрэшце доктар Клякс. — Ты скраў хмару. Адтуль ужо ніколі ня будзе ні дажджу, ні сьнегу, нават ветру ня будзе. Нам усім давядзецца загінуць ад засухі і сьпёкі.

І насамрэч, угары над намі вісеў празрысты блакіт, і я раптам сьцяміў, што гэта эмаліраваны нябесны чайнік, зусім такі ж самы, як той, на якім сядзеў доктар Клякс, толькі памерам з усё неба. З гэтага чайніка на зямлю струменілі промні сонца, хутчэй нават залацісты вар, які бязьлітасна нас апякаў.

Доктар Клякс, ня вытрымаўшы гэткай сьпякоты, пачаў хутка распранацца, але на ім было столькі сурдутаў, што здымаў ён іх бясконца. Убачыўшы, што ягоная галава загарэлася і з валасоў шугануў дым, я схапіў з падноса шклянку з дажджом і выліў яе на доктара Клякса. У гэты ж час лінуў моцны дождж, толькі гэтым разам ён ішоў ня зьверху ўніз, а зьнізу ўверх.

Гэта выглядала як фантан, што струменіць зь зямлі.

— Сьнегу! — крычаў доктар Клякс. — Сьнегу, а то я згару дашчэнту!

Я схапіў шклянку са сьнегам і, дастаючы сьнег лыжкай, пачаў абкладаць ім галаву доктара Клякса.

Вынік быў ашаламляльны, бо снег пачаў множыцца з такой хуткасцю, што пакрыў увесь парк. У гэтую ж самую хвіліну з-пад сьнегу выскачылі ўсе срэбныя відэльцы і, носячыся, як апантаныя, пачалі кідацца сьнежкамі. Я штораз пазнаваў у відэльцах то Артура, то Аляксея, то Анісіма, то яшчэ каго-небудзь зь сяброў.

Сваім шалёным танцам у сьнезе яны паднялі такую завіруху, што нічога не было відаць. Тады да мяне прыйшла ідэя зьдзьмуць сьнег ветрам. Таму я ўзяў шклянку зь ветрам, які выглядаў як рэдкі блакітнаваты крэм, і выграб яго адным махам лыжкі.

Такога ветру ніхто дагэтуль ня бачыў. Ён адначасова дзьмуў ва ўсе бакі, зносячы з сабой усё, што сустракаў на дарозе. Сьнег адразу ж разьвеяўся, а срэбныя відэльцы, паднятыя ўгару, павісьлі на небе, як зоркі. Стала вельмі халодна. Я паглядзеў на доктара Клякса і ў першую хвіліну зусім яго не пазнаў. Ён перакінуўся ў сьнегавіка і весела напяваў:

Дзед Мароз, Дзед Мароз!
Цягне сьнегу цэлы воз!

Я падумаў, што доктар Клякс адмарозіў сабе розум, таму я ўзяў чайнік з кіпнем і выліў яго цалкам на галаву доктара Клякса.

Сьнег адразу ж растаў, зноў пацяплела, і доктар Клякс пачаў расьцьвітаць.

Спачатку ён пусьціў лісткі, потым пупышкі, аж урэшце ўся яго галава і рукі пакрыліся пралескамі. Ён зрываў іх зь сябе і зьядаў з апэтытам, напяваючы:

Як наб’ю пралескай страўнік –
Люты тут жа стане траўнем.

Аднак хутка ягоны настрой зьнік, бо пчолы, прывабленыя кветкамі на галаве доктара Клякса, абселі яго з усіх бакоў і, відаць, не адна запусьціла ў яго сваё джала, бо ён пачаў жаласна енчыць.

Калі праз нейкі час пчолы адляцелі, галава доктара Клякса выглядала як вялікая бурбалка, а з вачэй цяклі вялікія кроплі густога мёду.

Тады я ўзяў з падноса чацьвертую шклянку, у якой быў град. Гэта выглядала так, нібы ў шклянку нехта ўкінуў жменю буйнога шроту.

Я высыпаў на далонь некалькі градзінак і ўцёр іх у галаву доктара Клякса. Відаць, ён адчуў надзвычайную палёгку, бо зьняў галаву з карку і кінуў яе, як мяч. Я адкінуў яе назад, перакананы, што ён, як і я, любіць гуляць у футбол. Тым часам доктар Клякс, які ня мог бачыць сваю галаву, што ляціць да яго, гэтак няўдала падставіў рукі, што галава пакацілася ў іншым кірунку, некалькі разоў адбілася ад зямлі і зьнікла ў зарасьніках.

Я спытаў доктара Клякса, як ён сябе пачувае без галавы, але ён нічога не адказаў, бо не было чым.

У гэты час эмаліраваны чайнік угары павярнуўся закураным дном долу, і адразу ж спусьцілася цемра, у якой толькі весела мігцелі срэбныя відэльцы.

Доктар Клякс застаўся без галавы, бездапаможна размахваючы рукамі.

Тады я дастаў зь пятай шклянкі бліскавіцу, разагнуў яе ў палку і, сьвецячы ёю, адправіўся на пошукі галавы доктара Клякса.

Я знайшоў яе сярод крапівы. Яна ўся была паабджыганая, што, аднак, не замінала ёй напяваць:

Крапіва мяне апекла,
Што за ліха, што за пекла!

Я вярнуў галаву доктару Кляксу, а маланку ўваткнуў побач у зямлю.

Яна гэтак сьвяціла, што было відно, як удзень.

– Я б чаго-небудзь зьеў, – сказаў доктар Клякс.

На жаль, адзінае, што ў мяне было, – гэта шклянка з громам.

– Цудоўна, – закрычаў доктар Клякс. – Няма нічога смачнейшага за гром. Прынясі яго сюды.

Я дастаў гром са шклянкі і падаў яго доктару Кляксу. Гэта быў прыгожы чырвоны шарык, які нагадваў плод гранату. Доктар Клякс дастаў з кішэні сьцізорык, разрэзаў гром на чатыры часткі, ачысьціў скурку і зьеў з агромністым апэтытам, смачна аблізваючыся.

Аднак праз хвіліну пачуўся моцны грукат, і доктар Клякс узарваўся і разьляцеўся на тысячу дробных кавалачкаў.

Кожная такая частачка была асобным маленькім доктарам Кляксам, і ўсе яны весела танчылі на траве і сьмяяліся таненькімі галаскамі.

Я ўзяў адну з гэтых вясёлых частачак, паклаў у сёмую, пустую, шклянку і аднёс у кухню.

Раптам праз адчыненую фортку з гучным бразгатам уварваліся срэбныя відэльцы, акружылі мяне з усіх бакоў, а два зь іх, здаецца, Антось і Альдзік, намагаліся дабрацца да шклянкі, дзе быў маленькі доктар Клякс.

Ратуючы яго ад відэльцаў, я хуценька паставіў шклянку ў буфет і моцна зачыніў дзьверкі.

У гэтую ж хвіліну я прачнуўся.

Я ўбачыў на сваім ложку сапраўднага доктара Кляксa, які ўглядаўся ў маё соннае люстэрка, торгаў сябе за брыво і казаў сам сабе:

– Сон пра сем шклянак... Сон пра сем шклянак...

Ну-ну!

## РАЗЬДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ
## **АНАТОЛЬ І АСТАШ**

Увесь верасень ішлі зьлівы. Мы ні на крок не выходзілі з дому, забавы ў парку і гульні на пляцоўцы зусім спыніліся, доктар Клякс пасмутнеў і зрабіўся на дзіва маўклівы, адным словам – відавочна, у нашай Акадэміі нешта пачало псавацца.

Нейкім вечарам доктар Клякс паведаміў нам, што жыцьцё без матылькоў і кветак яго вельмі нудзіць, і таму ён будзе раней класьціся спаць.

Тады мы разьвіталіся з доктарам Кляксам і адправіліся ў нашу спальню.

– Штосьці мне моташна, – сказаў адзін з Аляксандраў.

– А я вам нешта скажу, – адгукнуўся раптам Артур, – доктар Клякс, відавочна, нейкі засмучаны. Вы заўважылі, што ён зрабіўся трохі меншы, чым быў дагэтуль?

– Насамрэч! – закрычаў адзін з Антосяў. – Доктар Клякс меншае.

– А можа, у яго сапсавалася павелічальная помпа? – падумаў Анісім.

Я ня ўдзельнічаў у размове, бо вельмі хацеў спаць. Таму я лёг у ложак і адразу ж заснуў.

Мне сьнілася, што я малаток і што доктар Клякс разьбівае мной па чарзе ўсе мае гузікі. Удары малатка разьляталіся па ўсёй Акадэміі і ўзмацняліся да таго, што ўрэшце я прачнуўся, але ўдары ня сьціхлі. Несумненна, гэты стук даносіўся з парку – нехта грукаў ва ўваходную браму.

Я адразу ж пабудзіў Анісіма, мы накінулі плашчы і, сьвецячы ліхтарыкамі, пабеглі ў парк. За брамай стаяў цырульнік Філіп разам з двума незнаёмымі хлопцамі. Усе трое былі мокрыя да апошняй ніткі, і дождж сьцякаў зь іх струмянямі. Анісім адчыніў браму і ўпусьціў дзіўных начных гасьцей.

– Новыя вучні доктара Кляксa! – закрычаў Філіп, заходзячыся ад сьмеху. – Будучыя знакамітыя выпускнікі славутай Акадэміі, ха-ха-ха! Аднаго завуць Анатоль, а другога Асташ. Абодва на «А», ха-ха-ха! Анатоль, прадстаўся таварышам, ты ж добра выхаваны хлопчык!

Хлопец, названы Анатолем, пакланіўся нам, гаворачы:

— Мяне завуць Анатоль Кукарэк. А гэта мой малодшы брат Асташ, — з гэтымі словамі ён паказаў на другога хлопца, якога яны разам зь Піліпам трымалі пад рукі.

— Нам вельмі прыемна з вамі пазнаёміцца, — ветліва адказаў Анісім. — Але чаму мы стаім пад дажджом? Заходзьце, калі ласка.

Мы ўсе пайшлі ў Акадэмію, пакінулі ў сенцах змоклую адзежу, пасьля чаго Анісім правёў гасьцей у сталоўку і пасадзіў за стол. Яны былі, відаць, вельмі стомленыя, бо Асташ адразу ж заснуў і хістаўся на крэсьле, як кітайская лялька.

Піліп перастаў сьмяяцца і паведаміў, што зьбіраўся адвесьці Анатоля і Асташа ў Акадэмію да вечара, але па дарозе яны заблукалі і таму толькі апоўначы адшукалі Шакалядную вуліцу.

— Спадарства, вы ж, відаць, галодныя, — сказаў я. — Я павінен пабудзіць доктара Клякса і паведаміць яму, што вы прыйшлі.

— Трэба абавязкова пабудзіць доктара Клякса! — закрычаў Піліп, зноў сьмеючыся. — У мяне ёсьць для яго сьвежае рабаціньне, ха-ха-ха! Вы вельмі хочаце пабачыць доктара Клякса, ха-ха-ха! Праўда, Анатоль?

— Гэта будзе для мяне вялікім гонарам, — ветліва адказаў Анатоль.

Таму я як найхутчэй пабег нагару і загрукаў у спальню доктара Клякса. Ніхто не адказаў, таму я пастукаў зноўку, потым яшчэ раз. Але доктар Клякс, відаць, вельмі моцна спаў або ўвогуле не хацеў прачынацца. Я ўзяўся за клямку. Дзьверы былі зачыненыя на ключ. Я думаў, можа, Матэвуш пачуе мой грукат, аднак я і далей дарэмна ламаўся ў дзьверы — ніхто мне не адказваў.

Таму я вырашыў сам пайсьці ў кухню і наладзіць вячэру для абодвух хлопцаў і для Піліпа. У кладоўцы я знайшоў збанок з малаком, печыва, масла, трохі сыра, смажаную курыцу. Усё гэта я паставіў на паднос і адчыніў буфет, каб узяць талеркі і шклянкі. Раптам у адной са шклянак я заўважыў нешта шэрае. Перакананы, што гэта мыш, я накрыў даланёй шклянку і падышоў да сьвятла. Тое, што я ўбачыў, вельмі мяне ўразіла. У шклянцы сядзеў доктар Клякс. Маленькі доктар Клякс. Я выразна пазнаў ягоную галаву, ягоны дзівацкі ўбор, нават рабацінкі на ягоным носе. Ён сядзеў на дне шклянкі і спаў.

Я акуратна дастаў яго двума пальцамі і паклаў на талерку. Дакрануўшыся да халоднай парцаляны, доктар Клякс прачнуўся. Ён падхапіўся на ногі, хутка азірнуўся навокал, дастаў з кішэні павелічальную помпу і прыклаў яе да вуха. Неўзабаве ён пачаў павялічвацца, саскочыў з талеркі на крэсла, по-

тым на падлогу, а праз пару хвілінаў зрабіўся нармальным, звычайным доктарам Кляксам.

Я быў зусім агаломшаны гэтым здарэньнем і ня ведаў, што рабіць.

Доктар Клякс уважліва глядзеў на мяне нейкі час і ўрэшце сказаў мне сувора:

– Усё гэта табе толькі сьнілася! Разумееш? Ідыёцкі, дурацкі сон! Проста нейкая лухта! Я забараняю табе расказваць каму-небудзь пра гэты сон. Доктар Клякс табе забараняе! І больш каб мне такія сны не паўтараліся! Запомніў?

Я папрасіў прабачэньня ў доктара Клякса – бо што ж я яшчэ мог зрабіць – і расказаў яму, што прыйшоў Піліп з двума хлопцамі.

– Справіцеся безь мяне, – сказаў доктар Клякс. – Дай ім вячэру, і няхай ідуць спаць, а зранку я зь імі паразмаўляю. Піліп можа легчы на канапе ў маім кабінэце. Дабранач.

Пасьля гэтых словаў ён выйшаў, ляснуўшы за сабой дзьвярыма. Я выбег за ім і ўбачыў, як ён заяжджае наверх па парэнчах.

«Нешта ў Акадэміі псуецца», – падумаў я. Вярнуўшыся ў кухню, я ўзяў паднос зь ежай і аднёс яго ў сталоўку.

Асташ спаў і далей. Піліп і Анатоль прыняліся за вячэру, не зьвяртаючы на яго ніякай увагі.

– Можа, пабудзіць вашага брата? – зьвярнуўся Анісім да Анатоля. – Ён, відаць, вельмі галодны.

– Не, не. Ня трэба! – адказаў Анатоль. – Такі моцны сон цалкам заменіць яму ежу. Асташ вельмі ня любіць, калі яго будзяць.

– Глядзіце, хлопцы, гэта будзе гонар вашай Акадэміі, гэты каралевіч у сонным лесе! – сьмяяўся Піліп і трушчыў курыцу.

Пасьля вячэры Анісім правёў Піліпа ў кабінэт, а я адправіўся ў спальню, каб падрыхтаваць ложкі для хлопцаў. Калі я гэта зрабіў, у дзьвярах паказаліся Анісім і Анатоль. Анатоль нёс на руках Асташа, а той спаў.

– Ён вельмі ня любіць, калі яго будзяць, – яшчэ раз патлумачыў Анатоль. – Таму мы ўвогуле ня будзем яго распранаць – няхай сьпіць у адзеньні.

Таму мы асьцярожна паклалі яго на ложак, хутка распрануліся і ўрэшце заснулі пасьля дзіўных падзеяў гэтай ночы.

Назаўтра я прачнуўся вельмі рана. Зьяўленне ў Акадэміі новых вучняў сталася незвычайнай сэнсацыяй. Я раскатурхаў Аляксея, які спаў на суседнім ложку, і шэптам апавёў яму пра Анатоля з Асташом. Аляксей пабудзіў свайго суседа Артура, Артур – Аляксандра, і праз хвіліну спальня гула, як вулей.

Ранішні пад'ём Матэвуша засьпеў усіх на нагах.

Хлопцы цікаўна прыглядаліся да Анатоля, якога пабудзіла наша мітусьня, а таксама да Асташа, які нерухома выцягнуўся на ложку.

Раптам дзьверы адчыніліся, і ўвайшоў доктар Клякс.

— Добры дзень, хлопцы! — закрычаў ён з парогу. — Дзе там нашы новыя Альдзікі?

Анатоль сеў на ложку і ветліва адказаў:

— Гэта я, спадар прафэсар. Мяне завуць Анатоль Кукарэк, а гэта мой малодшы брат.

Пры гэтым ён паказаў на Асташа, які за ўвесь гэты час нават не здрыгануўся.

Доктар Клякс моўчкі прыгледзеўся да Анатоля і падышоў да Асташа.

Ён доўга стаяў над ім, паглыблены ў свае думкі, урэшце нахіліўся і крыкнуў яму проста ў вуха:

— Цябе завуць Асташ, так? — зноў крыкнуў доктар Клякс.

Асташ ані не здрыгануўся.

Доктар Клякс падняў ягоныя павекі і зазірнуў у вочы, пацер шчокі і лоб, паляпаў па руках.

Але і гэта не змагло абудзіць Асташа.

— Паглядзіце, хлопцы, — зьвярнуўся да нас доктар Клякс. — Асташ — не жывы чалавек, а лялька.

— Я заўсёды быў супраць таго, каб прымаць у Акадэмію лялек. Але цяпер я ўжо нічога не магу зрабіць. Асташа ўначы падступна, незаконна пранесьлі. У мяне будзе зь ім шмат клопатаў. Я мушу навучыць яго адчуваць, думаць і гаварыць. Паспрабую, можа, і атрымаецца. Адасю, вазьмі сабе ў дапамогу Аляксея і двух Антосяў і асьцярожна занясіце Асташа ў лякарню хворых рэчаў. Заняткаў сёньня ня будзе, бо я заняты. Калі ня будзе дажджу, можаце пайсьці з Матэвушам у парк.

Пасьля гэтых словаў доктар Клякс нібыта неяк скурчыўся і выйшаў з пакоя.

Не чакаючы ні хвіліны, з дапамогай трох таварышаў я ўзяўся пераносіць Асташа. Аднак як жа я зьдзівіўся, калі выявілася, што нічыя дапамога мне не патрэбна і што я сам лёгка магу яго вынесьці. Ён быў лёгкі, як пёрка. Калі я трымаў яго на руках, хлопцы акружылі мяне з усіх бакоў, уважліва яго разглядаючы. Калі б не надзвычайная лёгкасьць і зьмярцьвеласьць, Асташ нічым, уласна кажучы, не адрозьніваўся б ад жывога чалавека. Галава, валасы, выраз твару, форма вуснаў, вільготная абалонка вачэй, абрысы лоба, носа і падбародзьдзя, рукі, пазногці — усё гэта было натуральнае, гэт-

кае падманліва сапраўднае, што мала хто зь першага погляду пазнаў бы ў Асташу ляльку.

Нават матэрыял, зь якога былі зьлеплены твар і рукі, быў элястычны і цёплы, акурат такі, як чалавечае цела. Карацей кажучы, вынаходнік гэтай цудоўнай, незвычайнай лялькі быў варты найвялікшага захапленьня. І мы захапляліся бязь межаў, і пры гэтым нас зьядала цікаўнасьць, ці здолее доктар Клякс ажывіць Асташа і як складуцца нашыя стасункі зь лялькай, якая зробіцца штучным чалавекам.

Урэшце Анатоль умяшаўся ў нашую размову і вельмі грунтоўна пачаў нам апісваць будову лялькі, якую ён любіў, як брата. Я скарыстаўся гэтым, вырваўся ад прыяцеляў і пабег з Асташом да доктара Клякса, які ўжо нецярпліва чакаў у лякарні для хворых рэчаў.

— Пакладзі яго на гэты стол, — сказаў ён мне, — зараз жа возьмемся за працу.

— Дык я магу тут застацца? — спытаў я нясьмела.

— Можаш, — адказаў доктар Клякс, — мне будзе патрэбна дапамога.

Сёньня мы яшчэ ня сьнедалі, таму доктар Клякс упершыню пачаставаў мяне пілюлямі для росту валасоў, пасьля чаго загадаў мне распрануць Асташа.

Выявілася, што толькі галава і рукі лялькі былі зьлеплены зь цялеснага матэрыялу, астатнія ж яе часткі пакрываў тонкі слой мяккага і лёгкага мэталу, які пераліваўся ружовым бляскам.

Доктар Клякс дастаў з кішэні нагавіцаў слоік з мазьзю і сказаў:

— Націрай Асташа гэтай мазьзю, пакуль пад мэталічнай паверхняй ня зьявяцца крываносныя судзінкі. Трэба запасьціся цярплівасьцю, бо націраць давядзецца вельмі доўга. Пачні з ног, а я ў гэты час займуся лёгкімі і сэрцам.

Нашая праца доўжылася некалькі гадзін безь перапынку. Доктар Клякс адкруціў бляху, якая пакрывала грудную клетку лялькі, і доўга нешта майстраваў унутры. У мяне млелі рукі ад націраньня, аднак урэшце я дамогся, каб пад мэталічным эпідэрмісам Асташа патроху пачалі паказвацца шматлікія разгалінаваньні таненькіх жылак.

— Нагам досыць, — сказаў праз нейкі час доктар Клякс, увогуле ня гледзячы ў мой бок. — Займіся цяпер рукамі.

Тады я ўзяўся ўціраць мазь у плечы і рукі Асташа. Акурат у тую хвіліну, калі на іх ужо зьявіліся крываносныя судзінкі, пачуўся гук званка, які клікаў на абед.

Доктар Клякс, барвовы ад напружаньня і намаганьня, выпрастаў сьпіну, прыкруціў назад бляшаную накрыўку ляльчынай грудной клеткі і задаволена сказаў мне:

– Цудоўна! Выдатна! Ідзі абедаць, а я пакуль упраўлю глузды гэтаму кавалеру.

Я неахвотна пакінуў лякарню хворых рэчаў і падаўся ў сталоўку. Першым да мяне падбег Анатоль, а за ім – астатнія прыяцелі і закідалі мяне тысячамі пытаньняў:

– Асташ ужо ходзіць?

– Ён размаўляе?

– Што робіць доктар Клякс?

– Калі ён спусьціцца?

– Што ў Асташа на галаве?

– Асташ ужо ўмее думаць?

Я расказаў ім абсалютна ўсё, што адбывалася ў лякарні хворых рэчаў, а потым спраўна ўзяўся за ежу, каб хутчэй вярнуцца да перарванай працы.

Мы ўжо елі дэсэрт, і раптам дзьверы ў сталоўку адчыніліся.

Дваццаць пяць пар вачэй павярнуліся ў іх бок.

У дзьвярах стаяў Асташ, якога падтрымліваў доктар Клякс.

Нязграбна і палахліва ступаючы, Асташ павольна пасоўваўся наперад, цікаўна азіраўся навокал і ненатуральна размахваў левай рукой.

– Ну, вось і ён! – трыюмфальна закрычаў доктар Клякс. – Пазнаёмцеся з вашым новым калегам.

– Добры дзень, Асташ! – азваўся першым Анатоль, зачараваны выглядам лялькі.

– До-бры дзень, – адказаў Асташ, зь цяжкасьцю вымаўляючы кожны склад.

– Скажы, як цябе завуць! – крыкнуў яму на вуха доктар Клякс.

– Ас-таш Ку-ку-ку... – пачаў заікацца Асташ, манатонна паўтараючы першы склад свайго прозьвішча.

Доктар Клякс адкрыў ягоныя вусны, засунуў пад язык два пальцы і хуценька закруціў нейкі шрубік.

– Ну, паспрабуй сказаць цяпер.

Лялька глыбока ўздыхнула і сказала ўжо трохі хутчэй:

– Ас-таш Ку-ка-рэк. Мяне завуць Ас-таш Ку-ка-рэк.

– Цудоўна! – пляснуў у далоні доктар Клякс. – Цудоўна! Сядай цяпер за стол, а вы, хлопцы, дайце яму чаго-небудзь пад’есьці.

Павольным, асьцярожным крокам Асташ падышоў да стала, сеў на крэсла і бязгучным голасам сказаў:

– Ха-чу есь-ці.

Адзін з Антосяў падаў яму талерку з макаронам і відэлец.

Асташ нязграбна схапіў у руку відэлец і ўзяўся за ежу. Значная частка набіранага макарону падала ў яго з рота, рэшту ж ён павольна жаваў і зь цяжкасьцю глытаў.

– Смачна, – сказаў ён з бледнай усьмешкай, апаражніўшы талерку.

Са зьдзіўляльнай хуткасьцю ён усё больш спрытна еў, рухаўся і размаўляў.

Праз гадзіну ён пачаў складаць даўжэйшыя сказы, а ўвечары завёў размову з доктарам Кляксам пра Акадэмію.

Назаўтра мы адвялі яго ў парк на шпацыр. Ён хадзіў ужо зусім правільна і нават спрабаваў пагнацца за Анатолем, але зачапіўся за ўласную нагу і ўпаў.

Еў ён усё больш старанна, навучыўся трымаць нож і відэлец, а на трэці дзень сам памыўся, прычасаўся і апрануўся.

Праз тыдзень ніхто ня мог пазнаць у Асташу звычайную ляльку, ажыўленую доктарам Кляксам.

## РАЗЬДЗЕЛ ДЗЯСЯТЫ
## **ГІСТОРЫЯ ПРА ЛЮДЗЕЙ НА МЕСЯЦЫ**

Аднойчы зранку, калі мы, як звычайна, прынесьлі доктару Кляксу нашы сонныя люстэркі, ён урачыста абвесьціў:

– Слухайце, хлопцы! Заўтра роўна аб адзінаццатай у нашай Акадэміі будзе вялікае сьвята. Вы, відаць, здагадваецеся, пра што я. Дык вось, я раскажу вам, што бачыла на Месяцы маё правае вока, то бок гісторыю пра людзей на Месяцы. На гэтую ўрачыстасьць я запрасіў суседнія казкі. Я ў тры разы павялічыў клясны кабінэт, каб усе маглі ў ім зьмясьціцца. Сёньня цэлы дзень будзем рыхтавацца. Я хацеў бы, каб вы выглядалі чыста і ахайна. Таму прашу вас заняцца ўпарадкаваньнем парку і Акадэміі. Матэвуш дасьць вам неабходныя ўказаньні. А я пакуль прыгатую належны пачастунак для гасьцей. Калі ласка, не перашкаджайце мне і не заходзьце ў кухню. Я магу на вас разьлічваць?

– Вядома, прафэсар! – закрычалі мы хорам.

Мы адразу ж узяліся за працу.

Адны выбівалі фатэлі і дываны, іншыя націралі і паліравалі падлогі, мылі вокны, падмяталі сьцежкі, начышчалі абутак, мыліся — адным словам, у Акадэміі ўсё завіравала, як у вульлі.

Матэвуш увесь час кружляў над намі, зазіраў у шчыліны, падганяў нас і правяраў, што мы зрабілі.

Здавалася, што ўсё ідзе найлепшым чынам і нічога ня можа парушыць гармонію, якая пануе ў Акадэміі.

Аднак сталася інакш.

На сьвежанацертым паркеце ў кабінэце доктара Клякса невядома адкуль зьявілася лужына атраманту. З падушак, што праветрываліся на двары, раптам пачалі падымацца аблокі пер'я. Яно абсела дываны, мэблю і нашае адзеньне так, што потым мы ледзьве адчысьціліся. Аказалася, што чыясьці нябачная рука папратыкала падушкі нажом. Але гэта яшчэ ня ўсё. Ні з пушчы ні з поля ў нашай спальні зьявілася агромністая колькасьць сажы. Яна лётала па пакоі, апускаючыся на чыстую пасьцель і бялізну. Сеўшы на канапу, адзін з Адамаў парваў нагавіцы, бо з канапы тырчэлі вострыя цьвікі.

Нехта ў злосьці намазаў крэслы клеем. У ваньне невядома хто паадкручваў усе краны, і вада заліла ня толькі ўсю ванну, але і кухню, таму доктар Клякс мусіў абуць высокія галёшы.

Мы ніяк не маглі зразумець, хто гэта зрабіў. Было крыўдна, што нашая праца ідзе на глум, і мы падазрона паглядалі адзін на аднаго.

Аднак пасьля абеду ўсё выплыла на паверхню.

Артур, падымаючыся па лесьвіцы на другі паверх, праз прачыненыя дзьверы выпадкова заўважыў Асташа, які нажніцамі перараззаў правады. Таму ён хутка пабег па мяне, і мы абодва неспадзеўкі ўваліліся ў пакой. Асташ дурнавата засьмяяўся, але нават не спыніўся.

Я вырваў у яго з рук нажніцы. Яго гэта так раззлавала, што ён ляснуў па стале і разьвярнў яго з усім, што на ім было.

— Асташ, ачомайся! — сказаў Артур.

— Я не хачу ачомвацца! — закрычаў Асташ. — Я буду зьнішчаць усё, бо мне так падабаецца! Гэта я выліў атрамант у кабінэце, гэта я прадзіравіў падушкі, гэта я напусьціў сажы ў спальню! І што вы мне зробіце? Нічога. А будзеце мне перашкаджаць — падпалю ўвесь ваш канцлягер, і клямка!

Уражаныя, мы пабеглі ў кухню да доктара Клякса і расказалі яму пра хуліганскія выбрыкі Асташа.

Доктар Клякс выпусьціў з рук торт і засмуціўся.

– Я так і думаў, што з гэтым Асташом будуць праблемы, – сказаў ён заклапочана. – Шкада. Не чапайце яго, хлопцы, гэта ня ён вінаваты, а мэханізм. Так, як заводзяць будзільнік на пэўную гадзіну, таксама можна завесьці і мэханічную ляльку на выкананьне нейкіх дзеяньняў. Я адчуваю ў гэтым справункі Піліпа. Але я нічога не магу зрабіць. Разумееце? Я нічога не магу зрабіць.

Хвіліну панавала маўчаньне, пасьля чаго доктар Клякс працягваў далей:

– Я ня ведаю мэханізму Асташа. Гэта сакрэт Піліпа, які яго сканструяваў. Таму мы мусім быць памяркоўнымі і цярплівымі. Па сутнасьці, ён пераўзышоў усіх нас. Гэта проста цудоўнае стварэньне. Ён ужо ўсяму навучыўся ў Акадэміі і нават умее размаўляць па-кітайску. Здаецца, ён зьеў мой кітайскі слоўнік, бо я нідзе не магу яго знайсьці. Ідзіце працуйце. Я думаю, Асташ сам урэшце супакоіцца, калі ўбачыць, што ніхто не зьвяртае на яго ўвагі.

Мы выйшлі з кухні вельмі засмучаныя. Наколькі Анатоль быў прыемным хлопцам і добрым таварышам, настолькі Асташ ужо доўгі час дапякаў нам сваімі кпінамі і зьдзекамі. Ён сьмяяўся з усіх і ўсяго, зьневажаў доктара Клякса, па начах не даваў нам спаць, а Матэвушу пры любой нагодзе вырываў з хваста пёры. Спачатку мы цярпліва трывалі ягоныя выбрыкі, аднак потым пачалі пазьбягаць яго, таму вольны час ён мусіў бавіць сам або з Анатолем, якога пастаянна мучыў, штурхаў і шчыкаў.

Ён быў непрыемны, агідны хлопец, хоць насамрэч нельга было адмовіць яму ў незвычайных здольнасьцях, розуме і спрыце.

Яго трэба было спыніць хоць на нейкі час, таму я ахвяраваў сабой і прапанаваў яму пайсьці ў парк лавіць шчыглоў.

Асташ згадзіўся, таму мы нарвалі некалькі галінак кавыля для прынады, падрыхтавалі пятлю з конскага валосься і расставілі сілкі, самі ж затаіліся ў найбліжэйшых хмызьняках.

– Мне моташна, – прашаптаў Асташ. – Вы дурні, калі можаце вытрываць з гэтым вашым доктарам Кляксам. Пры першай магчымасьці я ўцяку адсюль і паеду ў Кітай. Менавіта не куды-небудзь, а толькі ў Кітай. Я так вырашыў.

Я нічога яму на гэта не адказаў, ён жа далей працягваў свае прызнаньні:

– Я не прасіў доктара Клякса вучыць мяне думаць. Я мог абысьціся і бяз гэтага. Я ведаю, што зусім не падобны да вас, хоць з выгляду нічым не адрозьніваюся. Насамрэч я вас усіх цярпець ненавіджу, а на доктара Клякса ўвогуле не магу глядзець. Ты ўбачыш, я яшчэ такога нараблю... Вы мяне яшчэ доўга будзеце памятаць.

Ён гаварыў усё гучней, аднак нарэшце супакоіўся, паклаў галаву на рукі і праз хвіліну заснуў.

Скарыстаўшыся гэтым, я выпусьціў злоўленага шчыгла і, ціха ступаючы на дыбачках, пабег у Акадэмію.

Хлопцы ўжо ўсё зрабілі. Пакоі і залі блішчэлі чысьцінёй, аж прыемна было глядзець.

Мы рана павячэралі і пайшлі спаць.

Асташа не было, і ніхто пра яго нават не ўзгадаў. Відаць, ён вырашыў пераначаваць у парку, я гэтаму зусім не зьдзівіўся, бо ведаў, што ягонае цела не адчувае холаду.

Назаўтра зранку мы пашыхтаваліся і чакалі прыезду казак. Доктар Клякс упершыню надзеў замест свайго звычайнага сурдута карычневы фрак зь зялёнымі бартавінамі і моўчкі прахаджаўся па Акадэміі. Ён быў трохі меншы, чым учора, але ў новым строі гэтая зьмена была амаль незаўважная.

Ужо а дзясятай гадзіне пачалі зьбірацца госьці. Парк напоўніўся празнымі дзіўнымі постацямі, якіх сёньня можна ўбачыць толькі ў тэатры ці ў кіно.

Хоць і была позьняя восень, у парку прыгравала сонца, і клюмбы з кветнікамі раптам пазацьвіталі.

Да ганку пад'яжджалі экіпажы і залочаныя карэты, дываны-летуны і куфэркі гудзелі ў паветры, як самалёты. Розныя каралеўны і прынцэсы рухаліся ў атачэньні сваіх прыдворных і пажоў. Гномы і карузьлікі тоўпіліся на сьцежках, як тыя жабы, калі доктар Клякс асушыў сажалку. Таксама прыходзілі вядомыя жывёлы з казак: Кот у ботах, курка Рабка, мядзьведзь Міхайла, Каза-Манюка, Качка-Дзівачка, Лісіца-Хітрыца, Жуpавель і Чапля і нават Мушка-Зелянушка і Камарык-Насаты тварык. Русалка прыехала ў шкляным экіпажы, напоўненым вадой, а вакол яе плёскаліся залатыя рыбкі. Былі тут арабы, індзейцы і кітайцы, а таксама розныя чужаземцы з казак і паданьняў розных народаў.

Доктар Клякс вітаў усіх на ўваходзе ў Акадэмію і — што самае дзіўнае — кожнага ведаў асабіста.

Нават самыя важныя каралевічы выказвалі пашану доктару Кляксу і лічылі ягонае запрашэньне вялікім гонарам для сябе. Гледзячы на ўсё гэта, мяне расьпірала пыха, што я — вучань такога знакамітага чалавека.

Клясны кабінэт — калі доктар Клякс павялічыў яго — зрабіўся такі прасторны, што ўсе госьці зь лёгкасьцю зьмясьціліся ў ім, а калі б іх было ў тры і нават у чатыры разы больш, напэўна, ніхто не застаўся б бязь месца.

Мне разам з астатнімі хлопцамі выпала займацца гасьцямі. І вось мы разносілі на срэбных падносах і талерках прыгатаваныя доктарам Кляксам

ласункі. Там былі разнастайныя тарты і піражныя, шакалядкі, кветкі і садавіна ў цукры, пернікі, марозіва, крэмы, вінаград і арэхі, цудоўныя ўсходнія прысмакі для гасьцей з арабскіх казак, гарачыя і халодныя напоі і нават кампоты і цукеркі з каляровых шкельцаў, з матылькоў і герані.

Для гурманаў і ласуноў былі таксама прыгатаваныя пілюлі для росту валасоў, сонныя пілюлі і зялёная вадкасьць.

Жабка-Падайлапка, седзячы за маім вухам, нашэптвала мне, каго і як трэба абслужыць, што вельмі палегчыла маю працу.

Калі ўсе госьці сабраліся і занялі месцы, мы сталі ля сьценаў. Роўна аб адзінаццатай гадзіне доктар Клякс падняўся на катэдру. У сваім карычневым фраку, з Матэвушам на плячы, з растрапанымі валасамі і густым сьвяточным рабаціньнем на носе ён выглядаў цудоўна.

Залю напоўніла цішыня.

Доктар Клякс адкашляўся і пачаў свой аповед:

– За лясамі, за даламі, за высокімі гарамі, дзе ня бачна ні душы, сьцежка вузкая бяжыць.

Бяжыць лесам, полем, просіцца на волю, рвецца ў аблокі, мкнецца ў сьвет высокі, дзе сярод нябёсаў Месяц срэбнаносы. Маё вока там было – мне ўсё апавяло. Тут і казка зьмесьціцца пра людзей на Месяцы.

Уся паверхня Месяца пакрытая меднымі, срэбнымі і жалезнымі гарамі. Горы з усіх бакоў прарэзаныя доўгімі пакручастымі калідорамі, якія вядуць у незьлічоную колькасьць дзьвярэй у пячоры, што месьцяцца ўздоўж калідораў.

У іх жывуць месяцовыя людзі, якія завуць сябе лунакамі.

На Месяцы пануе вечны холад, таму лунакі ніколі не выходзяць з гор. Яны няспынна сноўдаюцца па сваіх калідорах, вандруюць з паверха на паверх, апускаюцца ў глыб сваёй плянэты, нястомна дзяўбуць мэталічныя сьцены і вядуць працавітае жыцьцё мурашоў.

На Месяцы няма аніякай расьліннасьці, таксама няма ніякіх жывых істотаў, апрача лунакоў.

У лунакоў няма ні цела, ні костак. Яны створаны з туманнай масы, падобнай да аблокаў, і могуць надаваць сабе любыя, самыя разнастайныя формы. Гэтая маса пакрытая празрыстай элястычнай абалонкай, што нагадвае жэлатын.

Ва ўсіх лунакоў ёсьць шкляныя пасудзіны, у якіх яны праводзяць вольны ад працы час. Кожная з гэтых пасудзін – адрознай формы, дзякуючы чаму лунакі розьняцца адно ад аднаго.

У лунаковых дамах поўна ўсялякіх дзіўных жалезных і медных рэчаў. Гэта разнастайныя дыскі, пліткі, талеркі, міскі, што стаяць на трыножках ці вісяць на сьценах.

Сьвятла ў лунакоў няма, але калі ім трэба, то яны самі выпраменьваюць яго. Кормяцца яны зялёнымі меднымі шарыкамі. Яны цудоўна перамаўляюцца гукамі, падобнымі да ўдараў срэбных званочкаў.

Лунакі рухаюцца, як аблокі, то бок – плывучы. Для працы яны не ўжываюць ніякіх інструмэнтаў і карыстаюцца толькі рознымі прамянямі, якія самі і выпраменьваюць.

Такія месяцовыя людзі называюцца лунакамі.

На паўднёвым паўшар'і Месяца, у Вялікай Срэбнай Гары, жыве ўладар лунакоў, магутны і грозны кароль Неслух. Толькі ён дасягнуў такой ступені дасканаласьці, што страціў сваю празрыстасьць і сфармаваў вадкае цела без патрэбы хавацца ў шкляную пасудзіну. Кароль Неслух падобны да зямнога чалавека, у яго нават ёсьць рукі і ногі, аднак яшчэ няма твару, таму і галава ягоная ў форме абсалютна гладкага шара.

Кароль Неслух ніколі не выпускае з рук доўгага вузкага мяча. Калі нейкі лунак яму не спадабаецца, ён пратыкае яго вастрыём свайго клінка.

Тады з жэлатынавай абалонкі выцякае прамяністая маса і ў той жа момант выпараецца. Парэшткі праткнутага лунака кароль Неслух забірае ў свой срэбны палац і хавае ў жалезную скрыню.

Аднойчы кароль Неслух парушыў звычай свайго народу і выйшаў на паверхню Срэбнай Гары. Акурат тады здарылася падзея, якую ніхто ня мог прадбачыць... – у гэтым месцы доктар Клякс змоўк і ўважліва прыслухаўся да чагосьці.

Праз хвіліну ён выразна занепакоіўся, і гэта перадалося ўсім прысутным. З парку даносіліся крыкі, трэск ламанага вецьця, звон бітага шкла. Відавочна, нешта здарылася.

Галас усё набліжаўся, аж раптам з грукатам адчыніліся дзьверы ў кабінэт, і на парозе зьявіўся Асташ.

Ён быў расчуханы, брудны, у зьмятым адзеньні. У яго руцэ была сукаватая палка.

Яго твар быў шалёны.

– Што гэта значыць, доктар Клякс?! – закрычаў ён такім голасам, што ва ўсіх прабег мароз па скуры. – Піруеце безь мяне? Пакінулі мяне на зьядзеньне шчыглам, а самі казачкі баіце! Што вочы вылупілі, вы ўсе? Пайшлі прэч! Прэч адсюль, пакуль я добры!

Пры гэтым ён пачаў размахваць палкай над галовамі зьляканых гасьцей.

Доктар Клякс змоўк, ён глядзеў у адну кропку шклянымі вачыма і нэрвова торгаў бровы.

Асташ безь перашкодаў гойсаў па кабінэце, урэшце падышоў да стала з прысмакамі доктара Клякса і з усяе моцы грукнуў па стале палкай. Пачуўся трэск, аскепкі парцаляны і шкла пасыпаліся ва ўсе бакі, а крэмы і напоі запырскалі гасьцей.

Анатоль спрабаваў спыніць Асташа, але адным штуршком у грудзі быў павалены на падлогу.

Усчаўся такі вэрхал, што цяжка апісаць.

Адна каралеўна і дзьве маленькія прынцэсы страцілі прытомнасьць, астатнія ж госьці пазрываліся зь месцаў і пачалі ўцякаць празь дзьверы і вокны.

Доктар Клякс застыў, нібы слуп солі, толькі троху скурчыўся і сумна пазіраў на Асташа.

– Гэй, спадарства! – крычаў Асташ. – Шавяліце клюшнямі! Змывайся, Качка-Дзівачка, а то я цябе засмажу! Звальвай, Камар, а то прыстукну! Цяпер камандаваць парадам буду я, ха-ха-ха!

Раптам з натоўпу гасьцей выйшла прыгожая бледная кабета з гордай постацьцю. Яна падышла да Асташа і прамовіла рашучым голасам:

– Я – Валадарка Лялек. Я загадваю табе неадкладна пакінуць залю!

Але Асташ ужо ня быў звычайнай лялькай, і таму Валадарка ня мела над ім аніякай улады. Ён зьдзекліва засьмяяўся ёй у твар, адвярнуўся ад яе і, штурхаючыся, груба закрычаў:

– Гэта яшчэ ня ўсё, доктар Клякс! Вам яшчэ расхочацца вашых казачак! Я вашу Акадэмію зь зямлёй зраўняю! Ясна? Зраў-ня-ю!

Аляксей ня змог вытрываць гэтай сцэны і расплакаўся.

Іншыя хлопцы стаялі, спужаныя, і пазіралі толькі на доктара Клякса. Я проста дрыжаў ад абурэньня і агіды.

Кляса паступова пусьцела і ўрэшце апаражнела цалкам.

З парку далятаў грукат, зь якім ад’яжджалі экіпажы і карэты. Самлелую каралеўну вынесьлі на руках ейныя пажы.

Мы засталіся з доктарам Кляксам, які зьнерухомеў і глядзеў у адну кропку.

Тым часам кляса паменшылася і вярнулася да свайго звычайнага памеру, неба нахмурылася, і зноў пайшоў дробны восеньскі дождж.

Асташ з задаволеным тварам расьсеўся ў фатэлі насупраць доктара Клякса і задзірліва сьвістаў.

Урэшце доктар Клякс ачомаўся. Ён агледзеўся навокал у пустой клясе, зірнуў на нас, што стаялі ля сьценаў, потым на Асташа і сказаў спакойна, нібыта нічога ня здарылася:

– Шкада, хлопцы, што я ня змог да канца расказаць гісторыю пра людзей на Месяцы. Давядзецца адкласьці яе да іншай кнігі. Шкада. Здаецца, час абедаць. Праўда, Матэвуш?

– Аўда, аўда! – закрычаў Матэвуш і паляцеў у бок сталоўкі.

Не зьвяртаючы ўвагі на Асташа, доктар Клякс прайшоў каля яго, падняўся ў паветра і паляцеў сьледам за Матэвушам, прытрымліваючы рукамі крысьсё свайго фрака, якое разьвявалася на ветры.

Такі гэта быў цудоўны чалавек!

## РАЗЬДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ
## **ТАЯМНІЦЫ ДОКТАРА КЛЯКСА**

Пачаўшы ў сярэдзіне году весьці гэты дзёньнік, я нават ня думаў, што ён зойме столькі месца і што тут будзе апісана гэтак шмат разнастайных дзіўных выпадкаў.

Апошнім жа часам падзеі разгортваліся так хутка, што мне проста цяжка ўпарадкаваць іх у памяці.

Самае галоўнае, што зь нейкага часу з доктарам Кляксам сталі адбывацца абсалютна незразумелыя рэчы.

Найперш мы ўсе заўважылі, што нешта сапсавалася ў ягонай павелічальнай помпе. Як я ўжо згадваў раней, гэта выразна адбілася на яго росьце: доктар Клякс з кожным днём усё драбнеў і ўжо ніколі ня мог дасягнуць росту папярэдняга дня. Гэта яго нэрвавала, ён рабіўся ўсё больш расьсеяным і задуменным, асабліва калі гэта было зусім недарэчы. Неяк ён задумаўся, заязджаючы ўгору па парэнчах, і пару гадзінаў прасядзеў на іх верхам паміж двума паверхамі. Іншым разам, лётаючы над сталом з палівачкай у руцэ, ён забыўся, што вісіць у паветры, і так глыбока задумаўся, што ўпаў у міску са смажанай баранінай, але сам гэтага не заўважыў.

Зь нейкага часу зьмяншэньне росту доктара Клякса зрабілася проста трывожным. Аляксей, самы малы сярод нас, быў на галаву вышэйшы за яго.

– Паглядзіце, калі гэтак пойдзе далей, праз месяц ужо ўвогуле ня будзе доктара Клякса, – голасна кпіў Асташ.

Тое, што вырабляў у Акадэміі Асташ, пераўзыходзіла ўсялякія ўяўленьні. Пасьля авантуры з казкамі ўжо ніхто ня мог даць яму рады, а доктар Клякс глядзеў скрозь пальцы на ўсе ягоныя выбрыкі.

Асташ уставаў, калі хацеў, не прыходзіў на заняткі, на сонных люстэрках маляваў карыкатуры на доктара Клякса, без дазволу заходзіў на кухню і закідаў у рондлі жаб і павукоў, пракалоў іголкай паветраныя шарыкі доктара Клякса і пастаянна назаляў усім нам. Мы ненавідзелі яго і ўздыхалі з палёгкай, калі ён засынаў або хадзіў у парк.

Доктар Клякс дазваляў яму ўсё, нібыта баяўся яго. Мала таго – чым больш узрастала нахабства Асташа, тым больш слабелі ўлада і аўтарытэт доктара Клякса. Ён усё больш закідаў кухню і забываўся пра нашы абеды, зусім ня дбаў пра сваё рабаціньне і нават перастаў піць пілюлі для росту валасоў, а таму цалкам палысеў і страціў расьліннасьць на твары.

Але гэтыя дзіўныя зьмены датычыліся ня толькі самога доктара Клякса. Будынак Акадэміі таксама трохі скурчыўся, пакоі зрабіліся ніжэйшыя і рэчы паменшыліся, ложкі сталі карацейшыя. Парк, які дагэтуль нагадваў вялізную пушчу, паменшаў і парадзеў, а магутныя дубы і букі пераўвасобіліся ў маленькія несамавітыя дрэўцы.

Відавочна, гэтыя зьмены адбываліся паступова і вельмі павольна, аднак праз месяц сталі настолькі заўважныя, што ўсе адчувалі смутак і страх.

Адзін толькі Асташ не губляў бадзёрасьці, сьпяваў на ўвесь голас, сьвістаў, ляскаў дзьвярыма, выбіваў камянямі каляровыя шыбіны, дражніў Матэвуша і часам рабіўся невыносным.

Доктар Клякс моўчкі глядзеў на яго, заклапочана чухаў сваю лысіну і пастаянна засынаў, неаднаразова забываючыся пасьля сну выпіць зялёнай вадкасьці.

Мы зразумелі, што надыходзіць канец нашай Акадэміі.

Наконадні Раства доктар Клякс сабраў нас усіх у клясе і сказаў сумным голасам:

– Дарагія мае хлопцы, вы не маглі не заўважыць таго, што адбываецца вакол нас. Вы бачыце, як за нейкі час я здрабнеў. Гаворачы гэта, я мушу стаяць, каб вы мяне бачылі з-за катэдры. Усё вакол вас памяншаецца і драбнее. Відаць, вы самі разумееце прычыну гэтага. Дык вось, проста мая казка падыходзіць да канца. Будзьце гатовыя, што хутка гэтая Акадэмія ўвогуле перастане існаваць, і ад мяне нічога не застанецца. Мне будзе шкада рас-

ставацца з вамі. Мы былі разам цэлы год, нам было весела і прыемна, але ж усё мусіць мець свой канец.

– А што будзе з намі, спадар доктар? – закрычаў Анісім, стрымліваючы плач.

Доктар Клякс расчулена паглядзеў на яго і сказаў:

– Любы Анісім, у кожнага з вас ёсьць свой дом. Ва ўсялякім выпадку памятай аб адным: сёньня апоўначы абавязкова адчыні браму, пасьля чаго закінь ключ у сажалку. Ля берагу ты знойдзеш палонку, якую я адмыслова для гэтага высек у лёдзе. Менавіта на гэтым і скончыцца казка пра Акадэмію доктара Клякса.

Усім нам зрабілася вельмі сумна. Мы акружылі доктара Клякса і цалавалі ягоныя рукі, якія сталі ўжо такія маленькія, як рукі дзіцяці.

Доктар Клякс сардэчна абдымаў нас, трасучы сваёй лысай галоўкай, і паціху выціраў з вачэй сьлёзы.

Гэта была вельмі ўзрушальная сцэна, якая застанецца ў маёй памяці на ўсё жыцьцё.

Тым часам надышоў вечар. За вокнамі ішоў сьнег, і шмат сьняжынак зіхацела на шыбах.

Доктар Клякс адчыніў фортку, паглядзеў у неба і сказаў нам з ласкавай усьмешкай:

– Ну, досыць, хлопцы, не сумуйце! Я падрыхтаваў для вас калядны сюрпрыз, хадзем за мной наверх!

Доктар Клякс лёгка, як пёрка, прашмыгнуў па парэнчах, мы ж пасьпяшалі за ім, пераскокваючы па некалькі прыступак ураз. Калі ўсе сабраліся на трэцім паверсе, доктар Клякс дастаў зьвязку ключоў і адчыніў імі дзьверы ў пакоі, якія дагэтуль былі пастаянна зачыненыя. Аднак змрок спусьціўся так хутка, што ў цемры мы нічога не маглі разабраць.

Доктар Клякс таямніча дастаў з вогнетрывалай кішэнькі пламеньчык сьвечкі і зайшоў у адзін з пакояў.

Праз хвіліну ў глыбіні зьявіліся агеньчыкі, і неўзабаве навокал разьлілося незвычайнае зьзяньне. Мы былі зачараваныя. Пасярод агромністай залі стаяла гожая ялінка, асьветленая сотнямі палымнеючых сьвечак і цудоўна аздобленая пекнымі цацкамі, ланцужкамі, залатымі і срэбнымі ніткамі, шклянымі сьняжынкамі і мноствам разнастайных упрыгожаньняў. Вакол ялінкі стаялі файна накрытыя сталы, што згіналіся пад цяжарам талерак, салатніц і місак.

З урачыстым настроем мы селі вячэраць.

Азіраючыся навокал, я заўважыў, што мы былі ў той жа самай залі, дзе раней была лякарня хворых рэчаў. Таксама я пазнаў і большасьць мэблі. Гэ-

та былі сталы, крэслы, столікі, гадзіньнікі, якія яшчэ нядаўна нагадвалі старызну, цяпер жа, вылечаныя доктарам Кляксам, пераліваліся, блішчэлі сьвежай паліроўкай і выглядалі як новыя.

Доктар Клякс, насуперак тагачасным звычаям, сядзеў сярод нас і з апэтытам паглынаў розныя рыбныя стравы.

Пасьля вячэры мы сабраліся вакол ялінкі, бо доктар Клякс падрыхтаваў для нас калядныя падарункі, якія ён раздаваў нам, нібы Сьвяты Мікола.

Калі падышла чарга Асташа, аказалася, што яго няма сярод нас, і мы раптам зразумелі, што не было яго і на вячэры.

Доктар Клякс вельмі занепакоіўся.

– Дзе Асташ? Што зь ім здарылася? Матэвуш, хутчэй ляці шукаць Асташа.

Зьляканы Анатоль сарваўся з крэсла:

– Спадар доктар, – закрычаў ён, – я ведаю, дзе ён! Я прасіў і маліў яго не рабіць гэтага. Ён не хацеў мяне слухаць.

Доктар Клякс падбег да Анатоля і, бледны, як палатно, упіўся пальцамі ў ягонае плячо:

– Кажы! Кажы! Дзе Асташ?

– Асташ у таямніцах доктара Клякса, – прашаптаў Анатоль дрыжачым голасам і бясьсільна апусьціўся на крэсла.

Я мімаволі зірнуў на столь. Зьверху выразна далятала водгульле нечых крокаў.

Доктар Клякс адным махам апынуўся ля акна, адчыніў фортку і выплыў вонкі.

Мы зразумелі, што здарылася страшная рэч. Ніхто з нас ніколі б не наважыўся залезьці ў таямніцы доктара Клякса. Мы ведалі, што за такое выганяюць з Акадэміі. Зрэшты, мы занадта паважалі доктара Клякса, каб хтонебудзь з нас мог наважыцца пераступіць ягоную строгую забарону. Гэта мог сабе дазволіць толькі Асташ, гэтая ўсімі ненавісная, нахабная, пыхлівая і ганарыстая лялька.

У вялізным напружаньні мы чакалі, што будзе далей. Раптам дзьверы адчыніліся, і ў залю зайшоў Асташ, з галавы да ног запэцканы сажай, несучы ў руках нявялічкі куфэрачак з чорнага дрэва.

– А ў мяне таямніцы доктара Клякса! – закрычаў ён, задыханы. – Зараз мы іх пабачым! Глядзіце! Вось гэтыя таямніцы, ха-ха-ха!

З гэтымі словамі ён паставіў куфэрак на стол, адчыніў яго і высыпаў некалькі парцалянавых таблічак, сьпісаных дробным кітайскім пісьмом.

Мы не разумелі, што там напісана. Ніхто з нас ня ведаў кітайскай. Мы былі агаломшаныя незвычайным выглядам Асташа і ягоным нахабствам.

– Адзін я тут чытаю па-кітайску! – закрычаў Асташ. – Адзін я змагу адкрыць таямніцы доктара Клякса. Нарэшце мы даведаемся, хто гэты напышлівы дзівак! Ха-ха-ха!

Раптам у фортцы зьявіўся бледны, перакрыўлены твар доктара Клякса. Заплываючы ў залю, ён быў напалову меншы, чым дагэтуль. Ён быў ростам проста зь пяцігадовага хлопчыка.

Убачыўшы, што не пасьпее расчытаць таямнічыя кітайскія таблічкі, Асташ адным махам рукі скінуў іх са стала на падлогу і з усяе моцы пачаў трушчыць іх абцасамі, пакуль не разьбіў і ня сьцёр на дробны парашок.

Ніхто не пасьпеў яму перашкодзіць у гэтай ганебнай справе.

– Ты зьнішчыў мае таямніцы, Асташ, – сказаў доктар Клякс спакойным, але суворым голасам. – Таму я зьнішчу цябе. Ты – справа маіх рук і ад маіх рук цяпер і загінеш.

Сказаўшы гэта, ён прыклаў да вуха павелічальную помпу, пару разоў націснуў яе, праглынуў некалькі пілюлек для росту валасоў і праз хвіліну зрабіўся ранейшым цудоўным доктарам Кляксам.

Сьмеласьць і дзёрзкасьць Асташа зьніклі бязь сьледу.

Доктар Клякс дастаў з адной з шафаў вялікую скураную валізку, адчыніў яе і паставіў на стол. Потым падышоў да Асташа і, ня кажучы ні слова, пасадзіў яго на стол побач з валізкай. Затаіўшы дыханьне, мы назіралі за гэтай падрыхтоўкай. Праз хвіліну доктар Клякс узяў Асташа за правае плячо, адкруціў яго і паклаў у валізку абсалютна нерухомую руку. Падобным чынам ён адкруціў і другую руку, а таксама ногі і закінуў іх на дно валізкі. На стале засталося толькі тулава з галавой.

Асташ маўчаў, зьлякана сочачы за дзеяньнямі доктара Клякса.

Тым часам доктар Клякс аберуч узяўся за ягоную галаву і пакруціў яе ўлева. Шруб лёгка саступіў, і неўзабаве галава Асташа аддзялілася ад тулава. Тады доктар Клякс адкруціў цемечка і высыпаў з галавы ўсё яе зьмесьціва. А былі там літары, гукавыя кружэлкі, шкляныя трубкі, а таксама мноства колцаў і спружынак.

Урэшце доктар Клякс разабраў на часткі тулава Асташа, часткі гэтыя разам з галавой склаў у валізку і зачыніў яе.

Усе мы з палёгкай уздыхнулі: Асташ – гэтая ганебная карыкатура на чалавека – перастаў існаваць.

У аднаго толькі Анатоля на вачах былі сьлёзы.

– Божа мой, – шаптаў ён, – Божа мой, што я цяпер скажу Піліпу? Ён жа загадваў мне пільнаваць і сачыць за Асташом. Такая прыгожая лялька... Такая прыгожая!

Тым часам доктар Клякс зноў скурчыўся і здрабнеў. Ён павярнуў да нас свой дзіцячы тварык і сказаў:

– Не бярыце гэта да сэрца, хлопцы. Я вырашыў, што акурат такім будзе канец нашай казкі. Неўзабаве ўсё скончыцца. Асташ скраў мае таямніцы. На гэтых парцалянавых таблічках, што ён пабіў і патрушчыў, была запісаная ўся навука доктара Пай-Хі-Во. Цяпер я не магу гатаваць каляровыя шкельцы, падымацца ў паветра, адгадваць вашыя думкі, павялічваць прадметы, лячыць хворыя рэчы! Я згубіў усе свае здольнасьці, якімі быў знаны ў суседніх казках і якія праслаўлялі мяне і маю Акадэмію. Аднак замест таго, каб засмучацца, засьпявайма лепш калядкі. Згода?

Доктар Клякс яшчэ не пасьпеў пачаць песьню, як адчыніліся дзьверы і зайшоў цырульнік Піліп. Ягоныя шапка і футра былі пакрытыя сьнегам. Ён быў чырвоны ад марозу і шаленства.

– Чаму вы не адчыняеце браму? – крычаў ён, дрыжучы ад гневу. – Мне прыйшлося пералазіць праз мур, каб трапіць сюды. Дурань! Досыць мне ўжо тваёй Акадэміі! Анатоль, я забіраю цябе дадому. Дзе Асташ?

Анатоль нясьмела падышоў да Піліпа.

– Асташ... Асташ... там... у гэтай валізцы, – прамармытаў ён са страхам у голасе.

Піліп падбег да валізкі, адчыніў яе, паглядзеў і пахіснуўся ад выгляду сапсаванай лялькі.

– Ах, вось як, доктар Клякс! – шыкнуў ён праз зубы. – Вось як вы датрымалі сваё слова? Дваццаць гадоў я працаваў над сваёй лялькай, прыносіў вам рабацінне і каляровыя шкельцы, аддаў вам усю маёмасьць, каб вы маглі стварыць гэтую дурацкую Акадэмію. Вы мусілі за гэта зрабіць з Асташа чалавека. І што вы зрабілі? Вы змарнавалі ўсю працу, усе намаганьні майго жыцьця. Гэта вам дарма ня пройдзе, не, доктар Клякс. Я вам пакажу, на што здольны Піліп, калі хоча адпомсьціць. Я вам пакажу!

Сказаўшы гэта, ён дастаў з кішэні доўгую брытву, раскрыў яе і падышоў да ялінкі.

Доктар Клякс моўчкіназіраў за ім і толькі зрабіўся яшчэ меншым, чым быў дагэтуль.

Піліп, нікім ня стрыманы, узяўся за працу. Выстрыём брытвы ён па чарзе адразаў пламеньчыкі сьвечак, што гарэлі на ялінцы, і хаваў іх у кішэні футра.

Зьнікалі пламеньчыкі — і ў залі цямнела, і ўрэшце апусьціўся поўны змрок. Што адбывалася далей, я ня ведаю. Устрывожаны, я выбег на лесьвіцу і — нават ня ведаю, калі і як, — апынуўся на двары.

Была прыгожая марозная сьнежаньская ноч. Сьнег перастаў, і ў сьвятле месяца іскрылася ягоная бель.

Усю Акадэмію, яе муры і парк было відаць як на далоні. Перад маімі вачыма мільганула постаць Анісіма, а праз хвіліну я пачуў скрыгат замка. Анісім адчыніў браму, і нібыта праз сон я ўбачыў, як перада мной рухаюцца доўгія цені маіх сяброў.

Я хацеў крыкнуць: «Да пабачэньня, хлопцы!», але словы застылі ў мяне ў горле.

## РАЗЬДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ
## **РАЗЬВІТАНЬНЕ З КАЗКАЙ**

Месяц біў мне ў вочы і залівае сваім таямнічым бляскам.

Я сеў на лаўцы, бо раптам адчуў вялізную стому. Я вельмі намагаўся авалодаць сабой, каб не заснуць.

Аднак мяне раптоўна ўразіла незвычайная рэч: будынак Акадэміі ўжо ня быў тым ранейшым цудоўным будынкам.

Я толькі цяпер заўважыў, што ён напалову зьменшыўся і надалей курчыўся на маіх вачах. Гэтае ж самае здарылася і з паркам, і з мурам вакол яго.

У мяне шумела ўвушшу і стала цёмна ўваччу.

Будынак Акадэміі бесьперапынна меншаў.

Калі ён быў памерам ужо са звычайную шафу, зь ягоных дзьвярэй выйшла нейкая маленькая фігурка і падышла да мяне. Гэта быў доктар Клякс. Такі самы доктар Клякс, якім я калісьці яго бачыў у шклянцы.

Тым часам неба навісла нада мной, і месяц боўтаўся на ім, як лямпа на стале.

Мур вакол Акадэміі наблізіўся, і я выразна адрозьніваў у ім весьнічкі, што вялі ў суседнія казкі.

Час ляцеў, і ўсё навокал мяне драбнела хутчэй і хутчэй. Мае павекі зьліпаліся, і мяне агарнула такая санлівасьць, што я не заўважыў, як заснуў.

Калі праз хвіліну я адплюшчыў вочы, ператварэньне навакольных рэчаў падыходзіла да канца.

Я быў у пакоі, асьветленым зьверху вялікай круглай лямпай. Будынак Акадэміі ператварыўся ў клетку, у якой сядзеў задуменны Матэвуш. На месцы парку ляжаў прыгожы зялёны дыван, вышываны дрэвамі, кустамі і краскамі. Там, дзе быў мур, стаяла бібліятэка, а весьніцы ў муры ператварыліся ў карэньчыкі кніг, на якіх залатымі літарамі былі выціснутыя іхныя назвы. Там былі ўсе казкі спадара Андэрсэна і братоў Грым, казка пра Шчаўкунка, пра Рыбака і Рыбку, пра Ваўка Ваўковіча, пра Беласьнежку і сем гномаў, пра Качку-Дзівачку і шмат-шмат іншых.

Я сядзеў на лаве, а ля маіх ног, на падлозе, стаяў доктар Кляксс. Ён ужо быў ня большы за мой мезенец. Ягоных рук і ног я ўвогуле ня мог адрозьніць, і толькі лысая галоўка блішчэла ў сьвятле лямпы.

Я акуратна ўзяў яго двума пальцамі і паставіў сабе на далонь. Ледзь чутным голасам доктар Кляксс прамовіў:

– Бывай здароў, Адасю, трэба разьвітвацца. Ты добры і адважны хлопец. Я зычу табе посьпеху ў жыцьці. Хто ведае, можа, мы яшчэ сустрэнемся ў якой-небудзь іншай казцы.

Сказаўшы гэта, доктар Кляксс зноў напалову зьменшыўся. Ён быў памерам са сьліву, а потым – ужо толькі зь лясны арэх.

І раптам адбылася самая нечаканая рэч.

Прадмет велічынёй зь лясны арэх перастаў быць доктарам Кляксам і зрабіўся гузікам, які блішчэў бледна-ружовай паверхняй.

Матэвуш, здавалася, толькі гэтага і чакаў.

Ён выпырхнуў з клеткі, сеў да мяне на плячо, потым саскочыў на далонь, схапіў у дзюбку гузік і зьляцеў зь ім на падлогу.

Вы ўжо здагадаліся, што гэта быў гузік ад цудоўнай шапкі багдыханаў, цудоўны гузік доктара Пай-Хі-Во, які мусіў вярнуць Матэвушу ягонае аблічча прынца? Ці вы дагэтуль не падумалі, што доктар Кляксс быў гэтым гузікам, які Пай-Хі-Во ператварыў у чалавека?

Што да мяне, дык я гэта зразумеў толькі цяпер, калі заўважыў паступовыя зьмены ў Матэвушу. Ён пачаў расьці і павялічвацца. Крылы патроху прымалі форму чалавечых плячэй, ногі падоўжыліся, на месцы дзюбы абазначыліся рысы твару.

Матэвуш рос, і праз некалькі хвілін ужо быў вышэйшы за мяне. Пакуль я пасьпеў усьвядоміць тыя падзеі, што адбываліся ў мяне на вачах, я ўбачыў перад сабой элегантнага мужчыну гадоў сарака, з валасамі, кранутымі лёгкай сівізной.

Я нізка пакланіўся яму і сказаў:

– Рады вітаць Яснавяльможнага Пана. Мяркую, што Яснавяльможны Пан неўзабаве сядзе на троне свайго бацькі.

Мая прамова была ня вельмі ўдалая, але ж я нават ня меў часу яе абдумаць і падрыхтаваць. Матэвуш,ператвораны ў чалавека, паважна выслухаў мае словы, а потым раптам расьсьмяяўся ад усяго сэрца, пагладзіў мяне і сказаў:

– Любы хлопча! Ніякі я ня прынц. Я проста расказаў табе казку, а ты прыняў яе за праўду. Гісторыю пра караля ваўкоў я прыдумаў.

– Ну а прынц? А доктар Пай-Хі-Во? – спытаў я са зьдзіўленьнем.

– Казка – яна заўсёды толькі казка, хлопча, – сказаў ён з усьмешкай.

– Дык хто ты, Матэвуш? Што гэта ўсё значыць?! – закрычаў я, ужо зусім разгублены.

– Я – аўтар гісторыі пра доктара Клякса, – адказаў сіваваты мужчына з носам, як у шпака. – Я напісаў гэты аповед, бо вельмі люблю фантастычныя гісторыі і, пішучы іх, сам цудоўна баўлюся.

З гэтымі словамі ён узяў са стала кнігу, загарнуў яе і паставіў у бібліятэку побач зь іншымі кнігамі.

На карэньчыку гэтай кнігі віднеўся надпіс:

**АКАДЭМІЯ ДОКТАРА КЛЯКСА**

*Пераклала з польскай Алена Пятровіч*

# Хорхэ Люіс Борхэс

## ВЯРТАНЬНЕ

Пасьля гадоў, праведзеных на выгнаньні,
Я вярнуўся ў дом свайго дзяцінства,
І дух яго ўсё яшчэ мне чужы.
Рукі мае дакраналіся да дрэваў,
Быццам ласкалі ў сьне каханых,
І я праходзіў ранейшымі сьцежкамі,
Нібы ўспамінаў забытыя вершы,
І ўбачыў, калі навокал разьліўся вечар,
Як танюткі маладзік
Схаваўся ва ўтульным цені пальмы,
У ейным узьнятым высока лісьці,
Як птушка ў гнязьдзе.
Якое мноства нябеснай прасторы
Зможа ўтрымаць паміж сьценамі дворык,
Колькі разоў бясстрашны вецер
Будзе змагацца ў глыбі вуліцаў,
Колькі разоў крохкі малады месяц
Напоўніць сад сваёю пяшчотай,
Покуль я змагу пазнаць нанова свой дом,
Покуль ён стане мне звыклым?!

# РАЗЬВІТАНЬНЕ

Паміж маім каханьнем і мною павінны падняцца
Тры сотні начэй, як тры сотні каменных муроў.
І мора намоваю чараўніка паміж намі.
Ня будзе нічога, толькі ўспаміны.
Ах, вечары, ацэненыя ў смутку,
Ночы, поўныя надзеі цябе ўбачыць,
Прасторы майго шляху, небасхіл,
Якія бачу і ўжо губляю...
Непахісная, мармуровая
Твая адсутнасьць напоўніць сумам вечары.

# АДСУТНАСЬЦЬ

Мушу раскатурхваць разьлеглае жыцьцё,
Якое нават цяпер — тваё адлюстраваньне.
Шторанку мушу зноў яго складаць.
Пасьля таго, як ты зьнікла,
Колькі месцаў зноўку спусьцела,
Згубіла сэнс, спрасьцела,
Як дзённае сьвятло.

Вечары — паглыбленьне ў тваім вобразе,
Музыка — твая вечная пастка на мяне,
Усе тыя словы
Мушу рваць на шматкі.

У якой прорве схаваю душу,
Каб ня бачыла тваёй адсутнасьці,
Што жудасным палярным сонцам
Паліць бясконца й неміласэрна?

Твая адсутнасьць
Як вяроўка на горле,
Мора, у якім тонуць.

# ЗГРЫЗОТЫ З НАГОДЫ СЬМЕРЦІ

Вольны ад памяці і надзеі,
Бязьмежны, абстрактны, амаль будучы,
Памерлы – гэта ня проста памерлы, гэта сьмерць.

Як Бог містыкаў, ад Якога
Мусяць адмовіцца тыя, каму было адкрыта,
Памерлы паўсюдна чужы,
Ён толькі згуба ды непрысутнасьць сьвету.

Мы ўсё ў яго крадзем,
Не пакідаючы нават колеру ані гуку:
Вось двор, якога вочы ягоныя ўжо ня бачаць,
Вось ходнік, дзе ён сачыў ход сваіх спадзеваў.

І нават нашыя думкі мог бы думаць
І ён;
Як злодзеі, мы між сабой падзялілі
Багацьце начэй і дзён.

# УСЁ МАЁ ЖЫЦЬЦЁ

Я зноўку тут, незабыўныя вусны, адзіны і
Падобны да вас.
Я – тая марудная моца, якою Ёсьць душа.
Я дамогся набліжэньня шчасьця і
Пазбаўленьня цяжару.

Я пераправіўся праз мора.
Я зьведаў многія землі. Я бачыў жанчыну
І двух альбо трох мужчынаў.
Я кахаў дзяўчыну, фанабэрыстую і бледную, і
Па-гішпанску ціхмяную.

Я бачыў бясконцыя ўскраіны, дзе зьдзяйсьняецца
Неспатольная несьмяротнасьць заходніх вятроў.
Я смакаваў з асалодаю шматлікія словы.
Я глыбока веру, што гэта ўсё, і што больш ні ўбачу,
Ні зьдзейсьню нічога новага.

Думаю, мае будзённыя дні і ночы такія ж
Убогія і багатыя, як у Бога
І ва ўсіх людзей.

## ХТОСЬЦІ

Чалавек, спрацаваны часам,
Чалавек, што зусім не чакае сьмерці
(Выпадкі сьмерці — статыстычная велічыня,
І кожны мае шанец
Стаць першым несьмяротным),
Чалавек, што навучыўся дзякаваць
Сьціплай міласьціне дзён:
Сон, завядзёнка, смак вады,
Раптоўная этымалёгія,
Верш на лаціне ці англа-саксонскай,
Памяць пра жанчыну, што пакінула
Столькі год таму,
І сёньня можна ўспомніць яе бяз горычы,
Чалавек, што не ўнікае свайго цяпер,
Якое ўжо будучыня і забыцьцё,
Чалавек, які быў няшчырым
І да якога былі няшчырымі,
Можа раптам адчуць, пераходзячы вуліцу,
Таямнічую радасьць,
Што прыходзіць ня з боку надзеі,
Але з колішняга прастадушша,
З уласнага кораня ці расьцярушанага ідэалу, —

Ведае, што не павінен глядзець на яе зблізу,
Бо існуюць прычыны крыважэрнейшыя за тыграў,
Якія зробяць яго нешчасьлівым,
Але ж прыніжана прымае
Гэтае шчасьце, гэты сполах.

Магчыма, па сьмерці,
Калі прах стане прахам,
Мы зробімся назаўсёды
Тым таямнічым зернем,
Зь якога прарасьце навечна,
Спакойна або нясьцерпна,
Наша самотнае неба ці наша пекла.

## КОМПАС

Існае – словы таемнае мовы,
Ёй Невядомы ад ранку да ночы
Піша лухту, неразборлівы почырк –
Гэта гісторыя сьвету, і знову

Ў вэрхале Рым з Карфагенам, і мука
Быць выпадковасьцю, шыфрам, загадкай,
Быць Бабілёнскаю спрэчкай і звадкай, –
Незразумелая лёсу навука.

Ёсьць неназванае па-за найменьнем,
Сёньня я чуў, як яно задрыжэла
Ў тонкай іголцы, бліскучай і лёгкай,

Накіраванай у мора, ў памкненьні
Стацца гадзіньнікам, сьнёным у сьненьні,
Птушкі абуджанай шпаркім узьлётам.

## ПАД ПАГРОЗАЙ

Гэта каханьне. Хутчэй схавацца альбо сысьці.
Растуць сьцены тваёй турмы, як у жудасным сьне.
Прыгожая маска зьмянілася, але, як заўсёды,
іншай няма. Дзеля чаго мне мае абярэгі:
гульня літарамі, цьмяныя веды, завучваньне
словаў, якімі няветлая Поўнач апявала свае
мячы і глыбіні мора, пяшчота сяброўства, галерэі
Бібліятэкі, штодзённыя рэчы, звычкі, юнацкае
каханьне матулі, вайсковы цень маіх мёртвых,
бясконцая ноч, смак мрояў?
Быць з табою альбо безь цябе – вось мера майго часу.
Ужо трэснуў гарлач над крыніцай, ужо чалавек
разбуджаны крыкам птушыным, цені ляглі на тых,
што глядзяць у вокны, але цень не прынёс супакою.
Гэта каханьне, я ведаю: трывожна і лёгка чуць твой голас,
чакаць і памятаць, страшна баяцца жыць далей.
Гэта каханьне з ахапкам мітаў, са сваім пустым чараўніцтвам.
Ёсьць кут, абмінуць які мне ніколі ня хопіць адвагі.
Да мяне набліжаюцца шэрагі войска.
(Гэты пакой несапраўдны, я ня бачыў яго).
Імя жанчыны мне здраджвае.
Жанчына баліць мне ва ўсім целе.

## СЬЛЯПЫ

Ня ведаю, чый твар у мой глядзіцца,
Калі я сам гляджуся ў твар люстэрка;
Адбітак – мроя, растае і меркне,
Лавіць яго – як пасьля бойкі біцца.

Павольна ў цемры мацаю рукою
Абрыс нябачных рысаў. І ў палоне
Я сьню, як валасы твае ў далоні
Цяклі калісьці залатой ракою.

Ўсё цьверджу, што адзінае, што страціў, –
Нявартая паверхня, тонкі кужаль.
Як Мілтан, што ў такую ж пастку трапіў.
А ў думках зноўку літары і ружы.

І марна – марыць, што люстэрка тое
Вачам адкрые таямніцу: хто я.

## СУЎДЗЕЛЬНІК

Мяне ўкрыжоўваюць – я мушу стаць цьвікамі і крыжам.
Мне працягваюць келіх – я мушу стаць цыкутай.

Мяне падманваюць – я мушу стаць маною.
Мяне падпальваюць – я мушу стаць пеклам.

Мушу ўзносіць хвалу і падзяку кожнай хвіліне.
Мой пасілак – гэта ўсё, што навокал.

Ціск цяжкога сусьвету, зьнявагі, трыюмфы.
Мушу сказаць, што мяне раніць.

Няважна – шчасьлівы ці нешчасьлівы.
Я – паэт.

*Пераклала з гішпанскай Юлія Шадзько*

# Герман Гесэ

## ПЕРАЎТВАРЭНЬНІ ПІКТАРА

Піктар увайшоў у Рай і апынуўся перад дрэвам, якое было адначасова Мужчынам і Жанчынай. Ён з пашанай павітаў дрэва і запытаўся: «Ты – Дрэва Жыцьця?» Аднак калі замест Дрэва захацела адказаць зьмяя, Піктар павярнуўся і пайшоў далей. Ён глядзеў на ўсе вочы, усё так падабалася яму. Чуцьцё падказвала, што ён апынуўся на Радзіме, каля Крыніцы Жыцьця.

І зноў убачыў ён дрэва, якое было адначасова Сонцам і Месяцам.

Піктар сказаў: «Ты – Дрэва Жыцьця?»

Сонца кіўнула і засьмяялася, Месяц кіўнуў і заўсьміхаўся.

Найдзівосьнейшыя кветкі пазіралі на яго, зьзялі самымі рознымі фарбамі, мелі самыя розныя вочы і твары. Адны ківалі і сьмяяліся, другія ківалі і ўсьміхаліся, іншыя не ківалі і не ўсьміхаліся: яны захмялела маўчалі, у саміх сабе патаналі, уласным водарам сябе ап'янялі. Адна сьпявала лілёвую песьню, другая сьпявала цёмна-сінюю калыханку. У адной з кветак былі вялікія блакітныя вочы, а іншая нагадвала яму пра першае каханьне. Тая пахла садам дзяцінства, яе салодкі водар гучаў, нібы голас маці. Адна кветка засьмяялася і ўкалола яго чырвоным выгнутым языком. Ён лізнуў гэтую кветку і адчуў моцны і дзікі смак, смак смалы і мёду, а яшчэ – жаночага пацалунку.

Сярод усіх гэтых кветак стаяў Піктар, поўны тугі і трывожнай радасьці. Яго сэрца, бы звон, білася моцна, білася гучна, яно гарэла патаемным, дзівосным прадчуваньнем зьдзяйсьненьня сваёй шчымлівай прагі.

Вось Піктар убачыў – птушка сядзіць, у зялёнай траве сядзіць і пёрайкамі блішчыць, усімі фарбамі, здавалася, прыгожая птушка іскрыць. Ён прыгожую яркую птушку спытаў: «О птушка, дзе ж яно, шчасьце?» – «Шчасьце, – сказала прыгожая птушка і засьмяялася, – шчасьце ёсьць паўсюль, мой дружа: у гарах і ў лузе, у камені і ў ружы».

Прамовіўшы гэта, радасная птушка распушыла пёрайкі, шыяй павярнула, хвосьцікам кіўнула, вокам міргнула, засьмяялася зноў і замерла нерухомая, ціха сядзела ў траве, аж глянь: птушка стала яркай кветкай, крылы – лісьцем, кіпцюркі – шыпамі. У фарбаў пераліве, у танцы імклівым стала расьлінай. Зьдзіўлена пазіраў Піктар.

І адразу ж птушка-кветка заварушыла пялёсткамі, здаволіўшыся ўжо вобразам кветкі, шыпы зьніклі, яна лёгка ўзьнялася, павольна ўгору ўзьвілася і стала бліскучым матыльком, што трапятаў у паветры, бязважкі, імклівы, з абліччам шчасьлівым.

Аднак новы матылёк, радасны, яркі птушка-кветка-матылёк, што сьветла іскрыўся і лётаў вакол зьдзіўленага Піктара, бліснуў на сонцы, мякка, нібы сьняжынка, апусьціўся на зямлю, сеў каля Піктаравых ног, пяшчотна ўздыхнуў, узмахнуў аксамітнымі крылцамі і ператварыўся ў рознакаляровы каштоўны камень, з кантаў якога выпраменьвалася чырвонае сьвятло. Чароўна сьвяціўся зь зялёнай травы, сьветла, як сьвяточны звон, чырвоны каштоўны камень. Аднак яго радзіма, зямныя нетры, клікала яго, ён хутка зьмяншаўся і вось-вось мог зусім зьнікнуць.

І Піктар, натхнёны невядомай сілай, схапіў таямнічы каменьчык, паднёс да вачэй, з захапленьнем узіраючыся ў яго магічнае сьвятло, якое выпраменьвала проста ў сэрца абяцаньне ўсіх асалодаў і радасьцяў.

Раптам галінку сухога дрэва абвіла зьмяя і прашыпела яму на вуха: «Каменьчык ператворыць цябе ў што пажадаеш. Хутчэй скажы яму, чаго ты хочаш, пакуль ня позна!» Піктар, спалохаўшыся, што згубіць сваё шчасьце, хутка вымавіў патрэбныя словы і ператварыўся ў дрэва. Раней час ад часу ён хацеў стаць дрэвам, бо дрэвы падаваліся яму поўнымі спакою, сілы і велічы.

Піктар стаў дрэвам. Ён урос каранямі ў глебу, вершалінай цягнуўся ў неба, зь яго цела вырасьлі лісьце і галіны. Ён быў вельмі шчасьлівы. Усмоктваўся прагнымі каранямі ў халаднаватыя зямныя нетры і шумеў лістотай у высокім блакіце. У яго кары пасяліліся жукі, каля падножжа жылі заяц і вожык, у галінах – птушкі.

Дрэва Піктар быў задаволены і не лічыў, колькі мінула гадоў. Сплыло вельмі шмат часу, перш чым ён здагадаўся, што ягонае шчасьце няпоўнае. Ён павольна вучыўся глядзець вачыма дрэва, а калі нарэшце змог бачыць, вельмі засмуціўся.

Ён убачыў, што ўсе райскія істоты вельмі хутка пераўтвараліся, гэта была адзіная чарадзейная плынь Вечнага Пераўтварэньня. Кветка рабілася пэрлінай, а затым узьлятала іскрыстай птушкай. Вось каля Піктара адно з дрэваў раптоўна зьнікла: расьцяклося празрыстай крыніцай, затым кракадзілам паплыло ў вадзіцы, імкнула свабодна й бясконца да сьветлага сонца, да новых ведаў радаснай рыбкай сплывала, у кожнай форме новую гульню пачынала. Сланы апраналі сукенкі камянёў, жырафы набывалі абліччы кветак.

Але ён сам, дрэва Піктар, заўсёды заставаўся тым самым, ня меў здольнасьці пераўтварацца. Ад гэтага ўсьведамленьня ён згубіў сваё шчасьце і пачаў старэць, ягоная постаць набыла той стомлены, сур’ёзны і пануры выгляд, які можна бачыць у многіх старых дрэваў. Зрэшты, тое самае адбываецца з канём, птушкай, чалавекам ды ўсімі іншымі істотамі, калі яны не валодаюць дарам пераўтварэньня: час асуджае іх на самоту і заняпад, разбурае іхную прыгажосьць.

Ды аднойчы ў Рай забегла маладая дзяўчына, сьветлавалосая, у блакітнай сукенцы. Сьпяваючы і танцуючы, прабягала прыгажуня пад дрэвамі. Яна зусім яшчэ ня думала пра тое, каб авалодаць дарам пераўтварэньня.

Разумныя малпачкі ўсьміхаліся ёй наўздагон, кусты пяшчотна краналі яе сваімі вусікамі, дрэвы кідалі ёй кветкі, арэхі, яблыкі, але яна нічога гэтага не заўважала.

Калі дрэва Піктар убачыў дзяўчыну, яго ахапіла такая туга, такая прага шчасьця, якой ён яшчэ ніколі не адчуваў. І разам з тым глыбокі роздум напоўніў яго, нібыта сама кроў клікала: «Адумайся! Згадай у гэтую хвіліну сваё жыцьцё, адшукай сэнс, інакш будзе занадта позна, і да цябе ніколі ўжо ня прыйдзе шчасьце». І ён пачуў. Ён успомніў сваё паходжаньне, свае чалавечыя гады, прыход у Рай і асабліва тое імгненьне, калі трымаў у руках чарадзейны камень. У той час было магчымым любое пераўтварэньне, жыцьцё тады віравала ў ім, як ніколі! Ён згадаў птушку, што засьмяялася тады, і дрэва з Сонцам і Месяцам; ён пачаў здагадвацца, што ў той момант выпусьціў нешта з-пад увагі, пра нешта забыўся і што парада зьмяі была нядобрай.

Дзяўчына пачула шум у лістоце дрэва Піктара, паглядзела на яго, натхнёная раптоўным памкненьнем сэрца; новыя думкі, новыя жаданьні, новыя мары заварушыліся ў яе душы. Прыцягнутая невядомай сілай, яна спынілася пад дрэвам. Такім самотным падалося яно ёй, самотным і сумным, але прыгожым, мілым і высакародным у сваёй маўклівай тузе; чароўна гучала ёй песьня ціхага шэпту вершаліны. Яна прытулілася да шурпатага камля, адчула, як глыбока ўздыхнула дрэва, і той самы ўздых адчула ва ўласным сэрцы. Надзвычай балюча білася сэрца, на неба яе душы набеглі хмары, павольна пацяклі з вачэй цяжкія сьлёзы. Што гэта? Чаму трэба так пакутаваць? Чаму так прагне сэрца выскачыць з грудзей і зьліцца зь ім, увайсьці ў яго, у гэтага прыўкраснага самотніка?

Дрэва ціха задрыжала ад самых каранёў, ахопленае раптоўнай прагай адзінства, сабрала разам усе свае жыцьцёвыя сілы і памкнула іх насустрач дзяўчыне. Ах, зьмяя падманула яго, ён назаўжды асуджаны заставацца дрэ-

вам! О, якім сьляпым, якім легкадумным ён быў! Няўжо ён нічога ня ведаў, няўжо настолькі чужой была яму таямніца жыцьця? Не, ужо тады ён нешта цьмяна адчуваў і прадбачаў, – ах! з тугою і глыбокім разуменьнем успомніў ён цяпер дрэва, якое складалася з Мужчыны і Жанчыны!

Вось птушка прыляцела, птушка зялёна-чырвоная, сьмелая і чароўная прыляцела, і Піктар замёр зьнямела. Дзяўчына бачыла, як яна ляцела, як выпусьціла нешта зь дзюбы, тое нешта сьвяціла, бы кроў, бы пякучы агонь, упала ў зялёныя травы, з тых траваў так вабна гукала, так клікала чырваньню промняў, што дзяўчына нахілілася і схапіла чырвань. Гэта быў каштоўны камень, гранат, і цемры не магло быць там, дзе ён зьяўляўся.

Ледзь пасьпела дзяўчына ўзяць камень сваімі белымі рукамі, як адразу ж зьдзейсьнілася жаданьне, што перапаўняла яе сэрца. Прыгажуня пахіснулася, ўпала ўніз і стала з дрэвам адзіным цэлым, выцягнулася зь яго камля новай моцнай галінкай, імкліва падалася ўвысь.

І вось усё было добра, сьвет упарадкаваўся, нарэшце быў знойдзены Рай. Піктар ня быў больш старым панурым дрэвам, ён гучна сьпяваў: «Пікторыя! Вікторыя!»

Ён перарадзіўся. І таму, што гэтым разам ён авалодаў правільным, вечным пераўтварэньнем, таму, што быў цяпер не паловай, а цэлым, ён увесь час зьмяняўся, колькі хацеў. Назаўсёды цякла ў яго крыві чарадзейная плынь станаўленьня, навечна быў ён часткай няспыннай жыцьцядайнай творчасьці.

Ён быў казуляй, быў рыбай, быў чалавекам і зьмяёй, хмарай і птушкай. Аднак ва ўсіх абліччах быў ён цэлым, парай, меў у сабе Сонца і Месяц, Мужчыну і Жанчыну, цек праз краіны рэкамі-блізьнятамі, паўставаў у небе падвойнай зоркай.

*Пераклала зь нямецкай Натальля Давыдоўская*

# Руал Дал

## СКУРА

У тым годзе — 1946-м — зіма затрымалася надоўга. Нягледзячы на тое, што ішоў красавік, ільдзяны вецер гуляў па вуліцах гораду, а па небе паўзьлі сьнежныя хмары. Стары, якога звалі Дрыялі, шорхаў па тратуары вуліцы Рывал*і*. Зьмерзлы і бездапаможны, ён, як вожык, хаваў нос у заношанае чорнае паліто, па-над узьнятым каўнерам былі бачныя толькі вочы і макаўка.

Адчыніліся дзьверы *кафэ*, і запахла смажанай курыцай — страўнік адгукнуўся на гэта балючым спазмам. Стары пайшоў далей, безь цікавасьці сузіраючы тавары на вітрынах: парфума, ядвабныя гальштукі і кашулі, брыльянты, парцалянавыя сэрвізы, антыкварная мэбля, кнігі ў выдатна аздобленых вокладках... А вось мастацкая галерэя. Яму заўжды падабаліся мастацкія галерэі. Тут, на вітрыне, было выстаўлена толькі адно палатно. Ён спыніўся паглядзець. Ужо быў павярнуўся, каб ісьці далей. Але затрымаўся, зірнуў назад; і неспадзявана адчуў лёгкае хваляваньне, штосьці варухнулася ў памяці, цьмяная згадка пра нешта, падалося, што недзе некалі ён гэта ўжо бачыў. Ён паглядзеў ізноў. Гэта быў пэйзаж: купка дрэваў звар'яцела хілілася ў адзін бок, нібыта ад жахлівага ветру, вакол крывілася і круцілася неба. Да рамы была прышпіленая картка з подпісам: «Хаім Суцін (1894—1943)».

Дрыялі разгублена ўзіраўся ў карціну, не разумеючы, што менавіта падавалася ў ёй знаёмым.

«Нібыта вар'ят маляваў, — падумаў ён, — па-дзівацку неяк, але мне падабаецца... Хаім Суцін... Суцін...

Гэта ж калмык, дальбог! — выкрыкнуў ён раптоўна, — Вось хто гэта! Карціна калмычка выстаўляецца ў найлепшай краме Парыжа! Падумаць толькі!»

Стары шчыльней прыціснуўся тварам да вітрыны. Ён памятаў хлопца. Так, памятаў даволі добра. Але калі яны маглі сутыкацца? З падрабязнасьцямі было цяжэй. Даўнавата гэта было. Наколькі даўно? Дваццаць? Ды не, болей, недзе трыццаць гадоў таму... Чакайце хвілінку. Так — гэта было за год да вайны, Першай сусьветнай, у 1913-м годзе. Дакладна. А гэты Суцін, гэты нязграбны калмычок, замкнёны, задумлівы хлопец, які яму падабаўся,

якога ён нават амаль любіў праз тое – іншай прычыны ён ня бачыў,– што юнак умеў маляваць.

Як ён умеў маляваць! Цяпер з большай пяшчотай згадалася тая вуліца, кантэйнэры для сьмецьця ўздоўж яе, гнілы пах, рудыя каты, што далікатна хадзілі па сьметніцах, а яшчэ цёткі, узмоклыя тоўстыя бабы, што сядзелі на прыступках каля дзьвярэй, паклаўшы ногі на брукаваную дарогу. Дзе жыў той хлопец? Што гэта была за вуліца?

Сітэ Фальг'ер – яна самая! Стары некалькі разоў згодна кіўнуў, задаволены, што згадаў назву. У тыя часы там месьцілася майстэрня, дзе было толькі адно крэсла і брудная чырвоная канапа, на якой хлопец спаў; п'яныя вечарыны, таннае белае віно, гарачыя спрэчкі і заўсёды, заўсёды надзвычай пануры твар хлопца, уперaны ў працу.

«Дзіўна, – падумаў Дрыялі. – Як лёгка ўсё ўспомнілася, як кожная згаданая дэталь адразу ж пацягнула за сабой іншы ўспамін».

Недарэчнасьць з татуяванкай, напрыклад. Ну і дурасьць яны тады зрабілі! З чаго ж усё пачалося? О так, аднойчы ён разбагацеў, дакладна, і купіў шмат віна. (Як цяпер памятае, увайшоў у майстэрню з пакункам бутэлек пад пахай. Хлопец сядзеў побач з мальбэртам, а ягоная (Дрыялі) жонка стаяла пасярэдзіне пакоя – пазіравала для партрэта.

– Сёньня мы будзем сьвяткаваць, – сказаў ён. – Маленькае сьвята для нас траіх.

– Сьвята ў гонар чаго? – запытаўся хлопец, нават ня ўзьняўшы вачэй. – Вырашыў разьвесьціся з жонкай, каб яна магла выйсьці за мяне?

– Не, – адказаў Дрыялі. – Сёньня мы сьвяткуем, бо мая праца прынесла мне вялікія грошы.

– А мая не прынесла ніколькі. Таксама можам адзначыць.

– Як скажаш.

Дрыялі стаяў ля стала, разгортваючы пакунак. Ён стаміўся і хацеў дабрацца да віна. Дзевяць кліентаў за адзін дзень – гэта, вядома, добра, але для вачэй пякельнае выпрабаваньне. Ніколі раней ён не рабіў дзевяць. Дзевяць п'яных салдафонаў, і, што незвычайна, ня менш за сем зь іх змаглі заплаціць гатоўкай. Гэта зрабіла яго надзвычай багатым. Але на вачах праца адбілася жахліва. Вочы Дрыялі былі прыплюшчаныя ад стомы, на паверхні бялкоў праступіла чырвоная сетка. Прыкладна на цалю за кожным вочным яблыкам было па кропцы, дзе канцэнтраваўся боль. Але цяпер быў вечар, і ён быў багаты, што кажух валахаты, а ў пакунку – тры бутэлькі: адна – для жонкі, другая – для сябра, трэцяя – для сябе. Ён знайшоў каркоўнік

і павыцягваў коркі з бутэлек, кожная зь іх зрабіла маленькі «хлоп», калі пакідала рыльца.

Хлопец адклаў пэндзаль убок.

— Божухна! — сказаў ён, — Як можна працаваць у такіх умовах?

Дзяўчына падышла паглядзець на малюнак. Дрыялі — таксама, у адной руцэ трымаючы бутэльку, у другой — шклянку.

— Не! — закрычаў хлопец, раптоўна прыйшоўшы ў лютасьць. — Нельга!

Ён сарваў палатно з мальбэрта і павярнуў да сьцяны. Але Дрыялі пасьпеў яго ўбачыць.

— Мне падабаецца.

— Гэта пачварна.

— Чароўна. Як і астатнія твае працы. Проста чароўныя. Я ў захапленьні ад усіх.

— Праблема ў тым, — нахмурыўся хлопец, — што імі нельга харчавацца, для страўніка ніякай карысьці.

— У любым выпадку яны чароўныя.

Дрыялі працягнуў яму шклянку, поўную сьветла-бурштынавага віна.

— Выпі, гэта зробіць цябе шчасьлівым.

«Ніколі, —падумаў ён, — я не сустракаў чалавека больш няшчаснага і твара больш змрочнага».

Сем месяцаў таму ён зьвярнуў на яго ўвагу ў кавярні, бо хлопец піў у самоце і выглядаў, як рускі ці нейкі азіят. Дрыялі падсеў за ягоны столік і загаварыў.

— Ты рускі?

— Так.

— Адкуль будзеш?

— Менск.

Дрыялі падскочыў, каб абняць яго і закрычаў, што таксама нарадзіўся ў гэтым горадзе.

— Дакладней не зусім Менск, — дадаў хлопец, — але даволі блізка.

— Адкуль?

— Сьмілавічы, гэта ў васямнаццаці вярстах.

— Сьмілавічы! — крыкнуў Дрыялі, абдымаючы яго зноў. — Калі я быў маленькі, быў там пару разоў!

Ён прысеў, з замілаваньнем разглядаючы твар новага знаёмца. «З выгляду ты не падобны да заходняга расейца. Хутчэй татарын ці калмык. Выкапаны калмык».

Цяпер у майстэрні Дрыялі зноў разглядаў хлопца: той узьняў шклянку і, перакуліўшы, уліў яе зьмесьціва сабе ў горла. Так, у яго сапраўды быў калмыцкі твар, вельмі шырокі, з высокімі скуламі і буйным пляскатым носам. Адтапыраныя вушы рабілі твар яшчэ больш шырокім. Да таго ж у яго былі вузкія вочы, чорныя валасы, тоўстыя, незадаволена выгнутыя калмыцкія вусны, але вось рукі... Рукі кожны раз зьдзіўлялі, такія мініятурныя і белыя, як у паненкі, з маленькімі тонкімі пальцамі.

— Налі мне яшчэ, — папрасіў хлопец. — Калі ўжо мы сьвяткуем, дык давай зробім гэта як мае быць.

Дрыялі разьліў віно па шклянках і сеў на крэсла. Хлопец — на старую канапу побач з жонкай Дрыялі. Бутэлькі паставілі паміж імі на падлогу.

— Сёньня будзем піць, пакуль ня лопнем, — сказаў Дрыялі. — Я жахліва багаты. Думаю, можа, мне варта пайсьці і набыць яшчэ колькі бутэлек. Толькі ня ведаю, колькі.

— Бяры шэсьць, — параіў хлопец. — Дзьве на кожнага.

— Добра, зараз вазьму.

— Я табе дапамагу.

У найбліжэйшым бары Дрыялі купіў шэсьць бутэлек белага віна і прынёс у майстэрню. Паставілі іх на падлогу ў два шэрагі, Дрыялі выцягнуў каркоўнік і адкаркаваў усе шэсьць. Яны селі зноў і працягнулі піць.

— Толькі вельмі заможныя людзі, — заўважыў Дрыялі, — могуць дазволіць сабе сьвяткаваць гэтак па-багатаму!

— Так і ёсьць, — падтрымаў хлопец. — Ты згодная, Жазі?

— Вядома.

— Жазі, ты як?

— Нармальна.

— Пойдзеш ад Дрыялі, каб ажаніцца са мной?

— Не.

— Цудоўнае віно, — адзначыў Дрыялі, — добра п’ецца.

Паступова і мэтадычна яны пачалі надзірацца. Справа была знаёмая, але ўсё адно трэба было трымацца пэўнай цырымоніі, каб адчувалася ўрачыстасьць хвіліны, шматкроць казаць усялякае рознае, адпаведнае моманту. І віно трэба было пахваліць, і павольнасьць яго ўжываньня была істотная, бо тады можна было насаладзіцца трыма найдалікатнейшымі момантамі пераходу з аднаго стану ў іншы. Для Дрыялі асабліва важным быў той, калі ён пачынаў «плысьці», а ногі рабіліся чужымі. Гэта была найпрыемнейшая стадыя: ён глядзеў на ногі і адчуваў, што яны далёка-далёка, і было

дзіўна, што гэтыя ногі могуць належаць камусьці, і незразумела, чаму яны ляжаць там, на падлозе.

Праз пэўны час ён узьняўся, каб умыкнуць сьвятло. Было дзіўна бачыць, што ногі пайшлі разам зь ім, асабліва таму, што ён не адчуваў, як яны дакранаюцца да падлогі. Гэта выклікала прыемнае пачуцьцё лунаньня ў паветры. Потым ён пачаў хадзіць па пакоі, цішком кідаючы позіркі на карціны, прыстаўленыя да сьцен.

– Паслухай, – сказаў ён пасьля доўгай паўзы. – Я сёе-тое прыдумаў.

Дрыялі прайшоў праз пакой да канапы і стаяў, зьлёгку пахістваючыся.

– П-паслухай, мой калмычок.

– Ну, што?

– Я прыдумаў геніяльную рэч. Ты слухаеш увогуле?

– Я слухаю Жазі.

– Ты мяне паслухай, калі ласка. Ты мой сябар, мой брыдкі калмычок зь Менску, і ты для мяне такі мастак, што я хацеў бы мець тваю карціну, прыгожую карціну...

– Бяры ўсе. Усе што знойдзеш, толькі не перашкаджай мне размаўляць з тваёй жонкай.

– Ды не, не, ты толькі паслухай. Я маю на ўвазе карціну, якая б засталася са мной назаўжды... Куды б я ні пайшоў... што б ні здарылася... заўсёды са мной... карціна, намаляваная табой.

Ён падышоў бліжэй і патрос хлопца за калена. «Ну, паслухай мяне, калі ласка».

– Выслухай яго, – сказала дзяўчына.

– Вось што. Намалюй карціну на маёй скуры, на сьпіне. А паверх таго, што намалюеш, зрабі татуаж, каб яна засталася там назаўжды.

– Ты ашалеў.

– Я пакажу табе, як рабіць тату. Гэта лёгка. Нават дзіця зможа.

– Я не дзіця.

– Ну калі ласка.

– Ты вар’ят. Што ты ад мяне хочаш? – Мастак паглядзеў у п’яныя, цёмныя, бліскучыя ад віна вочы суразмоўцы. – Што, напраміласьць бог, табе трэба?

– Ты б лёгка мог гэта зрабіць! Мог бы!

– Татуяванку маеш на ўвазе?

– Так, татуяванку! За дзьве хвіліны цябе навучу!

– Немагчыма!

– Па-твойму я ня ведаю, пра што кажу?

Не, хлопец ніяк ня мог так лічыць, бо калі і быў хтосьці, дасьведчаны ў тату, то гэта быў ён, Дрыялі. Ці гэта ня ён месяц таму накалоў аднаму дзядзьку на ўвесь жывот цудоўную, выкшталцоную кампазыцыю, якая цалкам складалася з кветак? А як наконт таго кліента з валасатымі грудзьмі, на якіх Дрыялі зрабіў выяву грызьлі такім чынам, што валосьсе на грудзях падавалася футрам мядзьведзя? Ён быў здольны намаляваць жаночы партрэт і зьмясьціць яго на руцэ кліента так спрытна, што калі той згінаў яе і напружваў біцэпс, паненка ажывала і рабіла ашаламляльныя рухі целам.

– Я проста думаю, – сказаў хлопец, – што ты п’яны і ідэі ў цябе такія самыя.

– Жазі магла б папазіраваць, а ты б яе намаляваў на маёй сьпіне. Я што, ня маю права мець партрэт жонкі на сьпіне?

– Жазі?

– Але, – Дрыялі ведаў, што варта яму ўзгадаць жонку, як цёмныя вусны хлопца перастануць быць такімі суровымі, і ён завагаецца.

– Не, – сказала дзяўчына.

– Жазі, мілая, калі ласка. Дапі гэтую бутэльку – і ты палагаднееш. Ідэя проста супэр, ніколі ў жыцьці мне не прыходзіла ў галаву нічога лепшага!

– Якая ідэя?

– Каб ён намаляваў цябе ў мяне на сьпіне. Няўжо нельга?

– Мяне?

– У аголеным выглядзе, – удакладніў хлопец. – Тады ідэя нішто сабе.

– Толькі ня голай, – не пагадзілася дзяўчына.

– Ідэя супэр, – паўтарыў Дрыялі.

– Ідэя, чорт яе бяры, ідыёцкая, – запярэчыла дзяўчына.

– Так ці інакш, гэта ідэя, – сказаў хлопец. – Ідэя, якая патрабуе, каб яе адзначылі.

Яны расьпілі яшчэ адну бутэльку. Затым хлопец сказаў:

– Нічога не атрымаецца. Я, напэўна, ня здолею зрабіць тату. Лепей проста намалюю гэты партрэт у цябе на сьпіне, і ён будзе з табой, пакуль ты ня прымеш ванну і ня змыеш яго. Калі ты ўвогуле больш ня будзеш мыцца, ён застанецца з табой назаўсёды, да канца тваіх дзён.

– Не, – адказаў Дрыялі.

– Так, і ў той дзень, калі ты вырашыш памыцца, я буду ведаць, што мая карціна табе болей не патрэбная. Пагляджу, наколькі ты цэніш маё мастацтва.

– Мне гэты варыянт не даспадобы, – умяшалася дзяўчына. – Ён у такім захапленьні ад твайго мастацтва, што шмат гадоў ня будзе мыцца. Лепей ужо татуаж, але ня ў голым выглядзе.

– Тады толькі твар, – сказаў Дрыялі.

– У мяне не атрымаецца.

– Гэта надзвычай лёгка. Бяруся навучыць цябе за дзьве хвіліны. Вось паглядзіш. Зараз дастану прылады. Іголкі і атрамант. Там шмат розных колераў. Столькі ж колераў, колькі ў цябе фарбаў, і яны нашмат прыгажэйшыя...

– Немагчыма.

– У мяне шмат атраманту. Жазі, хіба ў мяне няма вялікай колькасьці атраманту розных колераў?

– Ёсьць.

– Вось убачыш, – сказаў Дрыялі. – Зараз прынясу.

Ён узьняўся з крэсла і мэтанакіраванай, хоць і няцьвёрдай, хадой, выйшаў з пакоя.

Праз паўгадзіны Дрыялі вярнуўся, размахваючы карычневай валізай, крыкнуў: «Я ўсё прынёс! Тут, у торбе, усе прылады для тату!»

Ён паставіў валізу на стол, адчыніў і павыцягваў электрычныя іголкі і маленькія бутэлечкі каляровых чарнілаў. Уключыў іголку і націснуў на гузік. Іголка загула, верхняя яе частка стала мягка вібраваць уверх-уніз. Мастак скінуў куртку і закатаў рукаво. «Цяпер сачы за тым, што я буду рабіць, пакажу табе, наколькі гэта проста. Зраблю малюнак на руцэ, вось тут».

Ягонае перадплечча ўжо было прыкрытае блакітнымі значкамі, але ён адшукаў каштоўны лапік чыстай скуры, каб паказаць, як гэта робіцца.

– Перш за ўсе абіраем атрамант, ну, возьмем для прыкладу звычайны блакітны. Апускаем у яго іголку... Так... Далей, трымаючы яе проста, лёгка вядзем па паверхні скуры... Такім чынам... Электрычны матор прымушае іголку рухацца ўверх і ўніз, рабіць праколы ў скуры і ўпырскваць туды чарніла, вось і ўсё. Паглядзі, як лёгка... Зірні, якога сабаку я намаляваў на плячы...

Хлопец быў заінтрыгаваны.

– Давай я паспрабую на тваёй руцэ.

Прыладай, якая гула, як пчала, ён правёў блакітныя лініі на руцэ Дрыялі.

– Гэта проста. Падобна да маляваньня чарнільнай асадкай. Розьніцы аніякай, апроч таго, што гэта марудней.

– Няма тут нічога складанага. Ты гатовы? Можам пачынаць?

– Зараз жа.

– Так, мадэль! – крыкнуў Дрыялі. – Хадзі сюды, Жазі! – Ён нецьвяроза хістаўся па пакоі ў запале, аддаючы распараджэньні, падобны да дзіцяці, якое рыхтуецца да нейкай захапляльнай гульні. – Куды ты хочаш, каб яна стала?

– Няхай становіцца ля туалетнага століка, распусьціць валасы па плячах і возьме грабянец. Намалюю, як яна расчэсвае валасы.

– Грандыёзна, ты геній!

Дзяўчына зь неахвотай прайшла да туалетнага століка, не выпускаючы з рук шклянкі зь віном.

Дрыялі сьцягнуў кашулю і вылез са штаноў. З адзеньня на ім засталіся толькі майткі, шкарпэткі і пантофлі. Ён стаяў, крыху хістаючыся, цела драбнаватае, мускулістае, беласкурае і амаль безвалосае. «Цяпер, – сказаў ён, – я палатно. Куды ты мяне зьмесьціш?»

– Як заўжды, на мальбэрт.

– Ты ў сваім розуме? Я ж палатно!

– Адпаведна запрашаю на мальбэрт, туды, дзе ты і павінен быць.

– Але якім чынам?

– Дык ты палатно ці не?

– Зразумела, палатно. Ужо пачынаю сябе адчуваць цалкам палатном.

– Тады, калі ласка, на мальбэрт. Складанасьцяў тут ня мусіць быць.

– Сур'ёзна, гэта немагчыма.

– Добра, сядай на крэсла, задам наперад. Так ты зможаш пакласьці сваю п'яную галаву на сьпінку. Пасьпяшайся, бо я пачынаю ўжо.

– Я гатовы. Чакаю.

– Спачатку, – сказаў хлопец, – я намалюю звычайную карціну. Потым, калі яна мяне задаволіць, паверх зраблю татуаж. – Шырокім пэндзьлем ён пачаў маляваць на голай скуры.

– Аяй! – закрычаў Дрыялі. – Гіганцкі вусень маршыруе па маёй сьпіне!

– Цішэй! Сядзі ціха! – Хлопец імкліва клаў празрыстыя, каб потым не заміналі рабіць тату, мазкі блакітнай акварэлі. Як толькі ён пачаў маляваць, ягоная засяроджанасьць неяк выцесьніла сабой нецьвярозасьць. Мазкі ён клаў хуткімі ўдарамі пэндзьля, трымаючы запясьце нерухома, і меней чым за паўгадзіны малюнак быў скончаны.

– Вось і ўсё, – сказаў ён дзяўчыне, якая неадкладна вярнулася на канапу, легла і адразу ж заснула.

Дрыялі ня спаў. Назіраў, як хлопец бярэ іголку і акунае яе вастрыё ў атрамант; потым ён адчуваў вострае казытлівае джала на скуры. Боль, непрыем-

ны, але цярпімы, не даваў яму заснуць. Адчуваючы, як хадзіла ігла і назіраючы за колерамі, якія абіраліся, Дрыялі забаўляўся тым, што ўяўляў тое, што адбываецца на ягонай сьпіне. Хлопец працаваў з ашаламляльнай апантанасьцю. Падавалася, ён цалкам захоплены цудоўнай машынкай і тымі чароўнымі адбіткамі, якія яна пакідае.

Іголка гула і не спыняла працу яшчэ доўга пасьля надыходу раніцы. Дрыялі ўзгадаў, што калі хлопец адышоў і прамовіў «гатова», за вокнамі ўжо зусім разьвіднела, і было чуваць, як людзі ішлі на працу.

– Хачу бачыць, што атрымалася. – сказаў Дрыялі. Мастак патрымаў люстэрка пад вуглом, і Дрыялі выгнуў шыю, каб паглядзець.

– Сюр! – выгукнуў ён. Відовішча было дзівоснае. Уся сьпіна, ад верху плячэй да самага нізу зіхацела фарбамі: і залатой, і зялёнай, і блакітнай, і чорнай, і пурпуровай. Татуаж быў накладзены так шчыльна, што выглядаў практычна намаляваным алеем. Хлопец як мага больш дакладна трымаўся лініяў пэндзьля і надзвычай удала пабудаваў кампазыцыю так, что выгін сьпіны і выступ лапатак пайшоў малюнку на карысьць. Да таго ж, пры ўсёй маруднасьці працэсу, ён неяк здолеў дасягнуць непасрэднасьці. Партрэт атрымаўся даволі жывы. Акурат у той самай вывернутай пакутлівай манеры, уласьцівай Суціну. Ня проста партрэт, а хутчэй схоплены настрой: твар мадэлі сумны і п’янаваты, фон віецца вакол галавы вялікай колькасьцю цёмна-зялёных кудзерак.

– Неверагодна!

– Мне і самому падабаецца. – Хлопец адступіў на крок, крытычна сузіраючы малюнак. – Ведаеш, – дадаў ён, – думаю, ён варты таго, каб я паставіў свой подпіс.

Ізноў узяўшы джала, мастак вывеў сваё імя з правага боку, над тым месцам, дзе была нырка Дрыялі.

Стары, якого звалі Дрыялі, стаяў у своеасаблівым стане трансу, утаропіўшыся ў карціну на вітрыне мастацкай галерэі. Усё гэта было так даўно, нібыта адбывалася ў мінулым жыцьці.

А мастак... Што зь ім здарылася? Цяпер Дрыялі здолеў узгадаць, што пасьля таго, як вярнуўся з вайны, Першай сусьветнай, ён сумаваў па хлопцу і пытаўся ў Жазі пра яго:

– Дзе мой калмычок?

– Зьехаў, – адказала яна. – Ня ведаю куды, але чула, што ўладальнік галерэі адправіў яго ў Сэрэ, каб ён маляваў больш.

– Магчыма, ён вернецца.

– Магчыма. Хто ведае?

Гэта быў апошні раз, калі яны згадвалі пра яго ў размове. Хутка пасьля гэтага яны пераехалі ў Гаўр, дзе было больш маракоў, і справы ішлі лепей. Стары ўсьміхнуўся, згадаўшы Гаўр. Гэта былі прыемныя гады, час паміж войнамі. Маленькі салён каля доку, утульныя пакойчыкі і заўжды багата працы: кожны дзень прыходзіла тры-чатыры, а то і пяць маракоў, якія хацелі татуаж на плячы. Сапраўды добрыя часы.

Потым пачалася Другая сусьветная, і забілі Жазі, і прыйшлі немцы, і гэта быў канец для ягонага бізнэсу. Пасьля гэтага ўжо ніхто не хацеў малюнкаў на плячах. А ён на той момант ужо быў занадта стары для якой-небудзь іншай працы. У роспачы ён вярнуўся ў Парыж, спадзеючыся на тое, што ў вялікім горадзе справы пойдуць лепш, але памыліўся.

Цяпер, як вайна скончылася, у яго не засталося ні сіл, ні прыладаў для таго, каб узнавіць свой маленькі бізнэс. Ня так проста старому чалавеку знайсьці выйсьце, асабліва пры ўмове, што прасіць міласьціну яму не даспадобы. Але чым яшчэ можна было жывіцца?

«Добра, – думаў ён, усё яшчэ гледзячы на карціну, – дык гэта мой калмычок. Як хутка адна маленькая рэч можа разварушыць успаміны». Хвіліну таму ён нават ня памятаў, што мае на сьпіне татуаж. З таго часу, як ён пра гэта думаў, мінулі гады. Стары наблізіў твар да вітрыны і зазірнуў у галерэю. На сьценах ён змог убачыць шмат іншых карцін. Выглядала на тое, што ўсе яны – працы аднаго майстра. На іх прыйшло паглядзець шмат людзей. Відавочна гэта была пэрсанальная выстава.

Паддаўшыся раптоўнаму імпульсу, Дрыялі павярнуўся, штурхнуў дзьверы ў галерэю і ўвайшоў.

Гэта быў доўгі пакой з тоўстым дыванам віннага колеру. Божа, які прыгожы і цёплы! І ўсе гэтыя людзі хадзілі і разглядалі карціны, ахайныя і прыстойныя наведвальнікі, кожны трымаў у руцэ каталёг. Дрыялі стаяў проста перад дзьвярыма, нэрвова аглядаючыся, разважаючы, ці хопіць яму адвагі зрабіць яшчэ адзін крок наперад і зьмяшацца з гэтым натоўпам. Але раней, чым наважыўся, ён пачуў голас: «Што вам трэба?»

Дрыялі стаяў нерухома.

– Калі вам ня цяжка, – казаў спадар, – выйдзеце вон з маёй галерэі!

– Мне нельга паглядзець на карціны?

– Я вас папрасіў выйсьці.

Дрыялі стаяў на сваім. Нечакана зьнявага не на жарт яго раззлавала.

– Давайце ня будзем ствараць праблем, – шыпеў спадар. – Калі ласка, на выхад!

Пульхнай белай лапай ён схапіў Дрыялі за руку і настойліва пачаў выпіхваць таго за дзьверы. І тут Дрыялі сарваўся:

– Прыбяры ад мяне рукі! – ягоны голас празьвінеў нават у канцы галерэі, і ўсе наведнікі здрыгануліся як адзін, усе зьбянтэжаныя позіркі былі скіраваныя на крыніцу шуму. І ўжо лёкай бег на дапамогу, і два мужчыны спрабавалі выціснуць Дрыялі за дзьверы. Аматары мастацтва спакойна сузіралі сутычку. На іх тварах відаць была хіба што лёгкая цікавасьць і перакананасьць у тым, што нічога ня здарылася, небясьпекі ніякай няма, усё пад кантролем.

– У мяне таксама! – крыкнуў Дрыялі, – у мяне таксама ёсьць карціна гэтага мастака! Ён быў маім сябрам, і ў мяне ёсьць карціна, якую ён мне падарыў!

– Нейкі вар’ят.

– Псіх, проста трызьніць.

– Хто-небудь, выклічце паліцыю!

Дрыялі раптоўна выкруціўся з рук, якія яго трымалі, і, пакуль яго не пасьпелі схапіць ізноў, іркануўся ўздоўж галерэі з крыкам «Я пакажу вам! Пакажу вам! Пакажу!» Ён садраў зь сябе паліто, потым – камізэльку і кашулю і павярнуўся да людзей так, каб была відаць яго голая сьпіна.

– Вось тут! – выгукнуў ён, часта дыхаючы. – Вы бачыце? Вось яна!

У залі раптоўна запанавала мёртвая цішыня. Шакаваныя людзі нерухома глядзелі на тое, што ён рабіў. Глядзелі на татуаж. Ён усё яшчэ быў там. Колеры не зблялі, але сьпіна старога цяпер была худзейшай, лапаткі вытыркаліся болей, і праз гэта карціна выглядала недарэчна зморшчанай і пакамечанай.

Хтосьці сказаў: «Божа, але ж гэта праўда!»

Усхваляваныя людзі рушылі наперад, каб паглядзець, загаманілі вакол старога.

– Беспамылкова!

– Ягоная раньняя тэхніка, так?

– Ашаламляльна, ашаламляльна!

– Паглядзіце, яна падпісаная!

– Разгарніце плечы, дружа, каб карціна нацягнулася.

– Старая… Калі яна была зробленая?

– У 1913-м, сказаў Дрыялі, не паварочваючыся. Увосень 1913-га.

– Хто навучыў Суціна рабіць тату?

– Я.

– А жанчына хто?

– Мая жонка.

Уладальнік галерэі праціскаўся праз натоўп да Дрыялі. Цяпер ён быў лагодны, надзвычай засяроджаны, на твары – усьмешка.

– Мсьё, – сказаў ён. – Я яе купляю.

Дрыялі мог бачыць, як трэсьліся тлустыя складкі на твары, калі ён адкрываў рот.

– Кажу: «Я купляю яе, мсьё!»

– Як вы можаце яе купіць? – запытаўся Дрыялі ціха.

– Даю за яе дзьвесьце тысячаў франкаў.

Вочы дылера былі маленькімі і цёмнымі, ноздры пачалі разьдзьмувацца.

– Не рабіце гэтага! – выгукнуў хтосьці з натоўпу. – Яна ў дваццаць разоў даражэйшая!

– Дрыялі адкрыў рот, каб штосьці сказаць, але паколькі словаў не знайшоў, закрыў яго. Потым ізноў адкрыў і марудна вымавіў: «Але якім чынам я магу яе прадаць?» Стары разьвёў рукамі. «Мсьё, якім чынам я магу яе прадаць?» У ягоным голасе адчувалася сусьветная туга.

– Вось-вось! – зашумелі ў натоўпе, – як ён яе прадасьць? Гэта ж частка яго самога!»

– Паслухайце, – сказаў дылер, наблізіўшыся. – Я вам дапамагу, зраблю вас багатым. Наконт карціны мы з вамі зможам дамовіцца ў прыватным парадку, так ці не?

Дрыялі разгублена глядзеў на яго спалоханымі вачыма.

– Але як вы яе купіце, мсьё? Што вы зробіце зь ёй, калі купіце? Дзе будзеце захоўваць? Дзе будзеце трымаць сёньня? А дзе заўтра?

«О, дзе я буду яе трымаць? Так, дзе буду трымаць? Цяпер дзе буду трымаць? Ну, цяпер... – дылер пастукаў сябе па пераносьсі тоўстым белым пальцам. – Падобна да таго, – сказаў ён, – што калі я набываю карціну, то набываю і вас таксама. Гэта некаторым чынам не зусім зручна.– Ён зрабіў паўзу і зноў пастукаў сябе па носе. Сама па сабе карціна ня вартая нічога, пакуль вы не памерлі. Колькі вам гадоў, дружа?»

– Шэсьцьдзесят адзін

– Але здароўе, відаць, ня самае добрае?

Дылер адпусьціў свой нос і агледзеў Дрыялі з галавы да пят, уважліва, як фэрмэр ацэньвае старога каня.

– Мне гэта не падабаецца, – сказаў Дрыялі, незаўважна адсунуўшыся. Шчыра кажучы, мсьё, мне гэта зусім не падабаецца.

Ён адступіўся проста ў абдымкі да нейкага высокага спадара, які выцягнуў рукі і далікатна схапіў яго за плечы. Дрыялі азірнуўся і папрасіў прабачэньня. Спадар усьміхнуўся і суцяшальна паляпаў старога па плячы рукой у яркажоўтай пальчатцы.

— Паслухайце, дружа, — сказаў незнаёмец, усё яшчэ ўсьміхаючыся, — вы любіце плаваць і загараць?

Дрыялі паглядзеў на яго зьбянтэжана.

— Вы любіце добрую ежу і чырвонае віно зь вінаграднікаў замка Бардо? Спадар усё яшчэ ўсьміхаўся, паказваючы здаровыя белыя зубы, паміж якімі паблісквала золата. Словы ён вымаўляў мякка і пранікнёна, рука ў пальчатцы ўсё яшчэ ляжала на плячы Дрыялі. — Такія рэчы вам падабаюцца?

— Ну... так, — адказаў Дрыялі, усё яшчэ зьбіты з панталыку, — вядома.

— А кампанія прыгожых жанчын?

— Чаму не?

— А адзежная шафа, поўная пінжакоў і кашуляў, меркі для якіх былі зьнятыя з вас? Бачу, што новая вопратка вам бы не зашкодзіла!

Дрыялі глядзеў на гэтага абыходлівага спадара, чакаючы, чым той скончыць.

— Для вас калі-небудзь шылі пантофлі на замову, адмыслова для вашай нагі?

— Не.

— Вам бы гэтага хацелася?

— Ну...

— А цырульнік, які б вас галіў і ўкладваў валасы зранку?

Дрыялі стаяў, адкрыўшы рот.

— А пампушка-манікюрша, якая б клапацілася пра вашыя пазногці?

Хтосьці ў натоўпе хіхікнуў.

— А званочак ля вашага ложку, каб выклікаць пакаёўку са сьняданкам? Вы б гэтага хацелі, мой дружа? Вас гэта прываблівае?

Дрыялі моўчкі глядзеў на яго.

— Рэч у тым, што я — уладальнік гатэля «Брыстоль» у Канах. Запрашаю вас туды жыць у раскошы і камфорце да канца вашых дзён!

Спадар зрабіў паўзу, каб быў час ацаніць такую прывабную пэрспэктыву.

— Адзіным вашым абавязкам, я б нават сказаў, вашым задавальненьнем, было б бавіць час на маім пляжы ў купальным касьцюме, гуляць паміж гасьцей, загараць, плаваць, частавацца кактэйлямі. Вам бы гэта спадабалася?

Адказу не прагучала.

— Хіба вы не разумееце? Такім чынам усе мае госьці змогуць бачыць гэту цудоўную карціну Суціна! Вы станеце вядомым, і людзі будуць казаць: «Глядзіце, вунь той хлопец зь дзесяцьцю мільёнамі франкаў на сьпіне!» Такая ідэя вам падабаецца, мсьё? Як вам?

Дрыялі глядзеў на гэтага высокага спадара ў жоўтых пальчатках зь недаверам.

— Ідэя камічная, — вымавіў ён марудна. — Няўжо вы і праўда маеце гэта на ўвазе?

— Вядома, так.

— Гэй, пачакайце! — умяшаўся дылер. — Слухайце сюды, дзядуля. Вось рашэньне нашай праблемы: я куплю карціну і найму хірурга, які выража скуру ў вас са сьпіны. Вы зможаце ісьці куды хочаце і распараджацца вялікімі грашыма, якія я вам заплачу!

— Бяз скуры на сьпіне?

— Не, не, калі ласка! Вы ня так зразумелі. Хірург прышые новы кавалак скуры на месца старога. Гэта проста.

— Хіба ён можа такое зрабіць?

— А нічога асблівага ў гэтым няма.

— Немагчыма! — сказаў спадар у жоўтых пальчатках. — Ён занадта стары, каб перанесьці такую вялікую перасадку скуры. Гэта яго заб'е. Гэта заб'е вас, дружа!

— Гэта заб'е мяне?

— Натуральна. Вы ня выжывеце. Застанецца толькі карціна.

— Божа літасьцівы! — крыкнуў Дрыялі.

Ён агаломшана глядзеў вакол, на ўсе гэтыя твары, зьвернутыя да яго, і ў цішыні, якая ўсталёўвалася, пачуў шэпт кагосьці з тых, хто стаяў далей: «Напэўна, каб гэтаму старому хтось прапанаваў дастаткова грошай, ён пагадзіўся б сябе забіць. Хто ведае?» Некалькі чалавек фыркнулі ад сьмеху. Дылер усхвалявана пераступаў з нагі на нагу.

Рука ў ярка-жоўтай пальчатцы зноў паляпала Дрыялі па плячы. «Ну жа, — казаў спадар, расьцягваючы губы ў белазубай усьмешцы, — вы і я зараз пойдзем добра павячэраем і яшчэ пагамонім пра гэтую справу. Як вам прапанова? Хочаце есьці?»

Дрыялі слухаў яго, насупіўшы бровы. Яму не падабалася доўгая гнуткая шыя гэтага фацэта і тое, як ён па-зьмяінаму выцягваў яе наперад, калі штосьці казаў.

– Смажаная качка і сухі шамбэртэн, – працягваў спадар. Словы ён вымаўляў з асаблівым націскам, глыбока і сакавіта, смакуючы кожнае. – І, магчыма, суфле з каштанаў, лёгкае і далікатнае.

Дрыялі ўзьвёў вочы да столі, ягоныя вусны сталі бязвольнымі і вільготнымі. Відаць было, што гаротны стары ажно захлёбваецца сьлінай.

Як вы хочаце, каб для вас пасмажылі качку? – працягваў спадар. – Моцна, да залацістай скарынкі, ці каб...

– Я іду, – хутка сказў Дрыялі. Ён ужо падабраў з падлогі кашулю і рашуча нацягваў яе на сябе праз галаву. – Пачакайце мяне, мсьё, я іду з вамі!

Літаральна праз хвіліну яго і ягонага новага знаёмца ўжо не было ў галерэі.

Ня больш чым праз некалькі тыдняў на аўкцыёне ў Буэнас-Айрэсе ўсплыла карціна Суціна: выкананы ў незвычайнай манеры жаночы партрэт, зьмешчаны ў цудоўную раму і пакрыты дарагім лакам. Гэта, а таксама той факт, што ў Канах няма гатэлю «Брыстоль», прымушаюць крыху насьцярожыцца і памаліцца за здароўе старога. І моцна спадзявацца на тое, што – дзе б ён цяпер ні быў – пампушка-манікюрша паліруе ягоныя пазногці, а пакаёўка прыносіць зранку сьняданак у ложак.

*Пераклала з ангельскай Анка Упала*

# Фрэдрык Ліндстром

## АПОШНІ ДЗЕНЬ ЛЕТА

– А ведаеш, магчыма, гэта апошні дзень лета... – сказала яна аднойчы, калі яны сядзелі на тэрасе ў праменьнях вечаровага сонца, а лісьце на дрэвах крыху трывожна шапацела ад лёгкага ветрыка.

І ён ясна зразумеў, што гэта – пачатак нечага такога, да чаго, напэўна, проста трэба прызвычаіцца.

Ішоў трэці тыдзень ліпеня, і ён быў рады, што лета толькі пачалося. Ягоны адпачынак пачаўся роўна тры дні таму, і пра апошні дзень лета думаць зусім не хацелася – прынамсі, у найбліжэйшы месяц.

Яны абодва былі проста створаныя для таго, каб цешыцца летам. Яны прыклалі столькі намаганьняў, здабываючы сабе гэты адпачынак, і цяпер рабілі ўсё мажлівае, каб атрымаць асалоду ад кожнай прыемнай дробязі. Дык ці ж павінны былі яны марнаваць час, хвалюючыся аб тым, што лета хутка скончыцца? Не! Асабліва ўлічваючы тое, што да канца лета насамрэч заставалася яшчэ шмат тыдняў.

Некаторы час яны сядзелі моўчкі, а потым ён упэўнена сказаў, што яшчэ зусім не канец лета. І вечар працягваўся: гаманіла радыё, кожны зь іх чытаў сваю кніжку і, уласна кажучы, не адбывалася нічога асаблівага. Толькі аднойчы побач зь іх домам спыніўся сьветла-жоўты «рэно-лагуна», і ў іх запыталіся, як праехаць да нейкага суседа, якога яны ня ведалі.

Яны пілі з тэрмаса каву, елі печыва й мінімум два разы на гадзіну казалі, што кахаюць адно аднаго. Ёнас час ад часу падумваў, ці ня кінуць вось так няспынна паўтараць фразу «Я цябе кахаю!», бо гэта ўжо стала надакучлівым і нават трохі падазроным – магло зьявіцца ўражаньне, што за апошнія паўгадзіны здарылася нешта такое, што прымусіла яго перастаць кахаць яе... Гэтая думка ўзьнікла зьнянацку і была дужа нечаканай. «Божухна, што са мной такое?! Як жа я безь яе?.. Не, так быць ня можа ...»

Яму было цяжка нават уявіць сабе сваё жыцьцё безь Мікаэлы, яна была ягонай неад’емнай часткай. Іх чакала цудоўная сумесная будучыня, у якой ён рабіў бы іх фатаздымкі і наклейваў бы іх у альбом... Таму ён вырашыў працягваць паўтараць, што кахае яе, па дзесяць разоў на дзень, інакш яна пачала б думаць, што нешта здарылася.

А нічога ж ня здарылася.

Прынамсі, нічога такога, пра што б ён ведаў.

Не, абсалютна нічога ня здарылася і не павінна было здарыцца, бо была сярэдзіна лета, а гэта такі час, калі зусім нічога не адбываецца.

...Міналі дні, так падобныя адзін да аднаго. Ёнас і Мікаэла па чарзе езьдзілі на ровары па марозіва, гародніну, сыраквашу ды вячэрнія газэты. Ёнас гуляў па навакольлі ў стаптаных сандалях, радыё не змаўкала амаль цэлымі днямі, і Ёнасу падабалася, што ён ужо шмат песьняў нават вывучыў на памяць. Аднойчы ў спальні на другім паверсе разьбілася акно, і Ёнасу давялося ехаць у Нортэль да майстра, які займаўся вырабам шкла. Гэтая вандроўка таксама парадавала Ёнаса.

У астатнім усе дні былі падобныя – дні чарговага цёплага лета пры канцы дзевяностых. Газэты пісалі, што на іх старонках яшчэ доўга будзе йсьці гаворка пра цёплае лета, а трава ўжо была жоўтая.

Вечарамі Ёнас і Мікаэла гулялі ў карты ды жавалі цягучкі, і навокал была такая цішыня і спакой, што на дрэвах не варушыўся ніводзін лісток. Ракеткі для бадмінтону ўжо былі складзеныя на паліцы ў калідоры, газонакасілка стаяла ў павеці і ўвогуле ўсё было ўпарадкавана.

Яны падоўгу шпацыравалі, назіраючы, як наліваюцца каласы, і ўдыхаючы пах пылу й чаканьня, які ўжо зьявіўся ў паветры. А кожную раніцу, калі яны прачыналіся, Мікаэла крыху ўсхвалявана глядзела на Ёнаса ды казала, што ўжо сёньня, напэўна, дакладна надышоў апошні дзень лета. Пасьля яны доўга ляжалі ды абмяркоўвалі імавернасьць гэтае падзеі. І зазвычай іх гутарка сканчалася тым, што Мікаэла пачынала плакаць, тлумачачы гэта тым, што яна дужа шчасьлівая, бо яны зь Ёнасам разам. А калі якая-небудзь раніца выдавалася дажджлівая і халодная, Мікаэле хацелася бараніць той дзень нават крыху больш, чым іншыя, і Ёнасу гэта падабалася, яму падабалася, як яны пражываюць кожны дзень. Аднойчы Мікаэла сказала, што яна шчасьлівая настолькі, што яшчэ адзін такі цудоўны дзень можа ўжо нават быць лішнім.

Тады яны сабралі кош, паклаўшы туды свае кніжкі, радыё, карты, пледы ды іншыя рэчы, і рушылі на другі бок свайго вялікага вострава. Яны доўга йшлі па цёплым і нейкім быццам бы нерэальным узьбярэжжы, размаўляючы аб тым, якія яны шчасьлівыя, і аб тым, што заўтра, магчыма, наступіць такая золкая ды скрозь імглістая восень, што ты нават перастанеш пазнаваць сябе, і адзінае, чаго табе захочацца, – ехаць у горад, скруціцца калачыкам у ложку і не паказваць на двор носа... Аднак калі б так раптам здарылася,

Мікаэла і Ёнас з упэўненасьцю маглі б сказаць, што яны выкарысталі свой апошні летні дзень найлепшым чынам.

– Я цябе кахаю, – кажа ён.

– І я кахаю цябе, – адказвае яна.

І пасьля яны абодва думаюць, як жа моцна яны адно аднаго кахаюць і як гэта добра.

Па дарозе назад яны дзівіліся на захад сонца і на поле, якое зусім нядаўна ўбралі. На тэлефонных дратах гуртаваліся птушкі, і ў паветры ўжо адчуваўся той асаблівы лёгкі неспакой, хаця ўсё па-ранейшаму было цудоўна. Яна мацней сьціснула ягоную руку, быццам наперадзе іх чакала нейкае выпрабаваньне. Голас яе задрыжэў.

Увечары яны смажылі грыль і гутарылі пра тое, як важна берагчы лета і цаніць кожнае яго імгненьне. І яшчэ пра тое, што, напэўна, ніхто так ня варты добрага лета, як яны, якія столькі перажывалі і ледзь ня цэлую зіму змагаліся за права атрымаць адпачынак менавіта ў гэты час, каб з асалодай пражыць летуценнае ды караценькае лецейка. А заўтра ж ужо, напэўна, надыдзе восень, і жыцьцё зноў ператворыцца ў бясконцы шэраг будняў...

Але наступны дзень быў гэткім жа цёплым, як і папярэдні. На двары стаяла толькі дзевятнаццатага жніўня, і нават птушкі пакуль не зьбіраліся ляцець на поўдзень. Калі праз тыдзень, выпраўляючыся ў горад, Ёнас і Мікаэла пакідалі сваё лецішча, было такое адчуваньне, што лета цяпер у самым разгары: зноўку пачалі квітнець ружы, пасьля пэрыядычных начных дажджоў усё зазелянела й набрыняла сьвежасьцю. Увогуле, каб не духмяныя яблыкі, якія паўсюль ляжалі ў траве, можна было б сказаць, што лета толькі пачалося.

Калі ў адзін зь верасьнёвых выходных Ёнас вярнуўся на лецішча, каб адключыць у сваім дамку ваду і зачыніць яго на зіму, надвор’е па-ранейшаму было цёплым, і суседзкія дзеці нават купаліся.

...І ўжо не выклікала крыўды, а проста падавалася трошкі дзіўным тое, што доўгачаканы апошні дзень лета так і не надышоў – той дзень, які яны так хацелі пражыць разам, падзяліўшы пароўну яго смутак і журбу.

*Пераклала са швэдзкай Дар’я Вашкевіч*

# Тэйлар Мэлі*

## ШТО РОБЯЦЬ НАСТАЎНІКІ, АЛЬБО ЛАМАНЬНЕ СТЭРЭАТЫПАЎ, АЛЬБО КАЛІ НІЧОГА НЯ ЎМЕЕШ, ПАСТУПАЙ НА ЮРФАК

Ён кажа, праблема настаўнікаў у: «Чаму можна навучыцца ў чалавека,
які не прыдумаў нічога лепшага,
чым стаць настаўнікам?»

Ён нагадвае гасьцям прапісную ісьціну:
хто нешта ўмее – робіць; хто ня ўмее нічога – вучыць.

Я вырашыў прыкусіць свой язык, а не ягоны.
І стрымацца, каб не нагадаць астатнім гасьцям,
што тое самае кажуць і пра юрыстаў.

Бо мы вячэраем, і ў нас усё-ткі інтэлігентная кампанія.

«Бо ты ж настаўнік, Тэйлар, –
гаворыць ён. – Скажы шчыра, што ж ты робіш?»

Лепш бы ён не рабіў гэтага
(не прасіў мяне быць шчырым),
бо, ведаеце, у мяне свае паняцьці
пра бізун і пернік:
ты спытаў, я адкажу.

---

* Тэйлар Мэлі – настаўнік і паэт, нарадзіўся 28 сакавіка 1965 году ў Нью-Ёрку. Увогуле адзін з найбольш пасьпяховых слэм-паэтаў і стратэгаў Паўночнай Амэрыкі: ён прывёў шэсьць зь сямі сваіх камандаў да фіналу нацыянальных чэмпіянатаў слэм-паэзіі і чатыры разы атрымаў перамогу. Аўтар кнігі «What Learning Leaves» (2002), чатырох дыскаў вершаў у аўдыё, удзельнік шматлікіх кніжных і аўдыёанталёгій.

Выступы Тэйлара Мэлі досыць адрозьніваюцца ад таго, што зазвычай адбываецца на слэмах. Гэта спакойныя чытаньні, насычаныя іроніяй і інтэлектуальнымі пародыямі, бяз вонкавага эпатажу, без залішняй экспрэсіўнасьці і патасу (калі яны не інструмэнт сатыры). Паводле яго словаў, галоўная вартасьць слэму – гэта тое, што ён вяртае права вырашаць, што добра, а што дрэнна ў вершах, людзям, якія ніколі не павінныя былі пазбаўляцца гэтага права: да тых, хто проста п’е піва альбо каву ў кавярні, бо слэм-паэзія распачынае дэбаты.

Хочаш ведаць, што я раблю?

Я прымушаю дзяцей працаваць болей, чым яны маглі сабе ўявіць.
Я раблю з «3+» ганаровы мэдаль Кангрэсу,
а з «5-» — поўху.
Зрабі ўсё, што можаш, —
на меншае мне шкада часу.

Я раблю ў клясе абсалютную цішыню на 40 хвілін.
Не, вам нельга працаваць у групах.
Не, вам нельга задаваць пытаньні.
Чаму я не дазваляю табе папіць вады?
Бо ты ня хочаш піць, проста ў цябе шыла ў адным месцы — вось чаму!

Я раблю так, што бацькі трымцяць ад жаху, калі я тэлефаную.
Добры вечар, вас турбуе містэр Мэлі.
Я спадзяюся, што тэлефаную ў зручны момант,
я толькі хацеў пагаварыць з вамі пра Білі.
Ён сказаў сёньня: «Адстаньце ад мяне! Я часам плачу, а вы не?»
І гэта самы адважны ўчынак на маёй памяці.

Я раблю так, каб бацькі пабачылі сваіх дзяцей такімі, якія яны ёсьць
і якімі яны могуць быць.

Хочаш ведаць, што я раблю?

Я раблю, каб дзецям было цікава,
каб яны задавалі пытаньні,
каб яны крытыкавалі,
каб яны выбачаліся і мелі гэта на ўвазе.
Каб яны пісалі, пісалі, пісалі
а потым — чыталі.
Каб яны пісалі цэнтралізаванае тэставаньне, цэнтралізаванае тэставаньне, цэнтралізаванае тэставаньне —
зноў, і зноў, і зноў жа, пакуль яны не напішуць без памылак любое
цэнтралізаванае тэставаньне.

Я раблю так, каб яны здавалі чарнавікі з рашэньнямі на матэматыцы
і каб без памарак перапісвалі свае сачыненьні па літаратуры.

Я раблю так, каб яны зразумелі, што калі маеш гэта (галаву),
тады слухаесься гэтага (сэрца), і калі нехта асудзіць цябе
за тое, што ты робіш,
ты паказваеш ім гэта (сярэдні палец).

Дайце мне пераканаць вас, што праўда на маім баку:
я раблю сваю працу! А ты?

# ЯК НАПІСАЦЬ (ДРЭННЫ) ВЕРШ ПРА ПАЛІТЫКУ

Ну што, пачнем, гэта павінна гучаць гучна,
а потым стане яшчэ гучней.
Бо так трэба пісаць верш пра палітыку
і дэклямаваць яго зь сілай.

Вазьмі актуальныя навіны і зьмяшай з наборам банальнасьцяў.
Абгарні гэта ў рыфмы, альбо рэпуй, пакуль не паверать.

Зыр на іх, пакуль ня дойдзе.

Бо недзе ў Флорыдзе дагэтуль падлічваюць галасы.
Вы чулі? Недзе ў Флорыдзе дагэтуль падлічваюць галасы!

Глядзі, гэта ўдар, і ў цябе мусіць быць удар.
Болей за позірк, ён гаспадар, гэты ўдар — самая важная частка!
Удар — гэта трапна, удар — гэта кропка,
Удар у самае сэрца ўласна — гэта як пастка.

Бо недзе ў Флорыдзе дагэтуль падлічваюць галасы!

І Дзік Чэйні абасцыцца ў сутаргах захапленьня.
Бачыш, што я зрабіў?

Зрабі з палітыкаў клоўнаў, гэта лёгка, асабліва з рэспубліканцамі –
Рудзі Гілані, Колінам Паўэлам і... Альбэртам Горам!
Бачыш, што я зрабіў? Я назваў Альбэрта Гора рэспубліканцам!
Параўнай дзеля сьмеху пэрсоны і асноўныя палітычныя партыі,
быццам камунізм – гэта дэмакратыя наадварот,
быццам нам быў патрэбны ня Ральф Нэйдэр, а Дарт Вэйдэр.

*...Зноў залунае наш штандар, палыхне ўначы пажар...* –

спыніцеся пасярэдзіне песьні, якую ўсе ведаюць і любяць.
Гэта надасьць вершу актуальнасьці.
Бо палітычныя вершы заўсёды актуальныя.
Нельга марнаваць час!
Карупцыя працуе ў тры зьмены,
сквапнасьці пофіг, якога ты колеру,
і паліцэйскі аддзел Нью-Ёрку
набіты людзьмі, якія носяць зброю на сьцёгнах
і бляхі, прышпіленыя да сэрцаў.
Несправядлівасьць – не несправядлівасьць,
гэта ня справа для нас, ня праўду і веды лілі ў вас,
правялі праз правады ў вас несправядлівасьць.
Трэпанацыя трэба нацыі,
дзеля якой ты змагаесься за свабоду,
Сьпяваць для глухіх – слабо, да?

І нават калі я гэта кажу, недзе ў Флорыдзе дагэтуль падлічваюць галасы.

І гэта вымушае мяне зрабіць біт-бокс да рэпу:

Бо я бачыў капітуляцыю і прыватызацыю
я магу казаць з большай артыкуляцыяй
пра інфляцыю і атамную радыяцыю
я глядзеў прэзыдэнцкую інаўгурацыю
але больш паважаю мультыплікацыю
я буду мець рацыю, калі раскрыю інфармацыю,
што слэм-акцыі – гэта маніфэстацыі
паэтычнай мастурбацыі і эгаістычнай эякуляцыі.

А ў Флорыдзе дагэтуль падлічваюць галасы,
і пакуль ты скончыш верш,
гэта ўжо будзе няважна.

Усё, што ты можаш зрабіць, —
заплюшчыць вочы,
прыцішыць голас і скончыць верш, паўтараючы:

той самы радок тры разы
той самы радок тры разы
той самы радок тры разы

# ЗАКАХАЦЦА — УСЁ АДНО ШТО ЗАВЕСЬЦІ САБАКУ

**Эпіталяма**

Перш за ўсё, гэта вялікая адказнасьць,
асабліва ў такім горадзе як Нью-Ёрк.
Таму падумай двойчы, перш чым наважысься прывесьці дамоў каханьне.

Зь іншага боку, каханьне дае адчуваньне бясьпекі:
калі ты крочыш позна ўначы ўздоўж вуліцы,
а з табой — каханьне на прывязі,
ніхто і не падумае напасьці на цябе,
бо злодзеі і рабаўнікі адчуваюць, што каханьне непрадказальнае.
Хто ведае, што яно зробіць, абараняючыся?

Халоднымі зімовымі вечарамі каханьне грэе.
Яно ляжыць паміж вамі і жыве, і дыхае,
і стварае забаўныя гукі.
Каханьне абудзіць цябе пасярод ночы па свае патрэбы.
Яно мусіць добра есьці, каб расьці і быць здаровым.

Каханьню не падабаецца заставацца ў самоце надоўга.
Калі ты вяртаесься дадому, каханьне радае бачыць цябе.

Яно можа выпадкова зламаць што з рэчаў, неабходных для жыцьця,
але ты ня здолееш злаваць.

Каханьне заўжды добрае? Не! Не!
Яно можа быць кепскім. Фу, каханьне, фу! Вельмі кепскае каханьне.

Каханьне спараджае хаос.
Каханьне пакідае маленькія сюрпрызы тут і там.
Каханьне патрабуе прыбіраць пасьля яго.

Часам ты хочаш трымаць каханьне на ланцугу.
Часам хочацца скруціць газэту і шлёпнуць каханьне па носе —
не балюча, а толькі каб даць зразумець, што так рабіць нельга.

Часам каханьне жадае проста доўга і міла гуляць.
Яно мае патрэбу ў зьдзяйсьненьні.
Яно прымушае бегаць за сабой вакол слупа,
а потым пакідае аднаго аддыхвацца.
Яно цягне адразу ў некалькіх кірунках,
альбо бегае, бегае вакол цябе,
пакуль ты, аслупянелы, болей ня здольны рухацца.

Але куды б ты ні ішоў, каханьне прымушае сустракаць людзей.
Людзей, не падобных між сабой, але такіх, якія любяць спыніцца
і размаўляць адно з адным пасярод вуліцы.

Выкіньце рэчы, і каханьне верне іх
ізноў, ізноў і ізноў,
але болей за ўсё каханьне мае патрэбу ў — каханьні.
І апошняе: каханьне любіць цябе, і так будзе заўжды.

# Я МАГУ БЫЦЬ ПАЭТАМ

Я думаю, я магу быць паэтам, бо я люблю апранацца ў чорнае.
І я магу выдумваць абы-што, напрыклад: марксіст бярэ крэдыт у банку,
«Porsche» буксіруе «інвалідку», небарака пацягвае капучына
з нацэленым у неба мезенцам.

Я бачыў паэтаў, што сьпявалі песьні ў сваіх вершах –
бяз дай прычыны, адно дзеля факту –
закаханых ва ўласныя галасы,
у канцы кожнага радка яны падвываюць,
на кожным радку яны падвываюць,
пакуль яны чытаюць, чытаюць і... чыта-аюць?
Бачыш, прапісных ісьцінаў у прозе саромеюцца,
у паэзіі іх нават яшчэ падвываюць,
бо яны дадаюць прыхаванага сэнсу:
я разумею, пра што я кажу, і ты не тупі.

І я не баюся абламацца.
І я не баюся выкарыстаць АДНО лаянкавае слова,
каб даць вам зразумець, што я АХУЕННА сур'ёзны!

Я не баюся таксама

КРЫЧАЦЬ! З НАПРУГАЙ! І ДОЎГІМІ, ДРАМАТЫЧНЫМІ . . .

ПАЎЗАМІ,

ПОЎНЫМІ ТРЫВОГІ!

І, пакуль вы слухаеце, падвышаць голас.
І словы, рэдкія дзівосныя словы –
*акавіта, адмысловы, памяркоўнасьць* –
выкарыстоўваць, каб нагадаць вам –
«Я пісьменьнік! Жарыце мой слоўны бруд!»

А напрыканцы
прамаўляць мякка, навязьліва пяшчотна
хоць і не без іроніі, каб
скончыць раптоўна, шматзначна

*Пераклаў з ангельскай Віталь Рыжкоў*

# Зьмест